# ПРАЦАК

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНА-
АСЬВЕТНІЦКАГА ЦЭНТРА
КЛІЎЛЕНД
ЗША



*«Я ад Вас далёка, бацькаўскія гоні,—*
*На чужое неба ўжо гляджу сягоньня.*
*Але думкай, сэрцам толькі вас я знаю,*
*Як і жыў, жыву я ў сваім родным краю...»*

№5(15), 1992

# Polacak

Published with the financial support of the parish
Mother of God of Zyrovicy,
Cleveland, Ohio, USA.



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя
будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. (216) 651-3451





**Андрэй Карпук** распрацоўка шрыфтоў, заставак і макета вокладкі
На першай бачынцы вокладкі: **Арлен Кашкурэвіч** «Я ад вас далёка...»
На развароце: **Яўген Ціхановіч** «Янка Купала й Якуб Колас»
На чацьвёртай бачынцы вокладкі: Артысткі Купалаўскага тэатру Лілія Давідовіч і Зоя Белахвосьцік



# Пачынальнікі

Сьвятлана Белая



Яны Адраджэнцы.
Яны Пачынальнікі.
Яны Паэты.
І аднагодкі да таго-ж.

Пачынальнікі новай беларускай літаратуры Янка Купала й Якуб Колас, пачынальнік беларускага школьніцтва Адвард Будзька, пачынальнік нацыянальнага прафэсыйнага тэатра Уладзіслаў Галубок... У гэтым годзе—110-лецьце з часу іх нараджэньня.

Перачытваю ўспаміны аб гэтых людзях і дзівуюся. Да чаго-ж падобныя пры ўсёй непадобнасьці іхнія лёсы.

Ворагам народу быў абвешчаны народны артыст Уладзіслаў Галубок.

Здраднікам народу — нашанівец Адвард Будзька.

Народнаму песьняру Янку Купалу супрацоўнікі НКУСа адплацілі ўсім, чым магла іх моц. Сьвяткаваньне з нагоды дня нарадзінаў паэта ператварылі ў ягоныя хаўтуры.

Аўтара паэмы «Новая зямля», энцыкляпэдыі народнага жыцьця беларусаў, Якуба Коласа тыя-ж супрацоўнікі НКУСа пазбавілі магчымасьці адкрыта размаўляць з сваім народам.

У лёсе гэтых людзей адбіўся агульны трагічны лёс цэлага пакаленьня беларусаў.

Тысячы людзей, іх аднагодкі, абьяўленых ворагамі народу бязь вестак загінулі ў лягерах і ссылках далёка ад Беларусі. Другія тысячы таксама назаўсёды разьвіталіся з Бацькаўшчынай, хаваючыся ад расплаты за межамі роднага краю. Трэція мусілі паступова зьмірыцца зь цяжкім лёсам нявольнікаў.

Трагічнасьць лёсу й аб'ядноўвае іх. Але ня толькі гэтае.

Яны былі сьветачамі, што адраджалі з папялішчаў беларускую гісторыю і мову.

Яны былі дойлідамі, якія пачалі ствараць новую культуру, выхоўваць плеяду маладога пакаленьня-будаўнікоў.

Яны былі песьнярамі і сваімі песьнямі звалі народ к праўдзе, братэрству і свабодзе.

Таму сёньня мы адзначаем іхні юбелей, і, дай Божа, не апошні раз.

*Пройдуць стагодзьдзі,*
*а можа нават і болей.*
*Час ня зьменіць герояў*
*і іхнія мроі.*
*І нашчадкі,*
*чытальнікі «Нашае нівы»,*
*успрымуць яе,*
*як успрымаем мы сёньня*
*друкі Францішка Скарыны.*
*І нават тады яны застануцца—*
*Адраджэнцы, Пачынальнікі і Паэты.*
*Для нас, нашых унукаў*
*і тых,*
*хто прыйдзе на зьмену нам.*

У гэтым нумары часопіс «Полацак» працягвае знаёміць чытачоў з лёсамі адраджэнцаў беларускай зямлі, пачынальнікаў яе культуры і гісторы. Сёньня мы прапануем Вам успаміны пра Адварда Будзьку, Уладзіслава Галубка, Янку Купалу й аўтабіяграфію Канстантына Езавітава.

# Ен быў нашаніўцам



Міхась Белямук



44 гады назад, 14 жніверня 1958 г. пазваніў тэлефон і паведамілі з Чыкага, што Адварда Будзькі больш няма з намі — памёр. Пахавалі яго на могілках сьв.Вайцеха ў Чыкага.

110 год назад, 22 сакавіка 1882 г. у Будславе, Вілейскага павету, у сялянскай хаце нарадзіўся Адвард (Эдвард) Будзька. Ён быў аднагодкам Янкі Купалы, Якуба Коласа, Уладзіслава Галубка, Івана Мацея.

Будслаў у тыя часы налічваў каля 1000 жыхароў. Была тут пачатковая школа і прыгожы мураваны касьцёл, пабудаваны ў 1633-1644 гг. Паколькі ў асноўным пробашчы касьцёла былі мясцовага паходжаньня, а сваяк Адварда Пранцісь Будзька ў мінулым стагодзьдзі быў будслаўскім пробашчам, мажліва таму, польскія ўплывы ў Будславе былі мінімальныя. Жыхарства Будслава й яго ваколіц гаварыла па-беларуску, палякамі сябе не ўважалі, хаця і былі рымакаталіцкага веравызнаньня.

А.Будзька атрымаў пачатковую асьвету ў Будславе і пайшоў у шырокі сьвет, каб здабыць вышэйшую адукацыю. У 1900 г. бачым яго ў Рызе, у наступным годзе ён паступае ў палітэхнічны інстытут, але змушаны спыніць студыі з-за недахопу фінансавых сродкаў. Падчас свайго побыту ў Латвіі шукаў суродзічаў і паспрыяў, што ў Рызе паўстала беларуская арганізацыя.

У 1905 г. цар Мікалай выдае «Маніфэст», згодна якога беларусы атрымалі дазвол на выданьне газэтаў, часопісаў, календароў і кнігаў у сваёй роднай мове. У Вільні выходзіць «Наша Ніва» і беларускія календары. А.Будзька становіцца кальпартэрам, супрацоўнікам і нават сябрам рэдкалегіяў газэты і календароў. Ён піша нататкі пра жыцьцё беларусаў у Рызе і Будславе. Таксама займаецца паэзіяй. Ягоныя вершы «Лес», «Восень», «Час ляціць», «З турмы» былі надрукаваныя, але ён у Чыкага расказваў, што некалькі ягоных вершаў было ў папках рэдкалегіі, і ён не дамагаўся, каб іх друкавалі, бо былі іншыя паэты, якія, як казаў Будзька «лепшыя за мяне, не кажучы пра Янку Купалу й Якуба Коласа, зь якімі я быў асабіста знаёмы.» Нажаль, тыя вершы й артыкулы, якія ён у рэдакцыю не аддаў, загінулі падчас апошняе вайны. Супрацоўнічаў ён ня толькі з «Нашай Нівай», але із «Дзяньніцай», што выдавалася ў Пецярбургу. З першага да сёмага нумару зьмешчаныя ягоныя артыкулы пад назовам «Думкі да граматыкі», дзе ён разглядаў асаблівасьці беларускае народнае мовы. «Дзяньніца» была спыненая 17 студзеня 1917 г., і Будзька пасылае свае артыкулы ў газэту «Наша будучыня». Апрача свайго прозьвішча артыкулы падпісвае ініцыяламі А.Б. і псэўданімам Акцуб.

Будучы чалавекам рухлівым, поўным энэргіі і бадзёрасьці, хаця і невялікага росту, не бракавала яму арыгінальных ідэяў. Будслаў быў малым мястэчкам, але А.Будзька разумеў, што нацыянальная сьведамасьць мацуецца, дзякуючы асьвеце. Для вясковай моладзі была патрэбная гімназія. Пачаліся гутаркі зь сялянамі, якія ўважліва выслухалі аргумэнты А.Будзькі і згадзіліся сабрацца на сход у справе гімназіі. На сходзе пастанавілі забраць будынак «валаснога ўпраўленьня» пад школу, сабраць грошы для аплаты навуковага пэрсаналу. Выбраны

камітэт узначаліў А.Будзька. Камітэт зьвярнуўся да Лявона Вітана-Дубейкоўскага, каб той распрацаваў плян двухпавярховага будынка для школы. Л.Дубейкоўскі паходзіў з Мсьціўслаўшчыны, у 1903 г. закончыў інстытут цывільных інжынераў у Пецярбургу. У 1907 г. запісаўся ў Парыжы на студыі ў французкую Акадэмію архітэктуры, якую закончыў у 1910 г. Дзякуючы знаёмству зь Вячаславам Іваноўскім у 1915 г. прыязджае ў Вільню, дзе зь ім і пазнаёміўся А.Будзька ў рэдакцыі «Нашай Нівы», бо абодва былі сябрамі выдавецкага таварыства «Загляне сонца й у наша аконца». Л.Дубейкоўскі быў на 13 гадоў старэйшы ад А.Будзькі (народжаны 20 ліпеня 1869 г. ) Ён ахвотна згадзіўся распрацаваць плян пабудовы гімназіі. Недалёка ад Будслава быў лес пана Аскеркі, які раньняй вясной 1917 г. пачалі самавольна сяляне пілаваць для пабудовы школы, і з-за якога А.Будзька пазьней меў прыкрасьці. Восеньню 1918 г. новы школьны будынак быў амаль гатовы.

Паколькі ў дадатак да будынку пачатковай школы забралі будынак «валаснога ўпраўленьня», гімназія пачала дзеіць перад калядамі 1917 г. На дырэктара запрасілі земялка Васілевіча, які закончыў Маскоўскі ўнівэрсытэт і па прафэсіі быў археолягам. У сувязьзю з вайной, жыхары вялікіх гарадоў мелі недахоп у прадуктах харчаваньня, а ў Будславае іх было дастаткова. Да таго А.Будзька меў знаёмствы зь беларускай інтэлігенцыяй, таму настаўніцкі пэрсанал ён арганізаваў хутка. Адчынілі тры гімназыяльныя клясы з надзеяй, што паступова ў Будславае будзе васьміклясная гімназія. Калі ў 1918 г. нямецкая армія заняла Будслаў, гімназія атрымала дапамогу. Нямецкія афіцэры ахвотна выкладалі нямецкую мову, забясьпечвалі вучняў сшыткамі, алавікамі, кніжкамі ды іншымі рэчамі.

У 1918 г. мелі 4 гімназіяльныя клясы, дзе было больш за 350 вучняў. Гімназія з дапамогаю А.Будзькі пачала выдаваць часопіс «Сьветач». Настаўнікі заахвоцілі гімназіяльную моладзь апрача аркестры арганізаваць драматычны, танцавальны, літаратурны і харавы гурткі. Для пазашкольнай моладзі пры гімназіі арганізавалі вячэрнія асьветныя лекцыя. Культурна- выхаваўчае жыцьцё ня толькі моладзі, але старэйшага грамадзтва запульсавала ў Будславе, і А.Будзька пачаў абмяркоўваць справу залажэньня каапэратыву.

Восеньню 1919 г. Будслаў занялі польскія легіёны і гімназію зачынілі, а. А.Будзька быў змушаны ўцякаць у Вільню, каб пазьбегчы пакараньня за скарыстанае дрэва зь лесу пана Аскеркі на пабудову гімназыяльнага будынка. Аднак і ў Вільні пачалі яго шукаць, і ён пераязджае ў Коўна, пазьней ў Дзьвінск, дзе стаў ініцыятарам і кіраўніком настаўніцкіх курсаў 1921-1922 гг. Зь ягонай ініцыятывы ў Дзьвінску закладаецца культурна-асьветніцкае таварыства «Бацькаўшчына», пачынаецца падрыхтоўка да адкрыцьця ў Дзьвінску беларускае гімназіі.

Нельга ня ўспомніць, што А. Будзька быў удзельнікам Першага Ўсебеларускага Кангрэсу ў сьнежані 1917 г. Ён быў абраны ў Раду. У пэрыядзе паміж сусьветнымі войнамі А.Будзька прыймаў самы актыўны ўдзел у каапэратыўным руху. Ён хацеў палепшыць жыцьцё на вёсцы праз каапэратыўныя прадпрыемствы.

Я пазнаёміўся зь ім ў 1948 г. У Нямеччыне і ў Чыкага яго рэспэктавалі, бо ён быў шчырым патрыётам, але вельмі сьціплай асобай. Не любіў ён хваліцца сваімі дасягненьямі, сваімі знаёмствамі, а ведаў А. Будзька вялікую колькасьць нашаніўцаў, бо і сам належаў да тых, хто будзіў наш народ да змаганьня, каб людзьмі звацца.

# Слова пра бацьку



Людвіка Бяленіс і Ірэна Пануцэвіч



*Ёсьць такія сустрэчы, якіх нельга забыць. Вы нават не разумееце, што асаблівага было ў іх, чаму час ад часу ўсплываюць яны так ярка ў сьвядомасьці, прыгадваючы ўсе новыя і новыя дэталі.*

*Сваёй атмасфэрай, шчырасьцю, задушэўнасьцю, ня ведаю нават чым, але маё спатканьне зь сёстрамі Будзькамі запомніліся і не выходзіць з памяці.*

*Я прыехала да Ірэны Пануцевіч і Людвікі Бяленіс у травені 1992 г., зьбіраючы матэрыялы аб Віленскай Беларускай гімназіі, дзе яны вучыліся. Але размова нашая пачалася не з гімназіі, а з бацькі — Адварда Будзькі. Потым я зразумела, чаму. Гэты чалавек быў больш чым бацька, ён быў іх унівэрсытэтам, верай, ідэялам, прыкладам. І з тымі вурокамі, якія ён вынес з школы свайго нялёгкага жыцьця, ён шчодра дзяліўся зь дзяцьці: Ірэнай, Людвікай, Чаславам.*

*А яшчэ Будзька перадаў ім у спадчыну дух, настрой, аптымізм, узаемаразуменьне й узаемападтрымку той нашаніўскай пары. Можа гэта і ёсьць тая няўлоўная і непаўторная прыгажосьць у характары сясьцёр, якую так рэдка можна сустрэць зараз і якую нельга забыць.*

*І калі я пераступіла парог іх чыкагскага дома, то апынулася быццам-бы у Беларусі, сярод нашаніўцаў, аб якіх я столькі чытала, і зь якімі не давялося сустракацца. Атмасфэра той нашаніўскай пары, дух тых часоў жыве ў гэтым доме. Я хачу, каб Вы, шаноўныя чытачы, адчулі яго, і з аповяду гэтых жанчын зразумелі, адкуль яго вытокі.*

*Сёньня мы друкуем дачкоўскі гімн бацьку. На вялікі жаль, успаміны сясьцёр Ірэны і Людвікі—гэта толькі драбнюсенькія адбітачкі вялікага люстэрка душы адраджэнца, нашаніўца Адварда Будзькі.*

Сьвятлана Белая

Бацька наш Адвард Адамавіч Будзька нарадзіўся 22 сакавіка 1882 году ў Будславае, Вілейскага павету. Будслаў быў невялікім мястэчкам, які адрозьніваўся ад іншых малых гарадкоў бадай што голькі сваім вялізарным касьцёлам Бернардзінцаў, адбудаваным ў другой палове ХУІІ ст. Касьцёл быў такі вялікі, што ў час вайны ў яго склепах хаваліся жыхары ўсяго Будслава. А калі мы хадзілі ў лес па ягады, то як-бы далёка не заходзілі ўглыб, заўсёды бачылі яго крыжы.

Гаспадарка нашага дзеда не была вялікай, да таго-ж бацька заўсёды меў цягу да навукі. Так як ў Будславе працавала толькі чатырохклясная школа і магчымасьцей для далейшай асьветы не было, бацька паехаў на вучобу ў Рыгу, дзе у той час было многа ягоных знаёмых. (У маленькім Будславе асаблівай працы не было, і моладзь падавалася ў вялікія гарады, пераважна ў Рыгу, дзе пачынаўся моцны беларускі рух).

У Рызе бацька і пазнаёміўся з нашай маці Валерыяй, якая разам з Паўлінай Мядзёлкай, далёкай сваячніцай і суседкай бацькі, вучылася на настаўніцу. Ёй тады было толькі 16 гадоў. І ў той год яна заканчвала сваю вучобу і мусіла ехаць па разьмеркаваньню на вёску працаваць у школе. Бацька настолькі баяўся згубіць яе, што, не чакаючы разьмеркаваньня, прапанаваў ёй ажаніцца. Маці згадзілася, і ў 1908 годзе, у Полацку, у каталіцкім касьцёле, дзе служыў ксёндзом бацькаў дзядзька, адбыўся шлюб.

Шчасьцівыя маладжоны ўладкаваліся жыць у бацькоў маці. Тут, у Рызе, у 1909 годзе і нарадзілася Ірка. К гэтаму

1909 годзе і нарадзілася Ірка. К гэтаму часу бацька ужо быў пад наглядам гайнай паліцыі. А праз некаторы час ён мусіў пакінуць Рыгу. Повадам паслужыла ягонае ярка нацыянальнае выступленьне на нейкім антыўрадавым мітынгу. Бацьку заарыштавалі, пасадзілі ў астрог, потым зьнялі з працы (у той час ён, здаецца, быў бухгалтарам у нейкім каапературыве). Магчымасьці знайсьці працы не было, тым больш што паліцыя пастаянна наведвалася і рабіла вобыскі. Бацька пераехаў у Вільню, дзе ў яго было таксама багата знаёмых.

Пачынаючы з першых нумароў выпуску «Нашай нівы», ён быў яе актыўным супрацоўнікам. У газэце друкаваліся ягоныя вершы, зацемкі, карэспандэнцыі, многія бяз подпісу, бо бацька быў вельмі сьціплым і не любіў асабліва выстаўляцца. Неўзабаве ён уладкаваўся кантралёрам у нейкім таварыстве і перавёз з сабой сям'ю. Тут, у Вільні, у 1911 годзе нарадзілася Людвіка .

Але жылі ў Вільні мы нядоўга. Калі пачалася першая сусьветная вайна бацькі выехалі разам з многімі беларусамі ў Пецярбург.



Сямья Будзькаў. Пецярбург, 1915 г.

У Пецярбургу было багата беларусаў і разам з наехаўшымі стварылася вялікая грамада, якая ладзіла вечарыны, лекцыі, канцэрты. У горадзе голад, холад, ваенная атмасфэра, а беларусы жывуць дружнай сям'ёй. Дьзверы нашай хаты не зачыняліся. Гэта была шчасьлівая пара жыцьця. Усе разам рабілі агульную справу па адраджэньню Бацькаўшчыны. У грамадзкім жыцьці прымалі ўдзел нават дзеці. Малыя прысутнічалі на ўсіх пастаноўках і вечарах. Тады-ж маці і вышыла для Іркі першы беларускі касьцюмчык. Бацька ў той час быў вельмі заняты. Ён супрацоўнічаў з газэтай «Дзяньніца», а яшчэ выношваў ідэю стварэньня ў Будславе гімназіі.

У Будславе жыло нямала актыўных беларусаў, але трэба было каб імі нехта пакіраваў. Так як бацька любіў і умеў арганізоўваць людзей, ён намовіў іх на стварэньне гімназіі. У той час разьвярнулася дзейнасьць Беларускага настаўніцкага саюзу, які паўстаў у 1916 годзе, Беларускі нацыянальны Камітэт выказаў патрэбу «нацыяналізацыі беларускай школы». У Віленшчыне, Горадзеншчыне, Наваградчыне адчыняюцца беларускія школы, арганізоўваюцца настаўніцкія курсы. Бацька з будслаўцамі прыступае да будаўніцтве ў Будславе гімназіі.

Калі будынак быў амаль зроблены, бацька паехаў у Вільню, каб зарэгістраваць гімназію. І трэба-ж было таму здарыцца каб у той самы дзень, у той самы час, у той самы пакойм дзе ішла рэгістрацыя, прыйшоў Р.Астроўскі, які пры часовым урадзе Керанскага выкладаў у Менскім Настаўніцкім Інстытуце. Р.Астроўскі заарганізаваў гімназію ў Слуцку і таксама прыйшоў яе зарэгістроўваць. Бацька казаў, што заняткі ў Слуцкай гімназіі пачаліся на адзін дзень раней, чым ў Будслаўскай. Гэта былі дзьве першыя беларускія гімназіі, якія пачалі працаваць у канцы 1917 году.

Будслаўская гімназія была даволі вялікая. У першы год стварэньня ў ёй вучылася 300 вучняў. Тады-ж пры гімназіі паўстаў культурна-асьветніцкі гурток «Вяночак». Драматычная сэкцыя гэтага гуртка ладзіла ў мястэчку спэктаклі «Паўлінку», «Па рэвізіі», «Як яны жаніліся». З гэтымі спэктаклямі вяночкаўцы выязджалі ў мястэчкі Даўгінава і Докшыцы.

У Будслаўскаю гімназію і пайшла ў першы кляс Ірка. Людовіка і Часлаў пачалі навуку ў папярэднім клясе Віленскай Беларускай гімназіі, бо сям'я зноў мусіла пераехаць у Вільню.

Бацька быў весь час у разьездах. Ён быў сябрам управы Віленскага Саюзу Каапэратараў, і працаваў кантралёрам у Саюзе. Туды ён сьцягнуў на працу і некаторых беларусаў. Але ня ўсе змаглі працаваць там, бо праца была цяжкая. Езьдзілі па вёсках, невялічкіх мястэчках, аб'язджаючы ўсю Польшчу. Увесь час на калёсах і на сухім пайку. Але бацька неяк трымаўся. Ён быў вегатарыянец, і гэта яму дапамагала. Бацьку падабалася ягоная праца, бо весь час сустракаўся з новымі людзьмі, мог весьці агітацыю за беларускую ідэю. Часамі, падчас службовых камандзіровак па мястэчках, у старажытных маёнтках траплялісія яму рэдкія беларускія рэчы і выданьні, якія ён пасьля перадаваў для Беларускага музэя імя Івана Луцкевіча. Бацька цікавіўся гісторыяй і вельмі хацеў, каб Ірка вучылася на гістарычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Любоў бацькі да гісторыі Беларусі ўспадкаваў наш брат Часлаў. Бацька вельмі хацеў, каб усе мы атрымалі вышэйшую асьвету. Вучоба граіх дзяцей каштавала вельмі дорага. Акрамя таго бацька шмат каму зь беларусаў дапамагаў ма-

тэрыяльна. Таму, каб трымаць сям'ю на належным ўзроўні, ён мусіў багата працаваць. Акрамя таго ён пісаў артыкулы пра каапэрацыю ў польскія каапэратыўныя выданьні. Гэта крыху дапамагала сямейнаму бюджэту.

Бацька вельмі рэдка бываў дома, бо мусіў разьязджаць з рэвізыямі па тэрыторыі ўсёй Віленшчыны, а пазьней пераехаць нават у Варшаву. Прыезджаў ён толькі ў час непрацоўных дзён. Але нават тады ў хаце не сядзеў. Ішоў да сяброў, знаёмых, каб пачуць навіны, абмеркаваць новыя пляны і задумы. Прыходзіў далёка запоўнач, калі мы ўжо спалі. Часта зборкі адбываліся ў нашай хаце. Мы амаль ня бачылі бацькі, і калі ён прыязджаў, то ў нас было нейкае дзіўнае пачуцьцё, што ён дома. Увесь час бацькам моцна цікавілася паліцыя. У хаце часта рабілі вобыскі. А так як было заўсёды багата кніжак, вобыскі цягнуліся ўсю ноч. Паліцаі, перагортваючы кнігі жаліліся, што бацька дае ім багата працы.

Аднойчы паліцыя прыйшла, калі бацькі не было дома. Перапалоханая гаспадыня хаты, спрасонак ніяк не магла адчыніць дзьверы. Паліцыя думала, што ўсё гэта робіцца спэцыяльна, каб А.Будзька меў час уцякчы з хаты, і вырашала дачакацца яго. На шчасьце, бацька не прыйшоў да хаты. Выпадкова адразу пасьля службы ён зайшоў да знаёмых, ад якіх ўсё і даведаўся. Ён мусіў нелегальна перайсці мяжу і пераехаць у Коўна. Аднак там ён прабыў нядоўга. Беларусы запрасілі яго ў Рыгу для стварэньня ў Дзьвінску гімназіі і ён перабраўся туды.

Бацька заўсёды казаў: там дзе чалавек нарадзіўся, там ён мусіць і жыць. Напярэдані 1939 году мы пераехалі Будслаў, каб настала пасяліцца там. Бацькі прыдбалі прыгожы кавалак зямлі на беразе возера, купілі лес для будаўніцтва хаты. Але бацькоўская мара так і не споўнілася. Пасьля «вызваленьня» Заходняй Беларусі савеччыкі забралі наш лес і разам зь ім нашую надзею. Бацька перайшоў працаваць у Вілейку бухгалтерам. Перад самай вайной, у 1940 годзе ён па справах працы езьдзіў у Менск, дзе наведаў сваіх старых сяброў Купалу, Бядулю і, здаецца, Коласа. Вярнуўся ён з гэтай паездкі падаўленым. Першы раз бачылі бацьку ў такім стане. Ён ня мог забыць сваёй сустрэчы з Купалам, які быў яго добрым сябрам. Бацька шчыра расказваў пра падзеі, пра жыцьцё, Купала-ж ўсё маўчаў. Адчувалася, што той быў вельмі напалоханы бацькаўскай шчырасьцю і нечага баяўся. З. Бядуля, які быў з тых-жа самых ваколіц, што і бацька, пасьля гутаркі зь ім, ціха запытаўся: «Дык ты з усімі так гаворыш? Глядзі, больш нікому так не кажы».

Бацька быў вельмі зьдзіўлены, бо ён казаў тое, аб чым думаў. Па сутнасьці мы не жылі пад савеччыкамі, а пры польскай уладзе, тое, аб чым бацька расказваў Купалу і Бядуле, гаварыць не забаранялася.

Калі пачалася вайна бацька паехаў у Менск, дзе нейкі час працаваў у гарадзкой управе інспэктарам. Але таму, што ён быў вельмі прынцоповым і ад усіх вымагаў адказнай і добрасумленнай працы, многія не ўзьлюбілі яго і казалі: «Вось гэты заўсёды ўлезе з сваім доўгім носам». Бацька, пабачыўшы, што зь яго працы карысьці мала, пераехаў у Баранавічы. Пасьля, калі савецкая армія пачала наступаць, мусіў выехаць з маці у Варшаву, адтуль у Нямеччыну. Усе разам сустрэліся ужо ў ЗША. Пасьля доўгіх гадоў жыцьця паасобку пасяліліся пад адным дахам. У ЗША бацька працаваў нейкіх пару гадоў і выйшаў на пэнсію. Гэта дало яму мажлівасьць актыўна ўключыцца ў грамадзкую працу, якой ён займаўся амаль да сьмерці, 14 жніўня 1958 году.




Усім вядома, што Уладзіслаў Галубок быў артыстам і драматургам, арганізатарам «тэатра на колах», яго дырэктарам і рэжысёрам. Вядома таксама, што ў вольны ад працы час ён пісаў карціны. Але мала каму ведама, хто бы ў доўгі час у тэатры мастаком, пісаў «заднікі», рабіў эскізы вопраткі, бутафорыю, наносіў першы грым артыстам.

Нельга было ўбачыць на «афішах» таго часу і прозьвішча мастака, якое звычайна стаіць побач зь імем рэжысёра. Але мастак быў у кожным спэктаклі. Зразумела, самі артысты добра ведалі яго. Яны верылі: ніхто другі ня можа лепш намаляваць заднік ці пакласьці грым артыстам, чым гэта зробіць сам дзядзька Галубок.

Увогуле, кожны артыст меў даволі шмат абавязкаў апроч ігры, так, напрыклад, артыст Бусел ведаў сталярную справу, артыст Чайлтыка ўмеў добра вышываць беларускі арнамэнт на кашулях і рушніках. Многія ўмелі ткаць, шыць і вязаць. Былі майстры імітацыі гукаў розных жывёлаў або зьвяроў, як напрыклад, артыст Блажэвіч і Згіроўскі. Менавіта ў тэатры Галубка пачаў сваю дзейнасьць музыкі і кампазытара славуты Нестар Сакалоўскі.

Краявіды роднай прыроды на задніках, якія ўпрыгожвалі ледзь ня кожны спэктакль, У. Галубок пісаў клеевымі фарбамі.

Галубок, акрамя работы для тэатра, займаўся яшчэ і пэйзажным жывапісам. І трэба сказаць так грунтоўна, што для каго іншага такая праца магла стаць прафэсыяй. Ён заўсёды зьдзіўляў сваёй незвычайнай энергіяй, якой хапіла-б на добры дзясятак асоб. А ён адзін знаходзіў час рабіць усё для тэатра і нават яшчэ займацца станкавым жывапісам.

Мне пашчасьціла прымаць удзел у адборы ягоных твораў для першай асабістай выстаўкі, якая адбылася ў1935 г. у Доме пісьменьнікаў, што рзьмяшчаўся на Савецкай вуліцы. Задача была не зь лёгкіх, бо нас было толькі дваіх: я, малады мастак, без ніякага вопыту крыткі мастацкіх твораў іншых матакоў, і сам аўтар , які, як і ўсе аўтары, губляўся ў ацэнках уласных прац. Памятаю, што дачка Галубка Люся, раіла бацьку паказаць веснавы эцюд, бо ён быў напісаны аля-прыма, што значыць вельмі хутка, у адзін мах, з наскоку. У гэтм творы чулася непасрэднасьць, і хаця на вымалёўку дробязей не хапіла часу, галоўнае, быў схоплены вясновы настрой.

На тым хатнім мастацкім савеце мы ўхвалілі звыш 40 твораў Галубка, сярод якіх было 10 палотнаў большых памераў. Яны ўжо мелі назоў, бо аўтар лічыў іх карцінамі за тое, што пісаў іх працягла, зьвяртаючыся да эцюднага матэрыялу, перарабляў,

Працяг. Пачатак ў № 5-4(14)

шукаючы новыя сродкі выразнасьці ці новыя тэхнічныя прыёмы. Пісаў Галубок алейным і фарбамі і любіў больш мастэхін, чым пэндзлі, бо лічыў, што мастаэхінам хутчэй даб'ешся фактуры, хутчэй схопіш тое, што часта зьмяняе сьвятло і цені, калярыт навакольля. Гэта ўжо не нацюрморт, а жывая прырода, дзе ўсё рухаецца. І за гэтым рухам нельга ўгнацца, тут патрэбен эцюд, хуткі накід ці зрокавая памяць.

Галубок многа чытаў. Першае месца тут займалі творы драматургіі і літаратура аб выяўленчым мастацтве. Вельмі любіў Шэкспіра, збор твораў якога меў у сваёй бібліятэцы.

Любіў Галубок наведаваць Віцебскі мастацкі тэхнікум, а за час навучаньня ў ім яго сярэдняй дачкі Люсі прыязджаў два разы штогод. Тут трэба адзначыць, што мастацкі тэхнікум меў даволі моцны на той час драмгурток. У ім было многа здольных хлапцоў і дзяўчат, што адначасова выконвалі ролі і рабілі афармленьне спэктакляў так добра, што ўвогуле з дэкарацыямі і вопраткай, якую бралі ў тэатры «на пракат», атрымоўваліся цікавыя пастаноўкі. Драмгурток неаднойчы запрашаўся іншымі навучальнымі ўстановамі горада на «гастролі». На прэмьеру спэктакля «Бязьвінная кроў», які ставіла Люся Галубок, Уладзіслаў Галубок спэцыяльна прыязджаў зь Менску. Як і бацька, Люся ведала, хто з студэнтаў патрапіць на ту ці іншыю ролю. Ужо тады вызначаўся добрай ігрой студэнт Анатоль Трус, пазьней народны артыст Беларусі.

Наогул, Галубка цікавіла моладзь яшчэ такіх навучальных установаў, як Беларускі пэдагагічны тэхнікум і вячэрняя школа рабочай моладзі, адкуль з гурткоў мастацкай самадзейнасьці часта выходзілі здольныя таленавітыя кадры для Галубкоўскага тэатру.

З таго часу, калі вандроўны тэатр Галубка атрымаў новую назву —БДТ-3, а кіраніўк яго стаў дырэктарам — усё стала мецьтую саліднасьць, што і ў іншых тэатрах: свой рэжысёр, свой мастак, свой памрэж, касьцюмерная, бутафорная майстэрня, электрыкі ды грымёры. Тэатр пашырыўся, але Галубку працаваць было няцяжка, бо артысты па звычцы выконвалі самі тыя работы, на якія зараз прыйшлі новыя людзі. Галубок як і раней, але з большай адказнасьцю ставіўся да новых абавязкаў.

Напачатку новага сэзону па традыцыі выстаўляліся ў файе тэатра творы жывапісу, зробленыя за час адпачынку Уладзіславам Галубком. Значэньне гэтых выставак пераацэніваць нельга. Яшчэ і зараз сустракаем людзей, якія кажуць, што першы твор жывапісу ўбачылі менавіта ў тэатры Галубка. Дарэчы, многія палотны Галубка заставаліся пасьля гастроляў там, дзе пабываў тэатр. Вядомасьць артыста выклікала асаблівую цікавасьць да яго з боку беларускіх мастакоў. Яны малявалі або ляпілі яго партрэты, а часамі рабілі і сяброўскія шаржы. Аднойчы й я адважыўся і зрабіў сяброўскі шарж, дзе дзядзька Галубок у сваім вядомым усяму Менску капялюшы, што насіў набакір стаіць ля мальбэра з палітрай у руцэ і малюе свой аўтапартрэт. Пазіраваць для мастакоў Галубок не любіў, бо гэта прымушала яго па доўгу сядзець нерухома на адным месцы, а яго натура супраціўлялася ўсякяй бязьдзейнасьці. А вось фатаграфавацца, як і ўсякі артыст, ён любіў і ніколі не адмаўляў фатографам. Шкада, што не засталося ніводнага з тых партрэтаў. Захаваліся толькі рэдкія сямейныя фатаграфіі ды ўспаміны тых, хто добра ведаў яго.

А зараз давайце зьвернемся, да таго боку жыцьця Галубка, што заваецца асабістым,

хатнім, сямейным.

Сказаць па шчырасьці, на першым месцы ў Галубка заставаўся ўсё-такі тэатр. Калі мы возьмем нават гісторыю ўзьнікненьня трупы Галубка, дык самы першы яе каркас складаўся з членаў яго сям'і. Гэта была амаль тыповая зьява для тых часоў. Тое сямое было і ў Ігната Буйніцкагаі ў іншых, хто пачынаў гуртаваць вакол сябе мастацкія сілы. Праўда, гэтыя тэатральныя калектывы існавалі нядоўгі час, бо царскі ўрад бачыў для сябе ў тым руху нешта нацыянальна небясьпечнае і хутка ліквідаваў гэтыя пачынаньні. Галубку больш як каму пашчасьціла, бо ягоная мара зьдзейсьнілася.

Дзяцей у Галубка было шасьцёра: тры хлопцы і тры дзяўчынкі. Старэйшая за ўсіх —Багуслава і самы малодшы Сігізмунд, што нарадзіўся пад Масквой у Загорску ў 1918 г.

На пачатку першай імпэрыялістычнай вайны Галубок, працуючы на чыгунцы, вырашыў вывесьці сваю сям'ю ў Сергіеўскі Пасад, далей ад вайны, дзе сям'я знаходзілася да 1918 г. «Польскія» уцекачы, як іх называлі тутэйшыя жыхары, карысталіся манастырскай сталоўкай, бо за харчы плаціць было ня трэба.

Потым сям'я пераехала ў Менск, дзе пасялілася на Праводной вуліцы. Праводная вуліца мусіць таму і звалася, што па ёй праходзілі ў драўляных калодках гурхацелі ўраніцы і ўвечары па драўлянаму тратуару гутнякі. Галубкі жылі ў прыватнай кватрэры, што складалася з трох невялікіх пакойчыкаў. Для сям'і з 8 чалавек, кватэра была вельмі малая. Дзеці спалі нават па двох, а бацька мусіў адпачываць на кухні з адчыненымі дзьвярыма, каля печы, бо раматуз яму не даваў супакою.

18 гадоў сям'я жыла ў гэтай драўлянай кватэры, дзе ні вады, ні электрычнасьці не было, а дровы купляліся на рынку. Толькі ў 1936 годзе Галубок, нарэшце, атрымаў квартэру з 4 пакояў, у так званым «доме спэцыялістаў». Гэта было ў год юбілею тэатра, які адзначаў сваё 15-гадовае існаваньне ўжо ў якасьці БДТ-3, у Гомелі.

Зараз, калі мы разглядаем тыя нешматлікія фатаздымкі, што захаваліся да гэтага часу, на нас глядзяць тры дзяўчынкі, апранутыя ў беларускія касьцюмчыкі. Гэта і ёсьць тры дачкі Галубка — Багуслава, Вільгельміна й Эмілія. Вось яшчэ адно фота, дзе босая дзячынка ў хустачцы з торбачкай стаіць у роспачы, схіліўшы галоўку... Гэта малодшы сын Сігізмунд у ролі дзяўчынкі (дачкі Ганкі). Як-жа ён плакаў, бо не хацелася яму, каб ведалі дзеці з Праводной, што ён у спадніцы...

Вось запіс самога Галубка, мабыць гэта даведка, бо на расейскай мове: *«Как государственный театр, был признан в 1925 г., а до этого именовался труппа Голубка. Первые пионеры с 1920 г. нашего театра былі —Галубок, жена, три дочери, 2 сына...»*

У той час хадзіў сярод знаёмых жарт, быццам сам Галубок, адказваючы на пытаньне, хто складае яго тэатр, казаў: «Люся, Багуся, Мілка, жонка ды я». Аспрэчваць гэта сьвярджэньне ніхто не браўся, бо гэтак і было на самой справе.

Галубок любіў выступаць з дакладамі на сустрэчах у Менскім педтэхнікуме, унівэрсытэце і ў іншых месцах, дзе гаворка ішла аб ролі тэатра і літаратуры і, наогул аб мастацтве. Ён браў з сабой дачку Люсю, якая дэклямавала вершы Я.Купалы й Я.Коласа. Часта дзеці мусілі кідаць школу на нейкі час, бо бацька браў іх у дарогу на канцэрты ці выступленьні ў самім Менску. Вярталіся дадому позна ноччу пешшу, а назаўтра школа, што была далёка ад Праводнай на Саборнай плошчы. Вядома,

вучоба храмала на дзьве нагі, што балюча адбівалася на дзіцячай псіхіцы, бо дзёньнікі былі сьведкамі ўсяму, але бацька, як бачым, на першае месца ставіў тэатр, і гэта было нязьменным законам.

Запомніўся такі выпадак, калі два сыны рубалі дровы, і Лёсік, як звалі ў доме Леапольда, дапамагаў старэйшаму брату Эдзіку, ставіў на калоду паленцы. Здарылася так, што сякера ў руках Эдзіка зрабіла рух не ў тым напрамку і стукнула па руцэ. Балюча было маці глядзець на гэта, але яна мусіла ісьці ў тэатр, сьпяваць і танцаваць.

Вядома, што дзеці Галубка так ці інакш прыймалі ўдзел у рабоце тэатра, толькі адзін Леапольд не ўвайшоў у бацькоўскі пералік удзельнікаў, бо яго цікавіла тэхніка, менавіта аўтамашыны, на якіх працаваў перад вайной і ў час вайны, дзе загінуў разам з танкам, якім кіраваў.

Розны лёс склаўся ў дзяцей Галубка. Пасьля вучобы шляхі прывялі Эдуарда ў Акадэмію навук БССР, дзе ён працаваў старшым навуковым супрацоўнікам. Сігізмунд стаў электрыкам, нейкі час працаваў «асьвятляльнікам» у бацькі ў тэатры, а потым на млыне ў Менску. Старэйшая дачка стала доктарам, малодшая аграномам, сярэдняя Люся пайшла ў Віцебскі мастацкі тэхнікум, дзе я зь ёй і пазнаёміўся.

Трэба сказаць, што інтэрнат мастацкага тэхнікума быў надта дрэны: драўляныя тапчаны з клапамі, нягрэючыя печы, адсутнасьць каналізацыі, умывалка адна на два паверхі, калідоры агульныя, мыць бялізну не было дзе, туалет у канцы двара, амаль без дзьвярэй, бо не зачыняліся, у мароз не ўвайсьці не падыйсьці. Здавалася-б у такіх умовах камэндантам павінен быць дужы мужчына, а тут наадварот — дзяўчына, Галубок Люся, дачка вядомага артыста. Калі дырэктар Вольскі выштурхнуў мяне з тэхнікума, яна прыйшла ў мой пакой і сказала: «Ціхановіч, табе трэба пакінуць інтэрнат, бо я цябе ўжо выпісала з дамавой кнігі». Гэтая дзяўчына была вельмі сур'ёзная ды яшчэ напускала на сябе такую суровасьць, што здавалася, яна не брахала —выкрэсьліла мяне з сьпіску ў дамавой кнізе і ўсё тут.

—Галубок, пачакай, прашу я. — Я напісаў ліст сваёй маці ў Менск, дык чакаю адказу. Будзь чалавекам, можа я сам паеду ў Наркамасьветы, паеду з малюнкамі, пакажу там, што магу маляваць

—Ну што-ж паглядзім, пачакаем.

Дачка Галубка была сярэдняга росту з чорнымі вачыма, насіла мужчынскую кепку, пад якой стрыжка — каса была ўжо ня ў модзе. Спрытная, без усякага страху з другога паверху зьязджала на пярылах ўніз. А каб бегчы на другі паверх, дык праз тры прыступкі — не інакш. Пра яе казалі, што яна ўзьбіралася на сьцяну Ўсьпенскага сабора, які стаяў яшчэ ў руінах, і на дзіва ўсіх крочыла па сьцяне, быццам лунацік. Усьпенскі сабор стаяў на высокім беразе Заходняй Дзьвіны, а пагэтаму глядзеўся зьнізу ў ракурсе яшчэ больш цікавым. Хто яго разбурыў і калі няведама, толькі ведаю, што студэнты майго курсу малявалі яго зьнізу ў восені і зімою. Я-ж у гэты час быў выключаны з тэхнікума.

Праз год, пасьля майго вяртаньня ў тэхнікум, дзе абстаноўка зьмянілася карэнным чынам, нас, студэнтаў, адвезьлі ў Лёзьненскі раён убіраць лён ды рабіць іншую сельскагаспадарчую працу. Пачалася калектывізацыя й адразу наступіў голад. Мы студэнты мусілі працаваць, гатаваць сабе ежу, адпачываць на падлозе ў нардоме, і ўсё рабіць гуртам, з аднолькавай аплатаю за працу. Колькі раз здаралася так, што мы зь Люсяй Галубок працавалі побач,

і яна мне казала, каб я шкадаваў свае рукі, бо лён быў немалады ды непраполаты, разам з калючымі дзядамі, якія разьдзіралі рукі да крыві.

—Паслухай,— казала яна мне,— ці не дурань ты ёсьць, каб так выпэндрывацца. Трэба паволі, бачыш ўсё ідзе добра, ні ў кога ня то што крыві, нават мазалёў ня ўбачыш.

Іншы раз яна сьмяялася над маім абуткам, у якім, як яна казала, можа прарасьці лён у добрых умовах. Што праўда, то праўда, абутак быў стары і сапраўды развальваўся на вачах.

Час ад часу Галубок Люся атрымоўвала ад маці харчовыя пасылкі ды запрашала мяне на вячэру, бо казала, адной неяк няёмка есьці. Калі яна мела грошы, мы хадзілі ў кіно ці ў Віцебскі цырк, а калі я атрымаў грошы за бутафорыю ў яўрэйскім тэатры, разам хадзілі ў рэстаран, дзе амаль нікога не было, а за вялікія грошы давалі катлетку ды трохі бульбы.

Ужо ў 1932 г. у канцы майго навучаньня ў Віцебск прыехаў БДТ-3. Гэта быў трэці па ліку з тэатраў у Беларусі, ён стварыўся з складу вандроўнага тэатра Галубка і меў ужо сталую базу ў Гомелі, у гарадзкім цырку. Радасьці Люсі не было канца ды, сказаць па праўдзе, і маёй таксама. У летнія канікулы мы зь Люсяй заўсёды былі разам і я, вядома, бачыў, як сьціпла і ў якой цеснаце жыве мнагалюдная сям'я Галубкоў. Я ўжо бываў у іх кватэры на Праводнай вуліцы ў драўляным прыватным доме, дзе яшчэ жылі сям'я паэта Алеся Дудара-Дайлідовіча ды нейкая сям'я з чатырох чалавек.

Мяне тады зьдзіўляла, як такому чалавеку, як Галубок, далі самае пачэснае званьне народнага артыста, а кватэры не далі. Але Галубок для сябе нічога і не прасіў, а калі зьвяртаўся да Чарвякова, дык толькі за дапамогай тэатру, бо гэта было яго галоўным клопатам. І яму было ня сорамна прасіць, каб далі троху большыя аклады артыстам ці датацыю тэатру, які амаль ніякага даходу ад продажы білетаў ня меў.

Вось неяк летам я сабраўся з духам, каб сказаць Галубку тое, што павінен быў сказаць даўно, але ўсё не адважваўся, як казалі раней, прасіць рукі ягонай дачкі Люсі. Памятаю, сядзім мы зь Люсяй на кухні, дзе бацька канчае сьнедаць, і я пачынаю здаля, бо ня ведаю, як гэта робіцца ў сучасных умовах, казаць: «Мы зь Люсяй рашылі ісьці ў ЗАГС». Галубок пытаецца: «А як вы будзеце жыць?» Відаць, мае на ўвазе грошы.

Люся адказвае: «А Жэня добра малюе», — і глядзіць на бацьку. У таго, па вачах бачу, нейкія іскаркі з добрай ухмылкаю забегалі, маўляў: бачу-бачу, але ці пражывеце вы з гэтых малюнкаў? Ці ведаеце вы, што такое сямейнае жыцьцё?

Галубок ўстаў і кажа: «Што-ж, я ня супраць, даўно бачу, што вы адзін без аднаго дня пражыць ня можаце. Хай будзе па вашаму». Ні табе пацалункаў з боку дачкі, ні табе падзякі з боку жаніха, ні нейкага благаслаўленьня з боку бацькі. Аніякага вясельля не было назначана. Не памятаю, дзе была маці Люсі пры гэтым, толькі яна была давольная выбарам сваёй сярэдняй дачкі. Праўда, нас турбавала, што скажа адносна жаніха бабуня, у якой Люся была на першым месцы. Таму мы мусілі паехаць на агледзіны.

*Усе, хто ведаў маці Уладзіслава Галубка, лічылі яе мудраю бабуняй. Сапраўды, столькі дзяцей ўзгадаваць адной, што цяжка ўявіць. Ніхто з унукаў ня бачыў дзядуню, бо зарана ён пакінуў жыцьцё Таксама і бацьку дзядзі Сярожы не бачылі. Тут*

*вінаваты лёс, зарана памёр ад сухотаў.*

*Бабуня жыла разам з малодшым сынам, які быў машыністам на Заходняй чыгунцы. Жылі ў прыватнай хаце, ад якой на дзесяць крокаў была баня, прыстасаваная для жыцьця. Тут бабуня прымала гасьцей са знаёмых, што прыходзілі да яе за парадаю, або каб яна на картах ўбачыла тое, што чакае наперадзі. Яна ведала шмат такіх траваў, што вылечваюць усе хваробы, якія схаваны ад чалавечых вачэй. А тое, што яна магла загаварваць рожу ды навучыла гэтаму свайго старэйшага сына Ўладзіслава, гэта такая праўда, якая не адзін раз сьведчылася на самой справе,*

*Галубок вылячыў ад рожы даволі многа людзей, але пасьля наданьня яму пачэснага званьня мусіў адмовіцца ад такой добрай справы, каб не пашкодзіць свайму аўтарытэту.*

*Я цікавіўся ў Люсі, як бацька рабіў тую справу, у чым заключаецца ўсё чарадзейства ці варажба. Аказалася, што ўсё было вельмі проста. Ён браў сьцізорік і заточваў драўляную трэсачку, макаў яе ў чарнілы, якімі пісаў свае п'есы, абводзіў рыскаю ўсю пляму рожы і па крузе яе пісаў нейкія лічбы. Праходзіць нейкі час, рожа сыходзіць, застаецца толькі ружовая плямка, і былы хворы прыходзіць да бацькі са словамі падзякі, бо ніякіх грошаў ён ня браў.*

*Для мяне і сёньня застаецца незразумелым усё гэтае, і толькі прыходзіцца шкадаваць, што Галубок не навучыў лячыць рожу такім, нікому невядомым спосабам, сваю дачку, маю жонку Люсю.*

Вось мы з Люсяй сядзім у бабуні, у яе хаце, на стале нейкая зеляніна, але я нічога не бачу, акрамя чорных вачэй бабуні. Яна патроху пытаецца, чым займаецца маці. Я адказваю, што яна хірургічная сястра, працуе ў бальніцы, што на Ленінскай вуліцы. Далей бабуня ставіць тры чаркі і налівае звычайную гарэлку. Усе выпілі разам, але мяне аж перадзёрнула, і я адразу зьбялеў (аб гэтым казала мне потым Люся). Што было казаць, мне хапіла адной чаркі. Я сядзеў нерухома, пакуль бабуня не паставіла свае выдатныя бліны зь сьмятанай. На гэтым скончылася нашае першае знаёмства. Пасьля агледзінаў маёй пэрсоны на чарзе апынуўся Аскар Плісан, жаніх старэйшай дачкі Галубка Багуславы. Плісан прайграў агледзіны, бо ён сёрбаў чарку за чаркай, нават не маргнуўшы вачыма. Выручыла Акарда, як бабуня вымаўляла ягонае імя, толькі тое, што ён быў доктар, ды яшчэ хірург, няхай сабе і яўрэйскай нацыянальнасьці.

Прайшло некалькі месяцаў пасьля аглядзінаў, і вось у лютым 1933 г., каля 9 гадзін раніцы прыйшлі мы з Люсяй на пляц Волі, дзе быў ЗАГС. Было яшчэ цёмна, бо зіма. У ЗАГСе чамусьці выключылі сьвятло, гарэлі свечы, ніякіх сьведкаў, ніякай урачыстасьці. Недзе мы прылажылі рукі, расьпісаліся, а праз тыдзень забралі пасьведчаньне, што мы жанатыя людзі. Маці Люсі выдала нам 5 рублёў золатам. З гэтай манетай пайшлі мы ў Таргсін і купілі сабе шпалераў на адзін пакойчык, лямпавы прымус ды мне корту на блузу -талстоўку, якую пашыла Люся на швейнай машынцы, што была як падарунак бабуні на нашае вясельле. Вось і ўсе справы, што ў жыцьці чалавека запамінаюцца на ўсё жыцьцё.

(Працяг у наступным нумары)



# Аўтабіяграфія
# Канстантына Барысавіча Езавітава

Напісаная для перакладу ў нямецкую мову



Канстанцін Езавітаў

29. X. 1943.
Рыга.

Паважаны сябру!

Перадаў мне сп. Радзюк і сп. Сядура, што Вы жадалі-б мець матар'ялы з маёй біяграфіі. Нажаль, я дужа заняты і ня маю часу напісаць Вам, дзе што ў беларускай мове, дык пасылаю ужо гатовую аўтабіяграфію, што даваў у расейскай і нямецкай мовах у нямецкія ўстановы. Яна падрабязна асьвятлае год за годам факты майго жыцьця, хаця-ж і няпоўна, але няма ў ёй таго, што я лічу самым галоўным, маіх поглядаў на беларускую справу і маіх летуценьняў аб нашай будучыне. Вам зразумела прычына. Дык карыстайце гэты матар'ял, калі ласка, на Ваш погляд. Моцна цісну руку.

К.Езавітаў.

Паважаная Рэдакцыя
«Беларускай газэты».

Дужа прашу выбачыць, што надсылаю тое, што знайшоў пад рукамі, што ўжо было гатовым у нямецкай і расейскай мовах. Беларускія ўстановы маёй біяграфіяй пакуль што не цікавіліся, а для немцаў трэба было даваць, або ў расейскай або ў нямецкай новах!

К.Езавітаў.

---

Аўтабіяграфія Канстантына Езавітава была знойдзеная ў дакумэнтах архіва КДБ і перададзена ў рэдакцыю часопіса «Полацак» доктарам гістарычных навук Уладзімірам Міхнюком і доктарам гістарычнага навук Якавам Паўлавым

Нарадзіўся 5-га лістапада 1883 г. (па старому стылю) ў Дзьвінскай крэпасьці, дзе стаяў тады 100 пяхотны Астроўскі полк, у якім служыў мой бацька. Дзіцячыя і школьныя гады пражыў у горадзе і крэпасьці Дзьвінск, кожнае лета пераязджачы, як і ўсе сем'і вайскоўцаў, у лягеры пад Дзьвінскам. Толькі тры разы, у летнія месяцы, пашчасьціла мне трапіць на Полаччыну, адкуль паходзяць мае бацькі. Гэтыя паездкі пазнаёмілі мяне з бытам беларускіх вёсак Петра-Паўлаўскай воласьці, мацьней злучылі з родным народам і мелі моцны ўплыў на мой нацыянальны настрой у далейшым жыцьці й дзейнасьці.

Грамадзкімі настроямі я захапіўся вельмі рана: ужо ў Дзьвінскім 6-клясным гарадзкім вучылішчы прыняў я ўдзел у вучнёўскіх гуртках і ў выдавецтве рукапісных часапісаў: «ПУГА» на беларускай мове і «БИЧ» на расейскай.

Многа чытаў у час вучобы, асабліва захапляўся апісаньнямі падарожжаў і гістарычнымі аповесьцямі і раманамі.

Па заканчэньні вучылішча бацька вырашыў накіраваць мяне па свайму шляху і зрабіць афіцэрам, але я, захоплены ідэяй нарадавольцаў «хождением в народ» лічыў, што самай пачэснай працай зьяўляецца праца настаўніка. З гэтай мэтай я стаў рыхтавацца да адпаведных экзаменаў. Прачытаные кнігі, а таксама ідэі, якія насіліся ў паветры і галовах моладзі яшчэ больш умацавалі мяне ў сваім рашэньні. А так як я любіў маляваць і зьбіраў рэпрадукцыі карцінаў, то, пэўна, сутыкнуўся з цудоўнымі працамі акадэміка Багданова-Бельскага «Вусны лік», «На парозе школы», «У хворага настаўніка» і інш. Яны зрабілі на мяне моцнае ўражаньне. Я пасварыўся з раззлаваным бацькам, восеньню 1910 г. здаў экзамены на тытул настаўніка пачатковай школы і катэгарычна адмовіўся паехаць ў Віленскае вайсковае вучылішча, куды накіроўваў мяне бацька.

З 1-га сакавіка 1911 г. я прыступіў да працы настаўніка, спачатку ў Дзьвінску, як практыкант, а з 1 верасьня таго-ж году ў Ліксьненскай школе Дзьвінскага ўезду сярод зьмешанага беларуска-латгальскага насельніцтва, якое знаходзілася пад моцным уплывам польскага памешчыка Плятэр-Зіберга і палякуюшчых ксяндзоў. Гэта дало новы штуршок і новы кірунак маім нацыянальна беларускім настроям. У Ліксьненскай школе я многа чытаў і займаўся музыкай, так як ў школе было фартэпьяна, скрыпка й іншыя інструмэнты.

Два гады працы ў народнай школе ўпэўнілі мяне, што я стаю на правільнай дарозе. У вёсцы я прачытаў многа пэдагагічных і грамадзка-палітычных кніг і з прыемнасьцю, заязджаючы ў Дзьвінск упэўніваўся, што мае сябры ў гарадзкой мітусьні дарма губляюць час і моцна адстаюць у сваім духоўным росьце. Мне прыходзілася расказваць ім аб прачытаным і заахвочваць іх чытаць больш.

Жадаючы падняць сваю кваліфікацыю і назапасіць новыя веды, я ў 1913 годзе паступіў у Віцебскі настаўніцкі інстытут, дзе атрымаў стыпэндыю, так як вытрымаў спэцыяльныя конкурсныя іспыты адным з першых.

У інстытуце я ня толькі вучыўся, але і прысьвячаў шмат часу грамадзкай працы: арганізаваў касу ўзаемадапамогі слухачоў інстытута, прымаў актыўны ўдзел у інстытуцкім літаратурным гуртку й у арганізацыі інстытуцкіх вечароў, на якія мы запрашалі беларускага пісьменьніка Віцебшчыны Аляксандра Пшчолку, які выступаў з сваімі творамі, а мы самі выступа-

лі зь беларускімі харавымі песьнямі. Адначасна я слухаў лекцыі на Віцебскім аддзяленьні Маскоўскага археолягічнага інстытута, які зьмяшчаўся ў будынку нашага настаўніцкага інстытута і працаваў вечарамі. У наш літаратурны гурток уваходзілі лепшыя сілы інстытута, і далей яны адыгрывалі вялікую ролю ў беларускай нацыянальнай працы.

У 1915 годзе восеньню мне дазволілі датэрмінова здаць экзамены ў спэцыяльнай камісіі за курс інстытута. Я экзаменаваўся два месяцы (сьнежань, студзень) і 23 студзеня закончыў іспыты, атрымаў атэстат і выехаў у Петраград, дзе з 1 лютага быў залічаны юнкерам ў Паўлаўскае вайсковае вучылішча.

Тут трэба шчыра прызнацца, што я таму так сьпяшыў з заканчэньнем інстытута і паступлененьнем у вайсковае вучылішча, што лічыў гэта пытаньне гонару: бацька быў на фронце, а тры маіх малодшых браты вучыліся у полацкім кадэцкім корпусе. Таму я не хацеў, каб яны падумалі, што я хачу ухіліцца ад удзелу ў вайне. Акрамя таго, я памятаў, што ў спрэчцы з бацькам аб выбары прафэсыі, я яму сказаў, што у мірны час не хачу быць афіцэрам, а у час вайны — пайду добраахвотнікам. Каб выканаць гэтае абяцаньне, я ужо ў першыя дні вайны падаў прашэньне аб дазволе мне пайсці добраахвотнікам, але інстытуцкае кіраўніцтва асьведчыла, што мне, як стыпэндыянту, не дазваляе гэтае зрабіць. Тады я адмовіўся ад далейшага атрыманьня стыпэндыі. Начальства адказала, што гэтага мала, што я, каб быць вольным ад абавязковай настаўніцкай службы за стыпэндыю, абавязаны вярнуць усю атрыманую суму. Я зьвярнуўся да бацькі, але бацька адказаў, што ён вельмі рады, што я ў інстытуце, і што дастаткова для Бацькаўшчыны тых двух раненіяў і моцнай кантузіі, якую атрымаў ён. На мяне ён ускладае клопаты аб сям'і, так як зноў вяртаецца на фронт і не ўпэўнены, што ў чацьверты раз усё абы дзецца шчасьліва. Прыпушчаю, што мой бацька напісаў нешта падобнае інстытуцкаму кіраўніцтву, просячы прытрымаць гарачага юнака за крысу. Аднак я быў упартым сынам, таму я, праз галаву свайго кіраўніцтва, зьвярнуўся да вышэйшых інстанцыяў з абгрунтаваным прашэньнем і з кампраміснай прапановай: экзаменаваць мяне датэрмінова, абязуючыся здаць усе экзамены. Адначасна з паданьнем гэтага прашэньня, я адкінуў усё у бок і засеў за кнігі. Мой прыклад захапіў яшчэ некалькі маіх таварышаў з нашага літаратурнага гуртка, а таму разам з мною экзаменавалася 14 чалавек.

У Паўлаўскім вайсковым вучылішчы я скончыў паскораны выпуск, які працягваўся з 1 лютага да 1 чэрвеня 1916 году. Тут высьвятлілася, што ва мне не дарэмна грае вайсковая кроў майго шаноўнага бацькі і што 17 гадоў жыцьця ў вайсковым асяродзьдзі далі мне цэлы шэраг навыкаў, якіх я і не падазраваў, так як лічыў, што кожны павінен гэта ведаць. Вынікам было тое, што я зрабіў хуткую вайсковую карьеру ў вучылішчы, дзе кожны месяц мяне падвышалі у наступны чын: у малодшага портупей-юнкера, у старшага портупей-юнкера, в фельдфебеля, нарэшце, у прапаршчыка. Але самым нечаканым для мяне было тое, што пры сканчэньні вучылішча мяне зь яго ня выпусьцілі, а спэцыяльным загадам Петраградзкай вайсковай акругі накіравалі ў чыне малодшага афіцера у вучышлішча, дапамагаць курсавым афіцэрам-выхавацелям.

Толькі праз год пасьля таго, як я падаў асобы рапарт, мяне вызвалілі з Паўлаўскага

вучылішча, і я выехаў на фронт у 151-ы пяхотны Пяцігорскі полк, які я выбраў таму, што ён стаяў на фроньце пад маім горадам Дзьвінскам, а таксама таму, што гэты полк у мірны час стаяў у Картуз—Бярозе і ў сваім складзе меў багата беларусаў. У гэтым палку мая вайсковая карьера таксама хутка працягвалася.Я пачаў з малодшага афіцера, бо прыехаў сюды ў чыне падпарудчыка, потым быў камандзірам роты, затым часова камандаваў батальёнам, атрымаў чын парудчыка, быў прадстаўлены ў штабс-капітаны і да чарговых узнагародаў. Затым быў ад'ютантам палку й арганізатарам пры палку батальёна сьмерці.

У кастрычніку 1917 году салдаты і афіцеры беларусы выбралі мяне дэлегатам на зьезд воінаў-беларусаў савецкай арміі, які адбыўся у Віцебску. Зьезд выбраў мяне ў свой прэзыдыюм, затым у Камітэт вайскоўцаў-беларусаў Паўночнага фронту і, нарэшце, накіраваў у Цэнтральную Беларускую Вайсковую Раду ў Менск.

У Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Радзе мяне назначылі ў дапамогу да Кандратовіча, генерала ад інфантэрыі, і палкоўніка Камароўскага, якім быў даручаны аддзел арганізацыі беларускіх войскаў. У далейшым мяне выбралі сябрам старшыні Вайсковай Рады. Праца была адказаная і вельмі небясьпечная, так як ў Менску находзіўся штаб Захадняга фронту і бальшавіцкі Камітэт Захадняй вобласьці на чале зь вядомым ворагам беларусаў Мясьніковым. На Беларускай Вайсковай Радзе ляжала адказнасьць аховы ўсіх беларускіх арганізацыяў, у асаблівасьці Вялікай Беларускай Рады і Ўсебеларускага Кангрэсу, які сабраўся ў Менску 5 сьнежня 1917 г., выконваў ролю Беларускага Ўстаноўчага Сходу і абвесьціў стварэньне Беларускай Рэспублікі (у ноч з 17 на 18 студзеня 1917 г. па ст. ст., г. зн. у ноч з 30 на 31 сьнежня па новаму стылю).



Дзьвінск

Узаемаадносіны сілаў мяняліся ледзь ня кожны дзень, але бальшавікі былі мацьнейшыя, так як у іх за спіною былі рэзэрвы ўсей Расеі, запасы зброі, распрапагандаваныя маракі і рабочыя. Мне і ўсім іншым адказным беларускім дзеячам таго часу прыходзілася працаваць вельмі шмат. Я супрацоўнічаў у беларускай прэсе («Беларуская Рада», «Беларуская Зямля», «Варта»), прымаючы удзел у культурна-асьветніцкіх беларускіх арганізацыях («Беларуская хата», «Бацькаўшчына»). Вельмі шмат працаваў у сваім вайскова-арганізацыйным аддзеле Беларускай Вайсковай Рады, дзе прыходзілася змагацца ня толькі з нападамі на нherааргaнізуемыя беларускія часткі з боку бальшавікоў, але із цяжкасьцямі і нерашучасьцю кіраўніцтва гэтага аддзелу, генерала ад інфантэрыі Кандратовіча і палкоўніка Камароўскага, якіх пасьля прыйшлося вызваліць ад кіраўніцтва аддзелу і ўзяць працу ў ім на сябе.

У студзені 1918 г. у часе нечаканага начнога налёту атрада чэкістаў на штаб Беларускай Вайсковай Рады, я, разам з В.Захаркам, П Я.Мамонькам, быў захоплены бальшавікамі ў палон і зьмешчаны пад моцную варту на вайсковай гауптвахце, дзе праседзеў некалькі тыдняў. 19 лютага, скарыстаўшы тое, што ў складзе новай ахоўы апынулася некалькі беларусаў, шасьцёра вязьняў уцяклі разам са мною з гауптвахты і паднялі на ногі ўсіх беларусаў-вайскоўцаў у Менску.

У той самы дзень мы, беларусы, узялі ўладу у горадзе ў свае рукі, і я быў прызначаны камэндантам горада. Аб гэтых падзеях падрабязьней напісана ў маім артыкуле «Вызваленьне Менска» ў часопісе «Варта», за кастрычнік 1913 г. Пасьля стварэньня першага беларускага ураду, я увайшоў у ягоны склад у якасьці асобаўпаўнаважанага ў вайсковых справах. Аднačасна беларускі ўрад выдаў спэцыяльную пастанову, у якой адзначаліся мае заслугі і надаваўся мне чын палкоўніка. Гэта было зроблена зь ініцыятывы і прапановы сакратара Ўсебеларускага Кангрэсу Томаша Грыба.

1918 год я правёў у Менску. Пасьля таго як у Менск увайшла нямецкая акупацыйная армія, фарміраваньне беларускіх войскаў было спыненае распаражэньнем нямецкага камандаваньня, я вярнуўся да сваёй пэдагагічнай дзейнасьці. Маімі намаганьнямі былі арганізавны першыя Беларускія настаўніцкія курсы ў Менску, на якіх я быў інспэктарам. Аднаčасова я шмат працаваў у беларускім культурна-асьветніцкім таварыстве «Бацькаўшчына», арганізатарам і старшынёю якога быў. Прымаў удзел таксама ў працы Беларускага тэатра, у якасьці другога ўрадавага дырэктара. Працягваў супрацоўніцтва ў беларускай прэсе.

6 сьнежня 1918 г. я вымушаны быў пакінуць Менск, так як немцы перадалі яго бальшавікам, а самі адступілі. Зь Менску я пераехаў у Вільню, дзе зьявіўся ў веданьне Віленскай Беларускай Рады, якая са згоды з Літоўскай Тарыбай, накіравала мяне ў Беласток начальнікам (камісарам) гораду. Месяца праз два мне было даручана прыняць Плянтова-Шчучынскі павет ад камісара Іваноўскага. Яшчэ праз месяца два мяне назначылі камандзірам I Гарадзенскага Беларускага пехотнага палку.

У Горадні я ня толькі кіраваў палком, але і замяшчаў міністра Беларускіх справаў Я.Варонку, у часе ягоных частых выездаў ў Коўна і на правінцыю. Таксама кіраваў арганізаваным мною тут беларускім культурна-асьветніцкім таварыствам «Бацькаўшчына» і выдаваў беларускую газэту

«Бацькаўшчына». Неаднаразова мяне выклікалі ў Коўна, затым на цэлы месяц камандзіравалі ў Варшаву ў складзе спэцыяльнай місіі для перамоваў з польскім урадам (д-р. Шауліх, Даўмантыс, як дыпляматы, ды тры палкоўнікі: француз-колонэль Рэбуль, літовец-палкоўнік Велікас і беларус -палкоўнік Езавітаў).

Надзвычайная вялікая грамадзкая нагрузка для камандзіра палка і частыя камандзіроўкі не давалі мне мажлівасьці заняцца справамі палка ў належнай меры, каб правесьці ў ім нацыянальнае выхаваньне жаўнераў і афіцэраў і ўзмацьніць яго, як вай-сковую сілу. Між іншым, літоўцы зусім не жадалі вайсковага ўмацаваньня беларускіх часьцей, так як баяліся гэтага. Пасьля непасьпяховых перамоваў місія вярнулася ў Коўна, прывезла з сабой з Варшавы генерала Жукаўскаса і жонку д-ра Шауліса. А ў адну з начэй, пасьля ад'езду нашай місіі з Варшавы, палякі напалі на беларускі полк у Горадні і ў маю адсутнасьць абяззброілі яго.

Лета 1919 г.я правёў ў Коўне, дзе быў прызначаны да Міністэрства Беларускіх справаў у якасьці начальніка канцэлярыі. Гэты час я выкарыстоўваў для друкаваньня сваёй кнігі «Беларусы і палякі», у якой даказваў, што беларусам з палякамі не па дарозе, і ілюстраваў гэта сабранымі мною дакумэнтамі аб польскіх гвалтах у Заходняй Беларусі. Кніга мела вялікі посьпех у расейскім і беларускім асяродзьдзі і была цалком надрукавана ў амэрыканскіх беларуска-расейскіх газэтах. Тут-жа ў Коўна, па прыкладу Менска і Горадні, арганізаваў я беларускае таварыства «Бацькаўшчына». У Коўна я пачаў новую кнігу «Беларусь ад Керанскага да Пілсудскага».

У кастрычніку 1919 г. я выйшаў у адстаўку з Літоўскай арміі, матывуючы свой уход тым, што Літоўская старана ня выканала таго дагавору, што быў падпісаны паміж Віленскай Беларускай Радай і Літоўскай Тарыбай. Я прыняў прапанову Беларускага ураду, які накіраваў мяне на чале Беларускай ваенна-дыпляматычнай місіі ў Эстонію і Латвію.

Канец 1919 г., увесь 1920 г. пачатак 1921 г. я правёў у разьездах паміж Рыгай, Дерптом, Рэвелям і Гельсингфорсам, заняты службовымі справамі й арганізацыяй асобага атраду Беларускай Народнай Рэспублікі, які меў свой участак фронту паміж Ізборскам і Марыенбургам. Адначасна арганізаваў у Рызе беларускае прэс-бюро, культурнае таварыства «Бцькаўшчына» і клуб пры ім, а таксама быў ініцыятарам выданьня ў Рызе беларускага ілюстраванага часопіса «На чужыне». З Рыгі меў цесную сувязь з амэрыканскімі беларусамі, аснашчаў іх беларускай літаратурай і інструктаваў іх працу.

Калі Эстонія, а потым і Латвія падпісалі мірны дагавор з бальшавікамі й абавязаліся не дапускаць на сваёй тэрыторыі варожых бальшавікам прадстаўнікоў і фарміраваньняў, асобы беларускі атрад вымушаны быў перайсьці ў Польшчу, а Беларуская вайскова-дыпляматычная місія зачынілася. Я, як ураджэнец горада Дзьвінска, прыняў латвійскае грамадзянства і заняўся арганізацыяй беларускай нацыянальнай меншасьці ў Латвіі.

На гэтай апошняй працы я з 1921 г і знаходжуся: у Рызе, Дзьвінску, Люціне і зноў у Рызе. За 21 год працы меў посьпехі і няўдачы, узьлёты і падзеньні, але адным ганаруся—нікуды не адыходзіў ад беларускай народнай справы, ні пры якіх абставінах. Пры ўрадзе Ульманіса, які марыў асыміляваць беларусаў, я 4 разы быў

арыштаваны за цьвёрдую абарону беларускіх інтарэсаў (у 1924-1925 г. у 1930 г. у 1934 г. і ў1935 гг.). Пры бальшавіках, нягледзячы на тое, што ў 1933 г. у Менску выйшла цэлая кніга, накіраваная супраць мяне асабіста («Беларускі нацыяналфашызм у Латвіі», др. Ян Доўгі, 1933, Акадэмія Навук БССР), я усё-такі не спужаўся і заняўся адраджэньнем у Рызе і ў Латгаліі закрытых Ульманісам беларускіх школ, заклікаў шматлікімі лістамі і вуснымі пераканаўньнямі нашых настаўнікаў не адыходзіць ад патрабаваньняў нацыянальнай школы. Бальшавікі мяне ня чапалі. Маж ліва таму, што частыя арышты латышамі стварылі мне некаторы арэол палітычнага пакутніка «латышскага кулацкага ўраду».

За 21 год працы ўЛатвіі быў я на розных пасадах: арганізаваў і кіраваў беларускімі летнімі і гадавымі настаўніцкімі курсамі ў 1921 г., працаваў інспэктарам беларускіх школаў у 1922-1923 гг., садзейнічаў арганізацыі і належнай пастаноўцы працы ў створаных намі 50 беларускіх асноўных школаў і 2 гімназіяў, на 2-х гадзічных настаўніцкіх курсах і ў сельскагаспадарчай школе. Будучы дырэктарам Люцінскай беларускай гімназіі ў 1922-1924 гг. паклаў пачатак руху беларускай моладзі у Латвіі, якое вылілася ня толькі ў спартыўныя захапленьні, але і ў літаратурную працу і зьбіраньне фальклёрна-этнаграфічных матэрыялаў, у выніку чаго зьявіўся вучнёўскі часапіс «Ластаўка» і збор запісаў беларускай народнай творчасьці, арганізацыя беларускіх скаўтаў і гайд

..........................................................................[1]

«Беларускае Таварыства», Беларускае выдавецтва, Беларускі Нацыянальны Камітэт у Латвіі, а таксама прымаў удзел у арганізацыі і працы іншых таварыстваў.

Ва ўсіх арганізаваных мною таварыствах працаваў ва ўправах, выконваў абавязкі: старшыні або яго заступніка, або сакратара, а часам і скарбніка.

Зараз зьяўляюся старшынёю «Беларускага аб'яднаньня» і багата пішу, супрацоўнічую ў часопісах «Новы шлях», «Ostland» і ў газэтах «Беларуская газэта», «Раніца», «Новая дарога» і «Bielarusky Holas".

Акрамя таго, у сучасны час зьяўляюся дырэктарам вячэрняй беларускай школы для дарослых, працую па лініі грамадзкай у беларускім нацыянальным аб'яднаньні, як старшыня, і падрыхтоўваю да друку працы : «Гарманізацыя беларускай песьні», «Беларусы ў Амэрыцы», «Беларускі нацыянальна-адраджэнчы рух», «Беларускі паэт Сяргей Палуян», «Мікалай Якаўлевіч Нікіфароўскі» й інш.

Некаторыя часткі з гэтых працаў друкаваліся ў 1931-1941 гг. у бэрлінскай бібліятэцы «Раніца» пад псэўданімам М.Зінук. Бачу, што аўтабіяграфія мая напісана вельмі схэматычна і кратка, але, нажаль, ня маю часу для больш расшыранай і таму даю толькі сухія факты.

10 травеня 1942 г.

Рыга, Межпарк, Інчукална Іела № 1, кв.1.

Дапаўненьні-папраўкі **зроблены** 25.X.1943 г.

**P.S; Як для рэдакцыйных інтэрэсаў, дык лічу, што тутака ўсякіх фактаў аж занадта даволі. Карыстайце — як уважаеце за лепшае. Моцна цісну руку. Дужа шкадую, што не меў часу сам перакласьці для Вас у мову беларускую. Але-ж гэта** — толькі сыры матар'ял.

К.Езавітаў.

1.У арыгінале прапушчаны 2 старонкі—М.В., Я.П.

# Купала ў Вільні




Часлаў Найдзюк



Язэп Найдзюк. 1966 г.

Бываюць ў жыцьці непрадбачаныя сустрэчы. Не думаў ніколі я, што змагу пабачыць нашага песьняра Янку Купалу. Сталася гэтае больш за 50 гадоў назад, калі Купала ў травені 1941 г. наведаў Вільню. У Беларускім музэі імя Івана Луцкевіча, віленскіе беларусы ладзілі прыняцьцё паэту і зарганізавалі выстаўку, прысьвечаную жыцьцю і творчасьці яго ў Вільні. Даступіцца да Янкі Купалы падчас прыняцьця было вельмі цяжка, бо зь ім прыехаў Цімафей Гарбуноў, галоўны рэдактар газэты «Звязда» і сакратар ЦК КПБ, які прывёз з сабой вялікую колькасьць ахоўнікаў. Назаўтра прыняцьцё ладзіла Акадэмія навук Літоўскай ССР і ўваход туды быў па запросінах.

Раніцою, 17 травеня пранеслася вестка, што Янка Купала прыедзе ў Базыльянскія муры, бо хоча спаткацца з абсальвэнтамі і вучнямі Віленскае Беларускае гімназіі. Купала прыехаў не адзін. Мы здагадаліся, чаму і што гэта былі за асобы. Таму я ўжо з тытулам магістра права неяк не адважыўся падыйсьці да народнага песьняра, не зычыў ствараць прыкрасьцей дарагому госьцю і сабе. Брат мой Язэп, аказаўся сьмялейшым і рызыкоўным. Да гэтага Я.Купала пацікавіўся беларускай друкарняй імя Ф. Скарыны, якая паўстала ў 1926 годзе.

Язэп працаваў у друкарні, выдаваў часопіс «Шляхам моладзі». Ён паўстрымаўся паінфармаваць Купалу, што летувіскія ўлады ўжо зачынілі друкарню. Купала-ж вельмі хацеў пагядзець яе. Мажліва, ён думаў адрадзіць у памяці шчасьлівыя моманты маладосьці, якія праходзілі ў Вільні, сваю працу ў рэдакцыі «Нашай Нівы».

Язэп згадзіўся паказаць друкарню імя Ф.Скарыны і меў надзею, што, седзячы з Купалай поруч у аўце, зможа расказаць, папрасіць заступніцтва, каб уратаваць друкарню. Сталася інакш. Я.Купалу пасадзілі ў адно аўта, а брата ў другое.

У травені 1973 году атрымаў я ліст ад Язэпа, у якім пісаў: «*Суродзіч наш нядаўна быў у Менску і прывёз мне адтуль падарунак, эстэтычна зробленую пушачку для папяросаў, на ёй партрэцік Янкі Купалы. Успомніліся часы, калі сапраўды меў шчасьце асабіста пазнаёміцца і пагутарыць зь ім у часе ягонага адведаньня Вільні і ў дарозе, калі адвозіў яго на Антокаль да ягонай «швагеркі»*.

Што гэта за «швагерка» ня ведаю, а брата баяўся дапытываць, бо адчувалася, зь ягоных лістоў, савецкія ўлады і далей сочаць за ім. Думаў я спаткацца з братам і распытаць аб ягонай размове з паэтам, але 13 лютага 1984 г. Язэп памёр.

# ЗГУКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



## Купалаўцы



Ванкарэм Нікіфаровіч

Купалаўцы. Такім крылатым словам называюць ў Менску тых, хто працуе ў беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

Без малога тры чвэрці стагодзьдзя ходзяць ужо гледачы ў гэты тэатр. Адкрыўшыся на хвалі беларускага нацыянальнага адраджэньня ў 1920 годзе, ён у першыя свае некалькі гадоў імкнуўся распачаць шырокую сцэнічную споведзь пра народ і яго гісторыю, пра спрадвечную барацьбу беларусаў за свабоду і сваю дзяржаўнасьць, каб мець права «людзьмі звацца».

Галоўнае багацьце тэатру, яго залаты фонд— гэта акцёры. Высокі ўзровень акцёрскага майстэрства—абавязковая ўмова працы на купалаўскай сцэне. А ўзровень гэты вызначаны творчасьцю такіх выдатных майстроў недалёкага мінулага і сучаснасьці, як Генадзь Аўсянікаў, Зінаіда Браварская, Глеб Глебаў, Лідзія Давідовіч, Уладзімір Дзядушка, Галіна Макарава, Павал Малчанаў, Барыс Платонаў, Лідзія Ржэцкая, Стэфанія Станюта, Уладзімір Уладамірскі і многія іншыя, — усіх не пералічыш.

Тэатр прайшоў нялёгкі, складаны творчы шлях. Пачынаючы з забароны «Тутэйшых» Я.Купалы, якія так і не ўбачылі сьвятло рампы ў 1926 годзе, калі рыхтаваліся да пастаноўкі, таталітарныя камуністычныя ўлады ўсё актыўней і бесцырымоньней умешваюцца ў жыцьцё тэатра. Пачынаецца інтэнсыўная нівеліроўка тых, хто думаў самастойна, а то і непасрэднае іх фізычнае зьнішчэньне пад выглядам барацьбы з фармалізмам, касмапалітызмам, нацыяналізмам і г.д. Да самых апошніх гадоў тэатр адчуваў жудасны прыгнёт ідэйна-эстэтычных рэглямэнтацыяў вельмі абмежаваный інтэлектуальна ўлады й афіцыйнай крытыкі, і тым ня меней у лепшых сваіх спэктаклях тэатр уважліва прыглядаецца да простага беларуса, звычайнага чалавека, распавядае пра яго жыцьцё, яго пакуты і надзеі.

Сёньня мінчане і госьці сталіцы Рэспублікі Беларусь могуць убачыць «Страсьці па Аўдзею» («Крык на хутары») маладога беларускага драматурга Уладзіміра Бутрамеева — пранізьлівую споведзь аб трагічным жыцьці сялянства, карэньні якога высякаліся ў 30-я гады, споведзь, прасякнутую заклікам жыць па запаветах Хрыста. Спэктакль гэты паставіў мастацкі кіраўнік тэатра Валерый Раеўскі, які некалькі гадоў вучыўся ў сусьветна вядомага рэжысёра Ю.П.Любімава. Могуць прыйсьці на «Тутэйшых» Я.Купалы, фактычна пастаўленых упершыню пасьля доўгіх дзесяцігодзьдзяў забароны маладым рэжысёрам Мікалаем Пінігіным. Могуць ад суеты пасьмяяцца на клясычных беларускіх вадэвілях «Міхалка» Далецкіх і «Мікітаў лапаць» М.Чарота, а таксама на камэдыі «Вежа» паводля аповесьці У.Някляева (рэжысёр Барыс Эрын), дзе расказваецца, як Ютка з вёскі Каруны будуе вежу да неба, і як гэтым зацікавіліся ў Амэрыцы.

Рэжысёр Андрэй Андросік нядаўна ажыцьцявіў даволі арыгінальнае сцэнічнае прачытаньне славутай драмы амэрыканца Тэнэсі Ульямса «Шкляны зьвярынец»

(«Блакітная ружа»). Вось ўжо некалькі гадоў карыстаецца посьпехам «Памінальная малітва» Рыгора Горына па матывах аповесьцяў Шолам—Алейхема. У рэпэртуары тэатра —«Гаральд і Мод» К.Хігінса і Ж.-К. Кар'ера са Стэфаніяй Станютай у галоўнай ролі, «Махнём у Швэйцарыю?» балгарына Хрысты Бойчава, «Смех лангусты» англічана Дж. Марэла, «Таполевая завея» расейскага сатырыка Міхаіла Задорнага, «Цынкавыя хлопчыкі» — спэктакль-памфлет пра ганебную вайну ў Афганістане, пастаўлены В.Раеўскім па кнізе менскай пісьменьніцы Сьвятланы Алексіевіч. І два-тры разы на месяц абавязкова-неўміручая «Паўлінка», спэктакль-легенда, пастаўлены яшчэ ў 1944 г. у Томску, у гады вайны, калі тэатр быў у эвакуацыі. Амаль тры тысячы спэктакляў. Такога яшчэ не было ў гісторыі сусьветнага тэатра!

«Ня толькі нашаму народу, але і ўсясьветнай культуры...свой дар» —гэты вельмі важны запавет Максіма Багдановіча вызначае сёньня мастацкія крытэрыі далейшага разьвіцьця тэатра імя Я. Купалы. В.Раеўскі ўпершыню на беларускай мове ставіць «Тры сястры» Чэхава, А.Андросік камедыю паводля «Пана дэ Пурсаньяка» Ж.Мальера, М.Панігін марыць пра сцэнічнае ўвасабленьне аднаго з твораў У.Караткевіча. А ў верасьні мы плянуем з нагоды 1000-гадовага юбелею беларускай хрысьціянскай царквы паказаць гістарычны спектакль па драме І.Чыгрынава «Звон не малітва», дзе галоўная гераіня—славутая княгіня Рагнеда, і дзе падзеі адбываюцца ў Заслаўі.



А.Дудараў «Вечар».
Ганна-Галіна Макарава, Мульцік-Віктар Тарасаў

Далей гледачоў чакае адкрыцьцё на купалаўскай сцэне найвыдатнейшага беларускага драматурга Ф.Аляхновіча —хутчэй з'а ўсё гэта будзе спэктакль- вадэвіль паводля яго «Пана міністра» й іншых пьес. І тым ня менеі праблема новай нацыянальнай драматургіі сур'ёзна паўстае перад тэатрам, асабліва зараз, у гэты няпросты час.

Сваe надзеі, тэатр, названы імем вялікага песьняра Беларусі, зьвязвае з адраджэньнем цудоўнай і самабытнай беларускай мовы, нацыянальнай гістарычнай памяці, культуры, духоўнасьці.

Ці ўдасца аднавіць згубленае?—пытаецца тэатр у сваіх апошніх спэктаклях. Хацелася-б верыць.



Я.Купала. «Тутэйшыя». Начальнік караула —Уладзімір Кін-Камінскі, Гануля — Марыя Захарэвіч, Мікіта Зносак —Віктар Манаеў, Сьпічыні —Аляскандр Уладамірскі



# Стварыць беларускі архіў



Ганна Сурмач

Гледзячы ў будучыню, мы ня можам забывацца пра мінулае. Бо карані нашага сучаснага і будучага жыцьця прараслі з нашай гісторыі. А ў ёй тэма эміграцыі — адна з важнейшых і складанейшых. Нам, урэшце рэшт, неабходна сёньня асэнсаваць у поўнай меры, што значылі эміграцыйныя працэсы для Беларусі, якія прычыны іх спарадзілі і да якіх вынікаў яны прывялі. І ня толькі ў дэмараграфічным сэнсе, але і ў палітычным, сацыяльным.

Мне ўяўляецца, што інтэнсыўная эміграцыя адна з важных прычын, якія прывялі да сёняшняга заняпаду нашага нацыянальнага жыцьця.

Аўген Калубовіч у сваім артыкуле «Нашы папярэднікі», апублікаваным у «Беларускім сьвеце», налічваў восем хваляў масавай эміграцыі зь Беларусі за паўтара стагодзьдзя, пачынаючы з канца 18 ст., калі беларускія землі ўвайшлі ў склад Расейскай імпэрыі. Першая зь іх пачалася пасьля паўстаньня Т.Касьцюшкі, далей пасьля вайны 1812 г. і паўстаньняў 1831 г, 1863 г., а таксама пасьля 1917 г. і другой сусьветнай вайны. Зразумела, што такая эміграцыя не зьяўлялася праявай натуральных міграцыйных працэсаў у сьвеце, а набыла рысы нацыянальнай трагедыі. Толькі дзьве з гэтых васьмі хваляў—эканамічная эміграцыя ад бязьзямельля і галечы (у канцы 19-пачатку 20 ст. з Заходняй Беларусі)—у некаторай ступені добраахвотныя. Усе астатнія —прымусовы выезд з радзімы з палітычных прычынаў.

Выгнанцамі былі ў большасьці змагары за волю і незалежнасьць нашай зямлі. Лепшыя зь лепшых яе сыноў найбольш адукаваная і нацыянальна сьвядомая частка народу, тыя, хто не згарэў у агні паўстаньняў, войнаў, у сібірскіх турмах і мог яшчэ многае зрабіць дзеля Бацькаўшчыны. Але ў чужых землях давялося выяўляць свой розум і талент многім слаўным сынам Беларусі. Прыгадаем выхадца з-пад Міра І. Дамейку, стаўшага нацыянальным героем Чылі, Валерыя Ўрублеўскага зь мястэчка Жалудок каля Ліды, генерала Парыскай камуны, Міколу Судзілоўскага, які ў час сваіх блуканьняў стаў старшынёй сэнату на Гавайях.

Найбольш шматлікай была эміграцыя пасьля другой сусьветнай вайны. На ёй варта спыніцца асобна, бо гэта якраз і ёсьць тыя людзі й іх нашчадкі, якія складаюць сучасную беларускую сьвядомую эміграцыю.

Палітычныя пасквілі нядаўніх часоў характэрызавалі гэтую эміграцыю толькі з адмоўнага боку. Аднак тыя, хто вывучаў з дакумэнтаў гісторыю беларускага адраджэньня пачатку стагодзьдзя, падзеі ў Беларусі ў час першай і другой сусьветых войнаў, ужо даўно зразумелі, што сучасная беларуская эміграцыя -- гэта ня нейкія адшчапенцы, а тыя беларускія адраджэнцы, якія працавалі дзеля беларускай справы й якія ў варунках другой сусьветнай вайны, у сытуацыі паміж молатам і накавальняй (паміж Сталіным і Гітлерам) імкнуліся выкарыстаць падзеі дзеля інтарэсаў свайго народу. У многіх беларускіх палітычных дзеячоў той пары ўзьнікла надзея пасьля

---

Друкуючы выступленьне Г.Сурмач напярэдадні XX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі, спадзяёмся, што некаторыя думкі аўтаркі знойдуць водгук у прамовах на нарадзе форуму.

адступленьня Чырвонай Арміі і ліквідацыі сталінскага рэжыму на адраджэньне незалежнай Беларусі. Уяўлялася, што нямецкія акупацыйныя ўлады будуць спрыяльна ставіцца да адраджэньня беларускасьці, як гэта было ў першую сусьветную вайну, калі адчыняліся беларускія школы, працавала Сьвіслачская настаўніцкая сэмінарыя, дзе выкладаў прафэсар Абіхт. Многім тады яшчэ ня верылася, што цывілізаваная эўрапейская краіна, радзіма Гётэ, магла спарадзіць фашызм. Адной зь першых ахвяр гэтых ілюзіяў быў ксёндз Гадлеўскі.

Я думаю, што многае прасьвятлілася-б для нас у вывучэньні гісторыі апошняй вайны, як прычыны новай эміграцыйнай хвалі, калі-б, нарэшце, у нас былі выдадзены шматлікім тыражом вельмі грунтоўнае і абсалютна талерантнае дасьледваньне беларускага гісторыка ў Польшчы Ю.Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», ўспаміны эмігранта Я.Малецкага «Пад знакам Пагоні» й іншыя выданьні.

Пра тое, што беларуская эміграцыя другой сусьветай вайны ня можа мець толькі адмоўную характарыстыку, як гэта сьцьвярджалася нашай афіцыйнай навукай, сьведчыць і тая аб'ёмістая і шматгранная навуковая культурна-асьветніцкая праца, якую нашы суродзічы арганізавалі на чужыне. Імі падрыхтваны і выдадзеныя шматлікія кнігі, часопісы, навуковыя працы.

Сёньня мы ўжо разумеем, сколькі страчана ад таго, што так доўга адмяжоўваліся мы ад сваіх землякоў, якія аказаліся на чужыне воляй лёсу. Каб гэта бяспамяцтва не прадаўжалася і надалей, мы сумесна павінны клапаціцца пра тое, каб ўсё, што зроблена беларусамі на эміграцыі ў галіне разьвіцьця нацыянальнай гісторыі і культуры, было захавана дзеля будучыні. Хацелася-б каб тут, на Бацькаўшчыне, дзяржаўныя біблятэкі, архівы, музэі Беларусі мелі эміграцыйныя выданьні. Цікавіць нас таксама і дакумэнты, лісты, рукапісы беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў, навукоўцаў, грамадзкіх дзеячоў, архівы беларускіх арганізацыяў замежжа.

Для вывучэньня гісторыі беларускай дыяспары вельмі неабходна гэтая крыніцазнаўчая база. Безь яе немагчыма забясьпечыць аб'ектыўнасьць дасьледваньня.

Непакоіць нас і лёс эміграцыйнага архіва БНР. Там ёсьць цікавыя дакумэнты, якія патрэбны зараз для перагляду састарэлых гістарычных канцэпцыяў і напісаньня праўдзівай гісторыі народу.

Таму, як галоўная неабходнасьць, паўстае задача перадачы ў Беларусь хоць частку некаторых дакумэнтаў з гісторыі беларускай эміграцыі. І ня трэба баяцца, што мы ня зможам забясьпечыць іх захаваньне. Перавезены з Прагі архіў знакамітага спевака Міхася Забейды служыць цяпер людзям. Дарэчы, дзяржаўныя архівы, нягледзячы на ўсе перашкоды, захавалі ў сваіх «спэцхранах» цікавейшыя дакумэнты і зараз адкрываюць іх для дасьледчыкаў.

Так што мы зможам захаваць **архівы** эміграцыі ў Беларусі, на агульнай **Бацькаўшчыне** беларусаў. Менавіта **тут і трэба** зьбіраць нашыя **архівы і бібліятэкі. А як** гэта зрабіць практычна, **трэба дамаўляцца** сумесна. Так **што мы заклікаем нашых землякоў супрацоўнічаць дзеля ўзаемнай карысьці.**



# Кола жыцьця Бацькаўшчыны

Ігар Бараноўскі, Юрась Сьцяпанаў, Анатоль Старадарожскі



## Менск

Стараньнямі клюбу «Спадчына» для ушанаваньня памяці былых супрацоўнікаў Інбелкульта, якія працавалі ў будынку Інстытуту беларускай культуры па вул. Рэвалюцыйная 15, зроблена мэмарыяльная дошка. На ён напісана:

«Тут ў 1925-1928 гг. знаходзіўся Інстытут **беларускай культуры (Інбелкульт), папярэднік Беларускай Акадэміі навук.**

**У той час у ім працавалі**

**Мікола Азбукін, Аўген Барычэўскі, Мікола Байкоў, Мікола Блюдухо, Пётра Бузук,** Максім Гарэцкі, Міхайла Грамыка, Зьміцер Даўгяла, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Васіль Дружчыц, Язэп Дыла, Зьміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), Іван Замоцін, Віктар Зелязей, Мікола Касьпяровіч, Яўхім Кіпель, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лёсік, Іван Луцэвіч (Янка Купала), Алесь Ляўдансксі, Канстанцін Міцкевіч (Якуб Колас), Сьцяпан Некрашэвіч, Кастусь Палікарповіч, Міхаіл Піятуховіч, Самуіл Плаўнік (Зьмітрок Бядуля), Ісаак Сербаў, Аркадзь Смоліч, Алесь Цьвікевіч, Алесь Шлюбскі, Мікола Шчакаціхін, Браніслаў Эпімах-Шыпіла й іншыя вядомая дзеячы беларускай навукі і культуры».



27 красавіка на дзень трох Віленскіх пакутнікаў адбыўся ўстаноўчы сход Беларускага праваслаўнага брацтва трох Віленскіх пакутнікаў пры Сьвята-Пятрапаўлаўскім саборы г.Менску.

На устаноўчым сходзе брацтва прысутнічаў Уладыка Філарэт, мітрапаліт Менскі і Слуцкі, Патрыяршы экзарх усяе Беларусі, які ў сваёй прывітальнай прамове адзначыў спрыяльны паварот у жыцьці царквы, зьвязаны з шырокай дапамогай з боку вернікаў і міранаў, якая раней не была магчымая. Аб гэтым сьведчыць і даволі хуткі рост братчыкаў і прыхільнікаў, з 9 на пачатку году да 100, на момант устаноўчага сходу.

Сход разгледзіў праект статута, які будзе дапрацаваны ў адпаведнасьці з выказанымі заўвагамі і зацьвердзіў склад пашыранай рады, у якую ўвайшлі 9 сьвятароў: а.Сергій, (Гардун), а.Віталі (Радамысльскі), а.Дзімітры (Башко), а. Ігар (Карасьцелеў), а.Анатоль (Кавалеў) і інш., тры сэмінарысты Жыровіцаке сэмінарыі (Ю.Сакалоў, У.Шыдлоўскі, А.Кароль), дзеячы беларускай культуры і навукі (У.Конан, А.Клышка, Г.Каханоўскі). На прапанову галоўнага апекуна брацтва а.Георгія (Латушкі) аднагалосна абраны старшыня (М.Матрунчык) і заступнік старшыні брацтва (А.Аньціпенка).



Надзвычайны канцэрт адбыўся ў гасьцёўні Ўладзіслава Галубка 28 красавіка. Творчы вечар Галіны Смоляк, дыпляматкі Міжнароднага конкурса опэрных сьпевакоў у Вене, быў прысьвечаны сьвяту Вялікадня. У гасьцёне гучала духоўная музыка, якая ва ўсе часы натхняла людзей на чыстыя, прыгожыя пачуцьці. Задушэўныя песьні і рамансы на тэксты беларускіх паэтаў у выкананьні таленавітай сьпявачкі Галіны Смоляк яшчэ раз пацьвердзілі вядомую ісьціну: прыгажосьць выратуе сусьвет.

## Віцебшчына

6-7 чэрвеня ў Полацку адбылася навукова-практычная канфэрэнцыя, прысьвечаная 180-угодкам Полацкай езуіцкай Акадэміі.

У нарадзе канфэрэнцыі «Полацкая акадэмія і актуальныя праблемы нацыянальнае культуры» зь цікавымі дакладамі ад мінуўшчыне і будучыне акадэміі і беларускай нацыі наогул выступілі: Алесь Жлутка «Полацкая акадэмія і лёс клясічнае адукацыі», Адам Мальдзіс «Літаратурнае жыцьцё ў Полацкай акадэміі», Уладзімір Конан «Канцэпцыя міфалёгіі ў творчасьці М.К.Сарбеўскага (паводля трактата «Багі язычнпкаў», Полацак, 1627)», Алесь Бялецкі «Роля рэлігіі ў нацыянальным адраджэньні» іншыя вядомыя беларускія дасьледчыкі.

У пачатку лета ў Віцебску прайшла канфэрэнцыя філёзафаў «Грамадзтва, дзяржава, права». За круглым сталом разглядаліся праблемы грамадзтва, асэнсоўваліся здабыткі сусьветнай дэмакратыі. Асаблівую ўвагу вучоных прыцягнулі праблемы нацыянальнага Адраджэньня, адбудовы дзяржаўнасьці.

Рашэньнем гарадзкіх уладаў Полацка Цэнтральная плошча горада будзе, як і да 60-х гадоў, называцца Пляц Волі.

## Берасьцейшчына

Пінская камісія «по наименаванию и переименованию улиц» зьвярнулася да пінчукоў з просьбай даслаць свае прапановы. Адначасна яна абнародавала «плады сваёй творчасьці» у новых раёнах гораду: вул. Гагарына, Жукава, Карбышева, Машыностроителей, Камышовая, Мележа. Добра, што назоў гэтых вуліцаў яшчэ не зацьверджаны, і пімнчукі здолеюць прапанаваць нешта больш цікавае і вартаснае, зьвязанае зь гісторыяй горада й роднага краю.

На 4 чэрвеня на Берасьцейскім электрамеханічным канцэрне быў прызначаны сход рабочых. На ім плянавалася абмеркаваць сытуацыю, якая склалася БЭМК у сувязі з маючымі адбыцца масавымі скарачэньнямі працоўных. Ініцыятарамі сходу выступіла адна зь берасьцейскіх суполак БСДГ, сябры якой таксама працуюць на БЭМК. Напярэдадні арганізатары сходу дамовіліся, што ім будзе прадастаўлена актавая заля. Аднак пасьля таго, як адміністрацыя БЭМК на чале з сп.Л.Сідорыкам даведалася, што сход будзе абмяркоўваць плянуемае скарачэньне, у памяшканьні было адмоўлена, а ўсе расклееныя на прадпрыемстве ўлёткі былі сарваны.

Аднак пасьля першае зьмены людзі сабралася перад прахадной прадпрыемства. Яны выказалі сваё абурэньне дзеяньнямі адміністрацыі, якая вырашыла скараціць некалькі тысяч працоўных, нягледзячы на тое, што многія зь іх адпрацавалі на гэтым прадпрыемстве па 20-25 гадоў. Аднаму сябру БСДГ, які таксама даўно працуе на БЭМК, заявілі, што ён будзе ў ліку першых выкінутых за дзьверы прадпрыемства з-за сваёй актыўнай дзейнасьці й спробы абараніць свае працы. Тут важна падкрэсьліць халуйскую пазыцыю прафсаюзных дзеячоў, якія йдуць разам з адміністрацыяй і абсалютна не хвалююцца за лёс працоўных, якіх яны мусяць бараніць ад дзеяньняў адміністрацыі. Многія разумеюць неабходнасьць стварэньня сваіх незалежных прафсаюзаў, але баяцца праявіць залішнюю актыўнасьць.

# Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвінаў

Паўла Урбан

Дарэчы, пра Аўкштоту і Жамойць была гаворка ў мірным пагадненьні 1323 г. в. кн. Гедыміна з Прускім і Лівонскім нямецкімі ордэнамі, намесьнікам караля Даніі ў Эстоніі й Рыжскім архібіскупам. Тое пагадненьне трывала нядоўга. Яно, аднак, да «мірных земляў» ў Літве залічала якраз Аўкштоту і Жамойць, хоць сам Гедымін і ў гэтым выпадку тытулаваўся як «кароль Літвы».[91]

Можна, такім чынам, упэўнена сьцвердзіць, што Аўкштота была асобнай зямлёй і ніколі не атаясамлівалася з уласнай Літвой. Можна таксама сьцвердзіць, што Аўкштойцкая зямля ляжала па поўнач ад ракі Вільлі, а гэта паабапал ракі Сьвятой. Знаходзілася там, дзе былі гэткія паселішчы, гарады або замкі: Вількамір, Уцяна, Таўрагіні, Больнікі, Малаты, Дубінкі, Гедройці, Немянчын, Кернава, Шашолы, Пабойск, Рогава, Кеданы, Шаты, Жэймы, Кульва, Ворлава і Коўна. Магчыма, што да Аўкштоты належалі яшчэ Ўпіта і Сьвянцяны. Сваю назву яна атрымала ад мясцовых насельнікаў балцкага паходжаньня або, калі зьвярнуцца да канстатацыі в.кн. Вітаўта, яе гэтак называлі жамойцы. Аўкштота —гэта высокая гарыстая мясцовасьць, бо ў мове балтаў «аўкштас» азначаў «высокі». Чаму ў Аўкштоце засноўваліся паселішчы і гарады з характэрнымі славянскімі назвамі (Вількамір, Больнікі, Дубінкі, Пабойск, Рогава, Шаты), пра гэта будзе гаворка пазьней. А тут, забягаючы наперад, можна зьвярнуць увагу на гэтую загадкавую справу.

У мірным пагадненьні 1398 г. в.кн. Вітаўта з Прускім і Лівонскім нямецкімі ордэнамі згадваўся «камень Род», які абазначаўся ў якасьці пагранічнай прыкметы і стаяў дзесьці ў вярхоўі ракі Нявяжы крыху далей на поўнач ад паселішча Вайсьвільцаў (Велавільцы?) Магчыма, гэты «камень Род» знаходзіўся ў тым часе каля паселішча Падлясьсе. Але-ж Род калісьці належаў да вярхоўных нябесных багоў у славянаў і адпавядаў, магчыма, багам Сварогу або Стрыбогу. Культ бога Рода шанаваўся ў дахрысьціянскай Кіеўскай Русі, дзе над ракой Рось існаваў гарадок Родня, праўдападобны цэнтр культу гэтага паганскага бога.[92] Можна меркаваць, што той пагранічны «камень Род» таксама быў зьвязаны з ушанаваньнем культу бога Рода.

Дасьледчыкі, якія спэцыяльна вывучалі гісторыю Вялікага княства Літоўскага, не маглі не заўважыць таго факту, што ў старых хроніках, пісаных у Прусіі і Лівоніі, заўсёды паўтаралася гэткая тэрміналёгія: «баяры караля Віценя», «баяры караля Гедыміна», «кароль Альгерд са сваімі баярамі і сьмердамі». Асабліва ў старых актах:«ваявода», «намесьнік», «гараднічы», «цівуны», «дзяржаўцы», «дзецкія», «старосты». Або «серабшчына», «палюдзьдзе», «паводы», «устаў», «устаўное лукно», «ўстаўная бочка», «бортны лес», «прысёлкі», «саха», «сябрына-сябрычы».

Здаецца, тлумачыць ня трэба, зь якой мовы маглі быць запазычаныя гэтыя ўсе тэрміны.

(Працяг. Пачатак у №№1(11)– 4(14)

Мы ўжо прыгадвалі гандлёвае пагадненьне, якое в.кн. Гедымін аформіў у 1388 г. з магістрам Лівонскага ордэну Эвэргардам з Мунгайму і Радай гараджанаў Рыгі. Дык тое пагадненьне Гедымін падпісаў якраз у згодзе са сваімі баярамі, а таксама маючы на гэта згоду Полацкага япіскапа Грыгора і сваіх сыноў Альгерда і Глеба-Натымонта. Пагадненьне гэтае, як і папярэдняе мірнае пагадненьне 1323 г., замацоўвалася яшчэ «цалаваньнем крыжа», што было добра ведамым рытуалам і належала да старой славянскай традыцыі. Якраз Полацкі князь Усяслаў Чарадзей здрадным чынам быў палонены ў1067 годзе пад Воршай пасьля таго, як кіеўскія князі Ізяслаў, Сьвятаслаў і Ўсевалод «*целовавше кресть честный кь Всеславу, рекше ему: приди к нам, яко не створимъ ти зла*». Дарэчы, гэткім рытуалам—цалаваньне крыжа —замацаваліся граматы ведамых гандлёвых пагадненьняў XIII ст. князёў Смаленскага, Полацкага і Віцебскага княстваў з Рыгай і «Готскымь берегомь». [93] Або вось яшчэ формула дагаворнай граматы гандлёвага пагадненьня Полацкага князя Ізяслава з Рыгай і магістрам Лівоніі, аформленага каля 1265 году: «*На семь же целуйте ко мне кресть, по любьви в правду без всякого извета*».[94]

У в.кн. Гедыміна быў дыплямат на імя Лесій, які ўважаў сябе за «ліцьвіна», а сваіх калегаў, іншых паслоў, называў «русінамі». Пад прысягай у 1326 г. Лесій зрабіў заяву ў Рызе, у якой абвінавачваў крыжакоў у тым, што яны парушылі ўмовы мірнага пагадненьня 1323 г., усяляк паклёпнічаюць на Гедыміна, перахопліваюць ягоных паслоў і чыняць рабунковыя напады. Гаворачы пра адзін з такіх рабунковых нападаў на караблі, якія з таварамі плылі па Дзьвіне далей ў Русь (Полацкую зямлю) Лесій палічыў патрэбным да лацінскай назвы тых караблёў дадаць яшчэ славянскую «ладзьдзю». Ладзьдзямі (ладьями) называліся якраз вялікія парусныя або вёславыя лодкі [95]. Як ведама, такія «ладьи», званыя інакш, былі ў скандынаўскіх вікінгаў.

Дык вынікае, в.кн. Гедымін нездарма запрашаў у сваё княства манахаў-прапаведнікаў зь веданьнем моваў польскай і русінскй, зь веданьнем славянскай мовы ўвогуле.

Выдаўцы архіўных актаў Віленскай каталіцкай дыяцэзіі зрабілі добрую справу. Першы том публікацыі гэтых актаў ахоплівае гістарычны пэрыяд ад 1387 да 1507 году. У ім сабраныя ў асноўным дароўныя граматы ня толькі самога Ягайлы, вялікіх князёў Вітаўта й ягонага брата Жыгімонта, Казіміра Ягайлавіча й ягонага сына Аляксандра. У масе гэтых дакументаў большую колькасьць складаюць дароўныя граматы звычайных ліцьвіноў, да якіх належалі баярыпаны, ведамыя магнаты Кязгайлы, Радзівілы, Саковічы, Гедыгольдавічы, Судзівоі-Судзьмонтавічы, Мантыгердовічы, Забярэзінскія або князі Сьвірскія і Гальшанскія.

Мы зьвернем увагу толькі на дароўныя граматы, пісаныя на лацінскай мове, і ў тэкстах якіх ужываліся славянскія тэрміны рознага значэньня. Каб пазьбегнуць масы зносак, у кантэксьце агляду, у дужках будуць пазначаныя нумары дакумэнтаў і старонкі, на якіх яны публікаваліся ў цыта-ваным ужо намі выданьні "Codex diplomaticus Ecclesiae Cathedralis necnon Dioeceseos Vilensis" (Vol. 1)

Наконт гэткіх славянскіх тэрмінаў, як «баяры», «сьмерды», «кметы», «палюдзьдзе», «устаўное лукно», «падовды», «дзецкія», «конюхі», якія траплялі ў лацінскія або старанямецкія тэксты, ведамы рускі гісторык Уладзімір Пашута зрабіў такую

заўвагу: «Заимствование русских терминов... не должно нас удивлять, это готовая юридическая форма, в которую удобно облекались сложившиеся в Литве общественные отношения».[96]

Як бачым, тлумачэньне даволі простае. Маўляў, справа тычылася толькі «запазычаньняў», і з гэткім тлумачэньнем можна было-б пагадзіцца, калі-б прыгаданыя дароўныя граматы пісаліся толькі сакратарамі вялікіх князёў, пісаліся ў Дзяржаўнай канцыляры і Вялікага княства Літоўскага. Аднак, як адзначалася, тыя дароўныя граматы афармляліся яшчэ па-за гэтай Дзяржаўнай канцылярыяй і пісаліся звычайнымі ліцьвінамі, хай сабе і панамі, магнатамі і князямі. Яны свабодна маглі-б аздобіць лацінскія тэксты гэтых сваіх граматаў яшчэ тлумачальнымі тэрмінамі, скажам, жамойцка-летувіскага паходжаньня. Гэтага, аднак, не здарылася, а таму няма падставаў гаварыць пра тое, быццам тыя ліцьвіны ахвотна «ахутваліся» чужымі моўнымі запазычваньнямі.

Вось-жа, у ведамых актах караля Уладыслава-Ягайлы 1387г. ягонае забавязаньне наконт хрышчэньня ліцьвіноў, а таксама дароўная граматы для заснаванай Віленскай каталіцкай япархіі й, у прыватнасьці, для Віленскага біскупства былі ўжытыя гэткія тэрміны: *устаўное лукно мёду, серабшчына, падводы, дзецкія, палюдзьдзе, дзякла.* У тых Ягайлавых дароўных граматах была яшчэ гаворка пра *гаі, бары й яз* у Нёмане (№1, 6, 98, с. 1-9, 11-15, 17-19).

Мы ўжо гаварылі, што «устаўное лукно» было адзінкай вымярэньня переважна мёду й азначала таксама падатак мёдам, які браўся ад пчаляроў-бортнікаў. Пад «палюдзьдзем» разумелася ў тым часе забесьпячэньне прадуктамі харчаваньня і фуражом вялікага князя й ягонай сьвіты пры аб'ездьдзе ім краіны. На гэтае палюдзьдзе мелі таксама права вышэйшыя дзяржаўныя ўрадоўцы і духоўныя асобы. «Яз у Нёмане» азначаў пляцёную перагароду ракі для затрыманьня й лоўлі рыбы, дзесяціна рыбы, якая лавілася тут, передавалася Віленскаму біскупу. Пад «падводамі» разумеўся сялянскі транспарт, а «серабшчынай» называўся грашовы падатак, які пазьней зьбіраўся толькі для ваенных патрэбаў. «Дзецкія» таксама стараславянскі тэрмін, гэта пасыльныя пры вялікакняжацкім двары, а пазьней яшчэ і судовыя выканаўцы. А «дзякла» азначала ў асноўным падатак ўсялякай збажыной і сенам.

Мы ўжо згадвалі дароўныя граматы в.кн. й ягонага брага кн.Жыгімонта, датаваныя 20 красавіком і 11 лістападам 1411 г. У 1428 г. Вітаў пацьвердзіў дароўную грамату былога Віленскага ваяводы і каштэляна Альбэрта Монвіда. Нябожчык Монвід пабудаваў капліцу ў Віленскім катэдральным саборы і дзеля ўтрыманьня гэтае капліцы запісаў для катэдры некаторыя свае дары. У гэтай пацьвярджальнай грамаце в.кн. Вітаўта гаворыцца, што апрача дзесяціны з плёну працы сялянаў трох вёсак, нябожчык Альбэрт Монвід на ўтрыманьне капліцы запісаў яшчэ штогадовы дар мёдам: *лукно шасьціпяднае*, якое забавязаныя пастаўляць шэсьць сем'яў Львовічаў і Небутовічаў: і *лукно пяціпяднае*, што належыць з трох сям'яў Цярэнцівічаў (№86, с. 744-754).

Мы ўжо тлумачылі, што азначала пяціпяднае або шасьціпяднае лукно мёду, а тэрмін «сям'я» таксама зразумела. Свае зямельныя ўладаньні Альбэрт Монвід меў на Ашмяншчыне паміж рэкамі Ашмянкай і Бярэзінай з галоўнай сядзібай у Вішневе.

У Альберта Монвіда быў брат Юры Гедыгольд, які займаў пасады маршалка дворнага, Кіеўскага ваяводы і старосты Па-

дольскай зямлі. Ад 1425 да 1432 году ён быў Віленскім ваяводам. Але гаворка пойдзе пра ягонага сына Сямёна Гедыгольдавіча зь Вішнева, які ў 1451 г. займаў пасады Віленскага каштэляна і намесьніка Смаленскага. Ягоныя дароўныя граматы тычыліся каталіцкіх парафіянаў у Радашковічах і ў Вішнёве. Праўда, выдаўцы актаў Віленскай каталіцкай дыяцэзіі меркавалі, што дароўная грамата для парафіяльнага касьцёлу ў Вішневе была падробленая. Для нашай тэмы гэта, аднак, ня мае ніякага значэньня, бо дастаткова маецца іншых акрэсьленьняў.

Дык ў сваіх дароўных граматах 1451 г. гэты маганат Сямён Гедыгольдавіч тытулаваў сябе намесьнікам Смаленскім і ўжываў яшчэ тэрміналёгію «*устаў меду, пашня і сенажаці*» (№202,203, с. 22-8-231).

Гэткім-жа магнатам быў Андрэй Саковіч -уладальнік Немянчына, Сьвянцянаў, Груздава, Дубравы і Мядзелу. Сын баярына Сакі, прыгадванага ў ведамых актах Гарадзельскай вуніі 1413 г. Андрэй Саковіч ад 1440 г. быў вялікакняжым намесьнікам у Смаленску, затым ад 1444 г. займаў пасаду Полацкага намесьніка. У 1440 г. ён згадваўся на пасадзе ваяводы Троцкага.

Захаваліся тры ягоныя дароўныя граматы, датаваныя 9 чэрвенем 1434 г., 3 лютым 1443 г. і 21 лютага 1457 г. У першай з гэтых граматаў Андрэя Сакавіча была гаворка пра дар для Віленскага катэдральнага сабору, у другой—для парафіяльнага касьцёлу ў Груздаве, што знаходзіўся на поўнач ад Мядзела:—у трэцяй для заснаванага ім парафіяльнага касьцёлу ў Мядзеле. Вось славянскія тэрміны, якія былі ўплеценыя ў тыя ягоныя дароўныя граматы:5 і 20 *пудоў мёду, яз* у рацэ Бярэзіне, чатыры *сохі* воранай зямлі, *сябрыны і сябрычы,* што тычылася сябрыны або аб'яднаньня бортнікаў-пчаляроў, якія ўсьлед за перамяшчэньнем лясных дзікіх пчолаў самі вандравалі з адной пушчанскай мясьціны ў іншую мясьціну пушчаў: чатыры *ўшаткі* мёду, рэчка Княгінца зь *язам, дзесяціна* усялякай збажыны з пашні (поля) Чарнічка, 12 чалавек *чэлядзі,* дзесяціна ўлову рыбы зь *дзяльніцы* нашай (№132,175,226, с. 149-150, 199-201, 252-253).

Тэрмін «саха» або яшчэ «рала» азначаў і прыладу апрацоўкі зямлі, і адзінку вымярэньня зямлі, і адзінку падатковага абкладаваньня. Як і бочка, «ушатка» — гэта вядро, падобнае на даёнку з ручкай, і яна была адзінкай вымярэньня вадкасьці, у тым ліку і мёду. Да «чэлядзі» залічаліся дваровыя людзі і слугі заможных уладальнікаў, а калі гэтая чэлядзь была несвабодная, дык у разгляданых актах дадавался: «чэлядзь нявольная». Юрыдычнае паняцьце «дзяльніца» і «дзельнік» увогуле азначала падзел у сям'і рухомай і нерухомай маёмасьці або папярэдняе ўдакладненьне, каму што павінна было належаць. Ужыты ў дароўнай грамаце Андрэя Саковіча моўны выраз «дзесяціна ўлову рыбы зь дзяльніцы нашай» тлумачыцца тым, што дзесяціна рыбы належала парафіяльнаму касьцёлу ў Мядзеле ня толькі з улову двара Андрэя Саковіча, але яшчэ і з улову рыбы, напарнікам якога быў нейкі пан Скяміна.

У дароўнай грамаце магната Андрэя Саковіча для парафіяльнага касьцёлу ў Мядзеле згадваўся маёнтак, званы Родам. Магчма, што як і прыгадваны ўжо намі Вітаўтаў «пагранічны камень Род»,гэткая назва таго маёнтку нейкім чынам была зьвязаная з паганскім богам славянаў Родам.

У родзе магнатаў Кязгайлаў былі ня толькі Мікалаі, Міхалы, Яны, Пётры і Станіславы. Траплялісся яшчэ імёны Шадзібор і Дабяслаў. Шадзібор быў братам Мікалая Кязгайлы, які яшчэ за часоў в.кн. Вітаўта

займаў пасаду Жамойцкага старосты. Дабяслаў, у сваю чаргу быў сынам таго Мікалая Кязгайлы і братам Міхала й Яна Кязгайлавічаў. Запомнім імёны Шадзібор і Дабяслаў, бо яны прыдадуцца пры параўнаньні імёнаў уласных ліцьвіноў зь імёнамі прадстаўнікоў іншых народаў.

Таксама захаваліся дзьве дароўныя граматы братоў Міхала й Яна Кязгайлавічаў (Кязгайлаў), датаваныя 22 і 29 лютым 1476 г. Міхал Кязгайла ад 1446 да 1476 гг. займаў пасады канцлера ВКЛ і Віленскага ваяводы. Нейкі час,у 50х гг. быў вялікакняжым намесьнікам у Смаленску. Памёр ён у 1476 г. Ян Кязгайла ад 1451 г. у якасьці старосты кіраваў Жамойцкай зямлёю. У адной з гэтых граматаў запісваўся дар на ўтрыманьне сямейнай капліцы ў Віленскім катэдральным саборы, а ў іншай — для парафіяльнага касьцёлу ў Дзявілтаве. Гэты Дзявілтаў знаходзіўся недалёка ад Вількаміра.

У тых дароўных граматах братоў Кязгайлаў таксама была ўжытая гэткая тэрміналёгія: 5 і 40 *пудоў мёду, устаў мёду, чатыры ўшаткі мёду, чатыры кулі ліпцу (ліпавага мёду). тры дзесяціны* ўсялякай збажыны з трох двароў, у тым ліку *грачыхі* (грэчкі), сем *конюхаў* (№ 296, 297, с. 348-352).

Тэрмін «куль» азначаў адзінку вымярэньня пераважна збожжа, аднак, як і мэтрычная адзінка «кубел», ужываўся таксама ў якасьці адзінкі вымярэньня мёду.[97]

У дароўнай грамаце для парафіяльнага касьцёлу ў родавым маёнтку Дзявілтаў згадвалася і запруда ў рацэ Стара (Старая?), званая ў тым часе «Прайкунаў Пруд».

Ёсьць яшчэ дароўная грамата Мікалая Іванавіча Кязгайлы, сына прыгадванага Жамойцага старосты Яна Кязгайлы. Яму належалі маёнткі на поўдзень ад Наваградку: Ельня, Дварэц і Жалезьніца. Мястэчка Дварэц у грамаце называўся «Дварцом Сьвідрыгайлы». Дароўная грамата Мікалая Кязгайлы датавалася 9 травеня 1498 г., а дар запісваўся для парафіяльнага касьцёлу ў Ельні, у якой ён пабудаваў новы алтар. Дык і ў гэтай грамаце Мікалая Іванавіча Кязгайлы была гаворка пра тры меркі сыро га мёду, званымі *ўшаткамі, пуд* масла і тры *ялавіцы*—каровы-ялаўкі ( № 452, 529, 530).

Цікавая таксама дароўная грамата маці малалетняга ў тым часе Яна Юравіча Забярэзінскага. Дзесьці каля 1484 г. ён стаўся вялікакняжным намесьнікам у Полацку, пазьней, ад 1498 г. займаў пасады троцкага ваяводы, намесьніка Горадзенскага, быў адначасна найвышэйшым маршалкам ВКЛ. Магнат Ян Юравіч Забярэзінскі быў замардаваны ў лютым 1508 г. на пачатку бунту князя Міхайлы Львовіча Глінскага.

Ягоная маці звалася Аляксандрай. У згодзе з завяшчаньнем свайго мужа Юрыя Рымавідавіча яна запісала дар для парафіяльнага касьцёлу родавага маёнтку Беразяны, да якога належалі двары Забярэзьзе (Забрэзьзе і Шастова). Усе яны знаходзіліся ў вярхоўі нёманскай Бярэзіны. Дароўная грамата Аляксандры датавалася 13 чэрвенем 1456 г.,і ў ёй згадваўся ейны сын Ян.

Апрача знаёмай ужо нам тэрміналёгіі 12 пудоў мёду, 10 чалавек чэлядзі, яз у рацэ, у той дароўнай грамаце пані Аляксандры гаварылася таксама, што для парафіяльнага касьцёлу ў Беразянах запісваюцца *поле і пашня* ( зямля, прыгодная для ворыва) на 40 і 60 бочак. Дарыўся таксама лес, званы *Сьвятым лесам*, і луг з *прудам*, які (гэтая сажалка) называўся *ніжнім Міхалам* ( № 224, с. 248-250).

Дарэчы, пакідаючы славянскую назву, Сьвяты лес, у рэгіёне Вількавіру Віленскаму каталіцкаму біскупа у Яну належаў маёнтак Шашолы. Дароўная грамата біскупа Яна з 14 травеня 1478 г. паводля ёй, вучастак

ворнай зямлі і «сьвяты лес» «на другім беразе возера Шашолы» дарыў ён сялянскай сям'і свайго вернага слугі на імя Мігус ( № 309, с. 356-365). Для біскупа Яна гэты Мігус быў «кметам».

У дароўных граматах, пра якіх тут гаворка, часта згадваўся дар ворнай зямлі на столькі і столькі «бочак». Гэтая бочка была адной з асноўных адзінак вымярэньня сыпкіх і вадкіх рэчываў у мэтрычнай сыстэме мер ВКЛ.[98] Але ў нашым канкрэтным выпадку—вымярэньне дару ворнай зямлі ў бочках — паняцьце гэтае тычылася меркаванага збору ўраджаю збожавых культураў.

(Працяг у наступным нумары)

COLLEGII HISTORICI ACADEMIAE LITTERARUM POLONICAE
Num. 51

CODEX DIPLOMATICUS
ECCLESIAE CATHEDRALIS NECNON DIOECESIS VILNENSIS
VOLUMEN I

WYDAWNICTWA KOMISJI HISTORYCZNEJ POL. AKADEMII UMIEJĘTNOŚCI
Nr 51

KODEKS DYPLOMATYCZNY
KATEDRY I DIECEZJI WILEŃSKIEJ
TOM I

WYDALI
KS. JAN FIJAŁEK i WŁADYSŁAW SEMKOWICZ

NAKŁADEM POLSKIEJ AKADEMII UMIEJĘTNOŚCI
KRAKÓW 1948

## Бібліяграфія

91 Послания Гедымина № 12. с. 186-195
92 Рыбаков В.А. Язычество древенй Руси. Наука, М., 1987, с. 755-765
93 Смоленские грамоты XIII-XУI веков. Подготовили к печати Т.А. Сумникова и В.В. Лопатин. М., 1963.
94 Полоцкие грамоты XIII—начала XУI веков. Составитель доктор исторических наук А.Л Хорошкевич. М., 1977, № 2, с. 36-37.
95 Послания Гедимина, № 17, с.174-187
96 Пашуто В.Т. Цыт.Праца, с. 308.
97 Скурат К. У. Цыт. праца, с. 67-68, 85-86.
98 Там-жа с. 48-52.

Preussische Chronik
von
M. Lucas David,
Hof-Gerichts-Rath zu Königsberg unter dem Markgrafen Albrecht,
nach der Handschrift des Verfassers,
mit Beifügung
historischer und etymologischer Anmerkungen,
herausgegeben
von

Erster Band.

Königsberg,

Dritter Band, Königsberg, 1813

# Роднае слова

## Цяперашнімі вачыма

### *Дзесяць дзён у Мюнхене*

Масей Сяднёў

Захацелася было вярнуцца ў мінулае — паехаць у Мюнхен, дзе я некалі пражыў нямалую часьціну свайго жыцьця. Увечары, каб ніхто мяне не пазнаў, абыйшоў знаёмыя мне раней мясьціны. Агледзеў таксама той дом, дзе я некалі жыў разам з сваёй сям'ёй. Усё, ці бадай усё, тут засталося такім, якім было *калісьці*. Але ўсё яно цяпер ня радавала мяне, хутчэй засмучала. Тое мінулае, тое *калісьці* азвалася шчымлівым болем. І я зразумеў — у мініулае нельга вярнуцца, нельга вярнуцца ў тое, што *было*.

* Ня выглядаў ужо для мяне, як раней, і Ангдійскі парк у Мюнхене — на мяне ён падзееў нейкім усяленскім смуткам, вавілонскай вежай: парк быў перапоўнены людзьмі розных нацыянальнасьцяў, расаў, пераважна моладзяй. Яна б'е ў бубен, сьпявае, гандлюе, чуеш чужую музыку, у тым ліку афрыканскую, а скрозь гэта ўсё —страчанасьць, сум. Праз весялосьць— сум. Яна нечага шукае, але не знаходзіць. Надыйдзе вечар і яна схлыне. І парк ня будзе помніць яе, стоптаны ёю. Дзе тыя жывыя німфы, што некалі панавалі ў гэтым парку? Куды яны адыйшлі?

* У Тыятынэркірсе ішла якраз служба. Калі я бываю ў Мюнхене, я ніколі не мінаю яе—хаваюся ў ёй ад сьвету. Цяпер яна поўная людзьмі, старымі і маладымі. Адчуў яднаньне немцаў: у Бозе й яднаньне як нацыі, як народу. На вокліч сьвятара адказвалі маліцьвенна дружна, як адно цэлае. І міжволі падумалася: калі такое яднаньне наступіць у нас, беларусаў?

* Адсюль, зь Нямеччыны, думаю пра сваю Беларусь і якой-жа ніякай, даруйце, яна выглядае адсюль! У ёй няма яшчэ свайго духу, свайго розуму, інтэлектуальнай моцы, веры ў сябе. У вачох маіх яна заслоненая Чарнобылем. Гэта не пэсімізм, гэта—замілаванасьць да яе.

* Мае думкі пераважна адмоўныя.

* Я ня ўмею сьцьвяржаць,толькі адмаўляць. Я адмоўны чалавек.

* Цяпер у Нямеччыне забастоўка. Цікава—немцы і ў забастоўцы дысьцыплінаваныя: абвесьцілі яе, і яны бастуюць, загадалі перапыніць—яны яе спыняюць. Клясычныя выканаўцы загадаў!

* Усюды цяжка, але тут, у гэтай краіне яшчэ цяжэй утрымліваць сваю, індывідуальную самастойнасьць, суверэннасьць: вялікая спакуса паддацца ўплыву добра упарадкаванай краіны пагражае табе. Страціў гэтую суверэннасьць — і цябе няма.

* Фактычна я ня ведаю ніякай іншай мовы, апрача беларускай. Ангдійскую, нямецкую нібы і ведаю — нават перакладаю з гэтых моваў—але застаюцца яны для мяне чужымі, малазразумелымі. Ды што там ангдійская, нямецкая? Нават расейская застаецца ўжо на узбоччы. Я застаюся фактычна толькі з адной мовай —беларускай. Яна стался ўжо маёй доляй.

* Возера Штанберг. Гэта недалёка ад Мюнхену. Набережная застаўленая лаўкамі. Яны ўсе занятыя старымі. Божа мой , колькі тут старых! Толькі зрэдку прадэфілююць маладыя дзяўчаты ў ультракароткіх

сукенках. Жудасны кантраст: тыя, што адыходзяць, і тыя, што пруць ва ўсю! Я, паглынуты ўсім тым, што бачу, але праз гэтае «бачу» мігціць мой літаратурны Менск: Сачанкі, Савік, Хомчанка, Тычка, Чыгрынаў, Андраюк, Брыль, Каржанеўская, Я ўжо не на возеры Штанбэрг, я ў нейкім іншым вымярэньні—плыву. Думкі лёгкія, ня творчыя і мне зь імі добра, такімі.

* Ня думаў, што мая знаёмая, Анналіза, такая рашучая, адважная, хуткая, войстрая, гатовая загаварыць зь кім хочаш. У мяне нават варухнулася няпрыязьнь да яе. Зрэшты, яна грае. Гэтай ігрою-гульнёю засланяе сябе, сапраўдную. У яе, жанчыны, ёсьць і нешта —кінулася толькі цяпер —ад мужчынскага характару. Ды я магу і памыляцца. Я невялікі знаўца жанчын: маё захапленьне імі пазбаўляе мяне такой здольнасьці.

* Цяпер ужо пэўна: у Іспанію не палячу. Баюся туды ляцець: ня веру самалёту.

* Перад ад'ездам пайшоў на канцэрт, у Геркулесзал. У праграме: Давід, Бетховен, Моцарт, Вагнер. Магічнае ўзьдзеяньне музыкі. Пад уплывам яе перастаю быць ранейшым. На перапынку чытаю ў праграме, што сказаў пра сябе Бетховен: «Я выношваю свае думкі доўга, часам вельмі доўга перад тым, як іх запісаць.Абраная мной тэма не пакідае мяне —часамі застаецца праз годы. Перад маімі вачыма паўстаюць вобразы ,я іх бачу, чую ,гатовы схапіць іх рукамі, яны плывуць, як ліцьцё, і мне застаецца іх толькі запісаць. У паэта гэта перадаецца ў слове, у мяне — у гуку, тоне. Запытаецеся, адкуль я бяру свае ідэі? З пэўнасьцяй не магу адказаць. Яны прыходзяць непаклікаdebugныя. Яны ўзьнікаюць у мяне падчас прагулкі, у ночнай цішы, раніцою, у лесе, у прыродзе, ператвараюцца ў гукі, тыя гукі, тоны зьвіняць, бунтуюцца,гамоняць, аж пакуль не застыгнуць у нотах.»

* Чытаю далей у праграме пра Моцарта: «Ці ня мусяць змоўкнуць усякія прамовы, усякія словы перад музыкай, перад узьнёслым тонам, перад тым *Нешта*, што цябе заварожвае, маніць, забірае ўсяго. У гэтым *Нешта* няма нічога выразнага, нічога такога, што можа было-б вытлумачыць рацыянальна і дзіву даесься адкуль яно ўзьнікае, адкуль гэты чар музыкі Моцарта, што вось ужо 200 год зачароўвае нас. Здаецца, што зыйшоў сам Бог Апалон. Тут чысьціня, узьнёсласьць духу, тут пераадоленьне сілы цяжару. Тут нічога няма рэвалюцыйнага: усё грубае адчужана, зьнята лёгкай рукой. Чыя тут перамога? Сьмерці над жыцьцём? Жыцьця над сьмерцяй? Гэта антычны трыумф прыгажосьці над недастатковасьцю, у выніку чаго недасягальнае робіцца дасягальным, дасканалае ўзвышаецца на апалонавых крылах. Мы ў палоне найбольш чалавечага, найбольш гуманнага».

* Хацеў наведаць іншыя канцэрты— гэта мая жарсьць—але ў мяне не хапае ўжо часу: мне трэба вяртацца дахаты. Дні мае ў Мюнхене абрываюцца. Я не пасьпеў ужыццца ў знаёмае мне мінулае. Не пасьпеў зьведаць нязьведанае. Вунь далёка на даляглядзе ўзвышаюцца перада мною — я бачу іх з трынаццатага паверху — магутныя горы, дзе-нідзе яшчэ засьнежаныя.Яны клічуць мяне вярнуцца да іх. Вяршынямі, здаецца, ківаюць мне, дрыготкія ў сонечным бляску. Гэта быў-бы час маіх вандровак у горах, майго роздуму і ўзвышэньня. Але ў мяне няма ўжо часу. Змоўкнуць для мяне званы касьцёлаў у Мюнхене. Ня ўчую музыкі арганаў. На пляцы Марыі з далоні ня буду карміць галубоў.

***Шкада.***

**1992 г.**

# Хацелі з нас зрабіць «палякаў» праваслаўных

Язэп Сажыч

Пасьля заканчэньня сямігадовай паўшэхнай школы ў Наваградку ў 1932 г., думаў я, што на гэтым і закончыцца мая аьсвета, бо грошаў на далейшыя студыі ня было. Гаспадарка пасьля сьмерці бацькі заняпала. Мне было 15 гадоў і фізычна я яшчэ ня быў моцны, але абавязак вымагаў выконваць усе сельскагаспадарчыя працы. Памятаю ў 1933 г. касіў сенажаць каля дому і вельмі стаміўся. Нечакана пачуў незнаёмы голас: «Памажы Божа». Азірнуўся і ўбачыў пана войта Сокала з гарадчанскай гміны. Я не ведаў, што сказаць пану войту. Той быў мясцвага паходжаньня, гаварыў нашай мовай, але яго ўрадавае становішча змушала адносіцца да яго з пашанай. Ён, бачучы маю разгубленасьць, лагодна прамовіў: «Зацяжкая, сынку, табе гэтая работа. Чуў я, што ты здольны хлопец да навукі, таму трэба далей вучыцца, а не займацца гаспадарчай працай». Я падбадзёрыўся й адказаў: «За навуку ў гімназіі трэба плаціць, а маці ўдава, грошаў не мае». Пан войт бліжэй падыйшоў да мяне, паклаў руку на маё плячо і сказаў: «Ведаю, што ты сірата, але нам людзі як ты патрэбныя, і я памагу табе. Пойдзеш вучыцца ў Наваградзкую Беларускую гімназію. Дырэктар гэтае гімназіі Ян Ціханоўскі мой добры прыяцель. Таксама й іншыя знаёмыя настаўнікі, як доктар Аляксандр Орса, памогуць табе. Трэба, каб моладзь вучылася. Што да грошаў, то не турбуйся, калі будзеш добра вучыцца толькі 30 % заплаціш, а можа і зусім звольняць ад аплаты студыяў. Гэта ўжо ад цябе залежыць, як будзеш вучыуцца і паводзіць сябе». Войт, сядаючы ў брычку сказаў: «Заўтра прыходзь у гміну, у маю канцылярыю, калі хочаш вучыцца».

Я расказаў маці пра візыту пана войта і ягоную прапанову. Ледзь дачакаўся наступнай раніцы. З хваляваньнем пастукаў ў дзьверы канцыляры войта. Пан Сокал ветліва прывітаў мяне і запрапанаваў крэсла. Я сеў, войт выняў з канвэрта паперы і прачытаў мне. Гэта былі пасьведка майго матэрыяльнага становішча і ліст да дырэктара гімназіі. Перадаючы мне паперы, ён перахрысьціў мяне чамусьці левай рукой і, пазіраючы ў вочы, паволі сказаў: «Ідзі, сынок, вучыся добра і запамятай, каб не ўлазіў туды, дзе ня трэба вучню лезьці».

Ягоныя словы сталі мне зразумелымі пазьней. Ён меў на думцы палітычныя плыні і гурткі. Дзякуючы войту Сокалу, я паступіў у 4 клясу беларускае гімназіі, якая тады лічылася філіяй польскага дзяржаўнае гімназіі імя А.Міцкевіча ў Наваградку.

У чацьвёртай клясе спаткаўся з вучнямі зь якімі лёс прысудзіў і да сёньня быць ся брамі: Барысам Рагуляй, Янка Гутарам, Барысам Сладкоўскім, Уладзімірам Набагезам. Варта адзначыць, што У.Набагезу войт Сокал таксама дапамог паступіць у беларускую гімназію. Усе мы закончылі чацьвёртую клясу зь вельмі добрымі адзнакамі ў 1934 г. Але нажаль, дзейнасьць Наваградзкае Беларускае гімназіі палякамі была спынена. Аднак за намі было пакінута права перайсьці у пятую клясу польскае гімназіі. Мы гэтую польскую «прывілегію» скарысталі, бо закаштоўным нам было ехаць ў Віленскую Беларускую гімназію. Паступаючы ў польскую гімназіі, мы нацыянальна

былі сьвядомыя, і нам было крыўдна, што нам не дазваляюць вучыцца на роднай мове. У польскай гімназіі да нас далучыліся некалькі беларусоў, якія вучыліся ў гэтай гімназіі ад 1 клясы. Сярод іх быў і Усевалод Родзька, які вылучаўся сваімі здольнасьцямі. Нашым лідарам быў Барыс Рагуля, дзядзька якога Васіль Рагуля быў сэнатарам.

Каля 1936 г. палякі пачалі казаць нам, што мы «палякі праваслаўныя». Раздалі аднаго дня нам брашуркі, у якіх тлумачылі, што шмат праваслаўных было польскімі патрыётамі і называлі Кастуся Каліноўскага, Валаховіча, вядомага наваградзкага адваката Алексюка ды іншых. У дзень незалежнасьці атрымалі загад ісьці ў царкву на малебен, сьпяваць «Божэ цось Польскэ». Аднаго дня нам сказалі, што праваслаўная рэлігія ў гімназіі будзе выкладацца на поль скай мове. Айца Мікалая Гарбацэвіча падмянілі маладым сьвятаром украінскага паходжаньня айцом Скрыпнікам, які закончыў Варшаўскую духоўную акадэмію. Быў ён інтэлігентнай і ветлівай асобай. Прыйшоўшы ў наш кляс па-польску абвесьціў, што пэрыядычна будзем мець інспэкцыю, ці згодна інструкцыяў вядуцца выклады закону Божага, чаго раней не было.

Барыс Рагуля ў той-жа дзень пайшоў да дзядзькі сэнатара на кансультацыю з пытаньнем, як нам захоўвацца, як зарэгаваць?. Сэнатар Васіль Рагуля парадзіў: «Добра, што вас перасталі вучыць закону Божага па-расейску, але адказвайце на пытаньне па-беларуску. Забараніць вам ў гэтым школьныя ўлады ня могуць». Барыс Рагуля паведаміў нас і дамовіліся мы, каб ніхто ў часе інспэкцыі і ня піскнуў па-польску, каб на пытаньні адказвалі вулычна па-беларуску. На інспэкцыю не прыйшлося доўга чакаць. Прыйшоў дырэктар гімназіі Рыбіцкі, наш клясны выхаваўца і прадстаўнік з кураторыі. Айцец Скрыпнік запытаў па-польску: «Хто адкажа, што было пастаноўлена на Трэцім Усяленскім саборы». Барыс Рагуля падняўся і па-беларуску пачаў адказываць. Дырэктар яго прыпыніў, зьвяртаючыся да нас з пытаньнямі, на якія мы адказвалі вылучна па-беларуску. Інспэктары, зачыраванелыя ад злосьці, вышлі з хаты нам стала весялей на душы. Наш настаўнік а.Скрыпнік пахваіў нас, што мы падрыхтаваліся і добра вывучылі гісторыю царквы і закон Божы. Мы зразумелі, што ён не за гэта хваліў нас, а за тое, што мы дамовіліся і бадзёра адказвалі на пытаньні па-беларуску.

Неўзабаве паклікалі некаторых вучняў у канцылярыю да дырэктара, менавіта тых, хто ад першага клясу вучыўся ў польскай гімназіі. Паклікалі й нашага лідэра Барыса Рагулю. Яму прыгразілі, што выключаць зь гімназіі, бо ён «непажаданы элемент». Барыс быў выдатнікам, паводзіў сябе добра, адно, што не хацеў успрыняць тэрміну «паляк праваслаўны». Мы зразумелі, што нам трэба бараніць Барыса, бо выкінуць яго, пачнецца націск на іншых. Нашая нацыянальная сьвядомасьць пачала праяўляцца, мы маладыя, пачалі ўсьведамляць сабе, што становімся змагарамі за сваю мову, якая стала нам дарагой і мілай. Айцец Скрыпнік пачаў з большай пашанай адносіцца да нас, хаця ён да нас гаварыў па-польску, мы адказвалі па-беларуску. Паміж намі была гармонія і разуменьне адзін аднаго. Справа набрала разгаласу. Дапамог бацькоўскі камітэт, у якім быў вельмі паважаны дэнтыст Левін, па паходжаньні гэбрэй. Той сумеў пераканаць бальшыню бацькоўскага камітэту, што выкідаць выдатніка Барыса Рагулю вельмі непрыгожа. Так паступова справа Б.Рагулі прыціхла і нас пакінулі па-за ўвагай.

Гімназыяльная навука падыходзіла да канца і кожны з нас пачаў рабіць пляны.

якую прафэсыю выбраць, калі лёс дазволіць паступіць на ўнівэрсытэцкія студыі. Мы разумелі, што нам праваслаўным беларусам ня будзе лёгка атрымаць працу ў урадавых установах. Аднойчы спаткаўся з дэнтыстам Левіным, і падчас нашае гутаркі ён пачаў мне радзіць пайсьці вучыцца на тэалёгію ў Варшаву. Я запытаў яго, чаму такая парада. Ён, памаўчаўшы, адказаў: «Беларусам патрэбнае нацыянальна сьвядомае духавенства. Вы добра баранілі сваю мову, а ў царкве праз пропаведзі многае можна зрабіць». Падобную параду даваў мне й іншым з нашае групы а.Скрыпнік. Ён нават абяцаў, што мае ў духоўнай акадэміі ў Варшаве добрыя знаёмствы і паможа дас-таць стыпэндыю. Мне-ж імпанавала войска, і я марыў быць афіцэрам.

У 1938 г. выйшаў загад з польскага міністэрства абароны, што ўсе матурысты павінны зьявіцца ў вайсковую пабаровую камісію , каб служыць ў падхаранжоўках. Польскі урад быў занепакоены, што можа выбухнуць вайна зь немцамі і заплянаваў пабольшыць афіцэрскія кадры.

На камісіі нас пачалі пераконваць, каб у анкетах, якія трэба выпаўняць пісалі «палякі праваслаўныя», ад чаго мы адмаўляліся. Нас усіх беларусаў матурыстаў прызналі здольнымі да вайсковай службы, за выняткам Янкі Гутара. Паклікалі нас у войска, і мы трапілі ў школу падхаронжых.

Калі я пасьля некалькі месяцаў атрымаў парадзённы водпуск адведаць маці, я сустрэўся з панам Мячаславам Кухарскім і ён асьведчыў, што, будучы сябрам пабаровае камісіі, пераканаў іншых яе сяброў, што быць нацыянальна сьведамым беларусам не азначае прыналежнасьць да камсамолу, і нацыяналістычная моладзь можа быць добрымі афіцэрамі. Сам ён быў пазнанякам, заядлым пілсудчыкам, служыў у легіёнах і, будучы старшынёй «Звёнзку», польскіх асаднікаў быў управовай асобай у ваяводзтве. Але ён быў жанаты на пляменьніцы біскупа Абрантовіча і ставіўся да беларускага пытаньня часамі прыхільна, як гэта было з намі на пабаронай камісіі, калі мы не згадзіліся запісацца ў анкеце «палякамі праваслаўнымі», а запісаліся як беларусы.



На здымку: матурысты, праваслаўныя беларусы наваградзкай гімназіі А. Міцкевіча, май 1938 г.
Сядзяць зьлева направа: Барыс Рагуля, Валя Тупічанка ,а Скрыпнік, Галіна Цішэўская, Язэп Сажыч.
Стаяць зьлева направа: Усевалад Родзька, Ірэна Гоцко, Янка Гутар, Натальля Мацееўская, Уладзімір Набагез

# Як сёньня робяць з нас палякаў

Успаміны др. Язэпа Сажыча — гэта ня толькі аповяд аб мінуўшым дні. Нажаль, працэс апалячваньня беларускага насельніцтва працягваецца. Больш таго, ён пашыраецца. І сёньня прыходзіцца гаварыць аб палянізацыі ня толькі праваслаўных, або каталікоў, а ўжо цэлай нацыі. Аб гэтых жахлівых фактах сёняшняй гісторыі сьведчаць інфармацыі, атрыманыя нядаўна часопісам «Полацак»

## У Беласточчыне

Калі пачалася будова праваслаўнае царквы сьв.Духа ў Беластоку ягонае духавенства зьвярнулася да беларусаў эміграцыі з просьбаю дапамагачы ім пабудаваць царкву. Паплылі ў Беласток тысячы і тысячы даляраў ад беларускіх эмігрантаў.

Сёньня, дзячуючы тым ахвярам беларусаў, адбываюцца ў Сьвятадухаўскай царкве Богаслужэньні. Аднак казаньні (пропаведзі) кажуцца толькі па-расейску і па-польску. Паводля атрыманых вестак, маюць намер чытаць Апостала й Евангельле таксама па-польску.

Праўдападобна, у наступным годзе Богаслужэньне наогул будзе адбывацца ў польскай мове. Бо ў казаньнях сьвятадухаўскае духавенства пачало карыстацца папулярным і вядомым з даўніх часоў тэрмінам: «My prawoslawni polacy».

Так за нашыя эміграцкія грошы збудавалі ў Беластоку царкву для праваслаўных палякаў.



## У Беларусі

Беларускае згуртаньне вайскоўцаў зьвярнулася да Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча і прэм'ера-міністра Вячаслва Кебіча з заяваю, у якой прыватнасьці гаворыцца: «Над Беларусьсю над яе стабільнасцью і незалежнасцью навісае чарговая пагроза. На гэты раз— з-за заходняй мяжы. Польскі каталіцкі касьцёл узначаліў чарговы паход на «крэсы». Цэлымі групамі пранікаюць у Беларусь польскія місіянеры. Сёньня яны маюць выгляд сьвятароў, «мнішак» і едуць як бы са Словам Божым. На самой-жа справе імі вядзецца нічым непрыкрытая прапаганда на карысьць суседняй краіны — Польшчы. У касьцёлах вывешваюцца польскія сьцягі, партрэты польскіх дзяржаўных дзеячаў. З амбона, у нядзельных школах, у гуртках мастацкай самадзейнасьці ідзе безупынная прапольская прапаганда, пераконваюць людзей у тым, што яны не беларусы, а значна больш высокая і культурная раса, што яны палякі. На тэрыторыі незалежнай Беларусі фарміруецца 5-я калона Польшчы, рыхтуецца раскол нацыі, свой, памерам з палову Беларусі, Карабах. Падрываецца аўтарытэт Беларусі ў сьвеце. Менавіта прапольскае лобі ў Ватыкане дасягнула таго, што Беларусь — адзіная з краін СНД, ня прызнаная Ватыканам. Такое стаўленьне да беларусаў і іх дзяржавы выглядае рэзкім дысанансам у параўнаньні з добрасуседзкімі адносінамі да нас брацкіх рускага і ўкраінскага народаў і лаяльнасьцю да дзяржавы Праваслаўнай Царквы. БЗВ не можа мірыцца з тым, што на яго вачах ствараюцца ўмовы для канфліктнай сітуацыі, гаму Беларускае згуртаваньне васкоўцаў і заклікае да прыняцьця неадкладных мер».

# Віленскія беларусы расказваюць...



Сьвятлана Белая

*«...Калі таварыства імені Скарыны закладзецца, я ахвотна запішуся ў члены. Узяўся-б і напісаць жыцьцёапісаньне Скарыны, калі-б таварыства даручыла мне гэта.»*

Так пісаў Максім Багдановіч у кастрычніку 1913 г. да братоў Луцкевічаў у «Нашу Ніву», акрылёны ідэяй стварэньня новай беларускай арганізацыі Але ягоная мара так і не спраўдзілася. Першая сусьветная вайна зламала ўсе пляны арганізатараў таварыства й аддаліла час яго стварэньня.

Беларускае Навуковае Таварыства паўстала 25 студзеня 1918 г., калі ужо не было ў жывых ні Максіма Багдановіча, ні Цёткі, якія зьвязвалі з таварыствам вялікія спадзяваньні. Цяжка хворым быў і яго галоўны ініціятар, Іван Луцкевіч. Але не зважаючы на ўсе неспрыяльныя акалічнасьці, таварыства адразу распачало працу па падрыхтоўцы падручнікаў беларускай граматыкі й правапісу.

Мабыць, адно з першых крупных мерапрыемстваў гэтай беларускай інстытуцыі стала сьвяткаваньне угодкаў Скарыны..

У залі Віленскай Беларускай гімназіі адбылася канфэрэнцыя, на якой чыталі даклады, прысьвечаныя выдатнаму Палачаніну старшыня Беларускага Навуковага Таварыства Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч і іншыя выдатныя дзеячы беларускай культуры. Таварыства сьвяткавала 400-лецьце беларускага друку, 400-лецьце Беларускай друкарні Ф.Скарыны. Яно працягвала займацца скарыназнаўствам і ў тыя часы, калі ў савецкай Беларусі пачалася траўля на Скарыну, названага зь лёгкай партыйнай рукі В.Кнорына «сярэднявяковым манахам» і спыніла сваю дзейнасьць толькі тады, калі ў Вільні былі забароненыя амаль усе беларускія арганізацыі.

—Памятаю, калі я ўжо скончыў гімназію, —расказваў у час нашых гутарак др. В.Тумаш,—я часта прыходзіў на зборкі, якія праводзіліся ў таварыстве. Адбываліся яны пры Беларускім музэі імя Івана Луцкевіча. Звычайна паседжаньні праходзілі пры невялікай колькасьці нацыянальна настроеных беларусаў, але вельмі бурна. Пасьля рэфэрату адбывалася яго абмеркаваньне, часамі яно працягвалася на нас-

тупных зборках. Чамусьці мне запомнілася паседжаньне, на якім выступаў прафэсар з Украіны Тэофіль. Ён вынес на абмеркаваньне тэорыю аб балцкім субстракце, за якую пазьней ухапіўся др.Янка Станкевіч, прысьвяціўшы гэтай тэме не адну працу. Таксама займаўся балцкім субстрактам Мікалай Шкялёнак. Ён нават напісаў невялічкую брашуру. Пасьля гэтая тэма шырока разглядалася ў 50-х гадах ў газэце «Бацькаўшчына» і выклікала вялікую палеміку. Многія рэфэраты, што чыталіся на зборках, увайшлі ў спэцыяльныя Гадавікі Беларускага Навуковага Таварыства, якія пазьней называліся «Запісамі».

Можна сказаць, што Беларускае Навуковае Таварыства выхавала цэлую плеяду навукоўцаў, якія потым працягвалі працу на эміграцыі, у прыватнасьці у Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва.

Ня ведаю, праўда гэта ці не, але, кажуць, што ва Францыі толькі адзін чалавек ня можа стварыць грамадзкай арганізацыі. Каб афіцыяльныя ўлады прызналі новую інстытуцыю патрабаюцца подпісы двух асобаў. У ЗША з гэтым цяжэй. Для арганізаваньня Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва па ньюёркскаму закону патрабавалася 5 закладчыкаў, зь якіх дваіх мусілі быць амэрыканскімі грамадзянамі. Сярод тых пяці, хто ствараў Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва быў і др. Тумаш.

Сталася гэтае 50 гадоў назад. 16 сьнежня 1951 г. у Нью Ёрку адбылася арганізацыйная сходка беларускіх літаратараў і навукоўцаў Пасьля доўгай дыскусіі вырашылі, што арганізацыя будзе абыймаць ня толькі навукоўцаў, але і працаўнікоў мастацтва, літаратуры. Тады-ж быў дадзены і назоў— Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва.

У першы склад рады або, як казалі яшчэ тады, часовага ўраду БІНіМ ўвайшлі: уладыка Васіль (Тамашчык)—старшыня, праф. Л.Акіншэвіч—віцэ-старшыня, В.Тумаш—першы сакратар, Н.Арсеньнева—другі сакратар, М.Дарашэвіч—скарбнік. Вось па сутнасьці і ўсё, што я знайшла у першым нумары «Запісаў» (1952) аб гісторыі ставарэньня БІНіМ.

Доктар Тумаш таксама ня быў шматслоўны. Мы сядзелі ў ягоным пакойчыку, дзе акрамя ложка ёсьць некалькі палічак з кніжкамі, як я зразумела, з найбольш блізкімі для доктара, якія заўсёды ў яго пад рукой. Роўным радком стаяць выданьні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва: *«Запісы», «Конадні», «Абежнік» БІНіМ (1953-1969), вялікая кніга выбаранай паэзіі Янкі Купалы «Спадчына» (1955 г, 564 б.), у якім надрукавана колькідзесят твораў Купалы, якія дзеля партыйнае цэнзуры ніяк ня здолелі надрукаваць ў падсавецкай Беларусі, зборнік вершаў Алеся Гаруна «Матчын дар» (1962, 262 б.), зборнік выбранай паэзіі Максіма Багдановіча «Вянок», праца С.Станкевіча «Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў» (1967, 70 б.), гістарычнага зьместу кніжка Паўлы Урбана «У сьвятле гістарычных фактаў» (1972, 130 б.), з галіны дэмаграфіі праца Андрэя Багровіча «Жыхарства Беларускае ССР у сьвятле перапісу 1959 году» (1962, 88 б.), асобныя выданьні-адбіткі скарыназнаўчых працаў Сымона Брагі й іншыя выданьні БІНіМ.*

Доктар узначальваў Інстытут да 1981 амаль 30 гадоў. І, як мне здавалася, ён мог гаварыць аб ім бясконца. Але ён дастаў з паліцы 15 нумар «Запісаў» з сваім артыкулам «Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Рэфэраты, навуковыя канфэрэнцыі, выстаўкі гадоў 1951-1976, ладжаныя БІНіМ», напісаны ў сувязі 25-годзьдзя яго арганізацыі.

—Тут Вы зможаце знайсьці адказы на многія Вашыя пытаньні, — сказаў В.Тумаш. — І ўсё-ж пазьней, мабыць прыгадаўшы нейкія дэталі, пачаў расказваць аб тым, што не ўвайшло ў той артыкул.

—У пачатку 50 гадоў на эміграцыі апынулася багата беларускай інтэлігенцыі. Гэта былі навукоўцы, літаратары, мастакі, музыканты, якім удалося ўцалець у гады сталінскай чысткі беларускай культуры. Людзі былі поўныя жаданьня працаваць, Таму неабходнасьць стварэньня навуковага таварыства, якое пазьней назвалі Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, паўстала вельмі востра.

Інстытуту пашчасьціла, бо ў Ньюёркскай публічнай бібліятэцы ёсьць вельмі добры аддзел беларускай літаратуры. Так што база Інстытуту была ўжо падрыхтаваная. Гэты вельмі важны фактар, які нельга абыйсьці, бо калі-б пад рукою не было тых крыніцаў, на якія пастаянна прыходзіцца абапірацца дасьледчыку, што-ж казаць аб нейкай навуковай вартасьці працаў Інстытута. Пэўна, што на эміграцыі захавалася беларуская літаратура, асабліва тая, што выдавалася ў даваенны час у Вільні. Але калі казаць пра пра славянскі аддзел ньюёркскай бібліятэкі, то там мы знойдзем, напрыклад, збор працаў Віленскай археографічнай камісіі, без якіх немажліва ніводная грунтоўная праца па гісторыі Беларусі.

Першыя сборкі сяброў Інстытуту, якія спачатку адбываліся прыблізна раз на два месяцы, былі пераважна паэтычныя, бо паэтаў на эміграцыі апынулася нямала. Памятаю паседжаньне з нагоды 30-годзьдзя літаратурнае дзейнасьці Натальлі Арсеньневай, вечары паэзіі Рыгора Крушыны, Масея Сяднёва, абмеркаваньні новых твораў Янкі Юхнаўца, Міхася Кавыля, В.Бірылы, іншых паэтаў і празаікаў. Таксама чыталіся навуковыя рэфэраты. Так узьнікла патрэба ў выданьні навуковага зборніка. Як і Гадавікі БНТ у Вільні вырашылі назваць іх «Запісамі».

Спачатку думалі выдаваць кваратальнікі, але, нажаль, матэрыяльныя сродкі не дазволілі. У 1952-1954 гады выдавалі па два нумары «Запісаў» на год, пасьля па аднаму нумару, але большага аб'ёму. 3 прычынаў матэрыяльных 5 нумароў «Запісоў» з 1962 па 1970 гг. выдаваліся ў Мюнхене, бо нейкі час друкарскія выдаткі там былі меньшыя. Але цэны і ў Нямеччыне расьлі хутка, таму вырашылі выдавецтва зноў перанесьці ў Амэрыку. Ад 1974 году «Запісы» друкуюцца ў Нью Ёрку. Да 40-годзьдя БІНіМ, якое адзначалі ў 1981 годзе выйшла 16 кніжак, да 50-годзьдзя яшчэ 3 нумары Усяго 19 нумароў «Запісаў».

—Пэўна, што не ўсе яны маюць аднолькавую навуковую вартасьць, — працягваў В.Тумаш, гартаючы № 5, Скарынаўскі нумар «Запісаў», у якім паводля яго словаў, ўсе матэрыялы аб Скарыне сабраныя як-бы ў адзін кулак. — Але вось нядаўна зноў праглядзеў кароткі нарыс кампазытара Куліковіча «Беларуская музыка» і проста зьдзівіўся. Пры абмежаванай колькасьці матэрыялаў ён напісаў сурьёзную навуковую працу, якая ўпершыню паказавае гісторыю разьвіцьця беларускай музыкі.

*В. Тумаш прыводзіў новыя і новыя факты зь дзейнасьці Інстытута, расказваў пра лекцыі, якія чыталіся яго сябрамі, рэдкую картатэку Скарыніяны, мастацкія выстаўкі, якія ладзіліся БІНіМ, а мне ўяўлялася Вільня, перапоўнены пакой Беларускага музэя імя І. Луцкевіча. Ідзе паседжаньне Беларускага Навуковага Таварыства, на якім абмяркоўваецца праблема балцкага субстракту. І недзе ў падсьвядомасьці зараджаецца патрэбнасьць мець такія свабодныя дыспуты, паўсюдна і заўсёды.*

*Мне здаецца, што без тых паседжаньняў Беларускага Навуковага Таварыства, БІНіМ, створаны яго сябрамі, быў-бы іншакшым. І таму зноў ўсплываюць у памяці словы Багдановіча: «Калі таварыства імені Скарыны закладзецца, я ахвотна запішуся ў члены...» Паэт не дажыў да гэтага дня меньш году і жыцьцёапісаньне Скарыны дапісалі іншыя.*

# Віленская Беларуская гімназія



Вітаў Тумаш



Пад уплывам лекцыяў гісторыі беларускай літаратуры, я пачаў зьбіраць і запісываць творы вуснай народнай творчасьці. Трэба сказаць, што ў гімназіі была прынятая лінія М. Гарэцкага. Ягоная «Гісторыя беларускай літаратуры» пачынаецца менавіта з старажытных традыцыяў нашага народу. І толькі пасьля фальклёрнай літаратуры вучні знаёміліся з старадрукамі, скарынінскімі выданьнямі, літаратурай ХУІІІ, ХІХ стагодзьдзяў і г.д. Нашыя настаўнікі зьвярталі ўвагу на фальклёрныя зборы, і таму ў нас, гімназістаў, пэрыяд народнай творчасьці добра застаўся ў памяці. Пад уражаньнем пачутага на лекцыях, я сшыў некалькі сшыткаў, зрабіў для іх моцную аправу і стаў запісываць цікавыя словы, выразы прыказкі, пагаворкі, звычаі: калядныя, вясновыя, вялікодныя, жніўныя. Калі я пачаў зьбіраць свае запісы, стаў прыслухоўвацца да мовы, моўных выразаў і зразумеў, якое багацьце вакол мяне. Чым больш занатоўваў, тым больш хацелася працаваць.

Беларускі фальклёр я запісваў пераважна ў сваёй роднай в. Слягліцы (Свянцянскі павет, а пазьней Вілейскі), куды прыязджаў на кожныя вакацыі, а таксама, ў час вучобы, на сьвяты, калі езьдзіў адведваць бацькоў. Памятаю, вясной, у спакойны ясны дзень узыдзеш на гару і далёка-далёка чуваць, як з адной і другой вёсак песьні гучаць. Жанчыны вясной вадзілі карагоды і вясну заклікалі. На сваёй радзіме я запісаў і словы карагода-гульні «Яшчар». Я ня помню, каб у нас яго вадзілі, але аб гэтым старажытным абрадзе расказвалі мне старэйшыя жанчыны. Дзяўчаты аддавалі «яшчару» (хлапцу), які знаходзіўся ў цэнтры круга, свае вянкі або хусткі, пярсьцёнкі, а каб выкупіць вянок, дзяўчына цалавала яшчара або выконвала якое-небудзь яго пажаданьне. Пры гэтым дзяўчаты вадзілі карагод і сьпявалі: «Сядзіць, сядзіць яшчар на залаце крэсле, на дзявочым месцы...» Гэтае апісаньне ўвайшло пазьней ў зборнік «Запісы», які выдала Беларускае Навуковае Таварыства. А яшчэ нататкі з майго сшытку выкарыстаў Р.Шырма для свайго хору і песеннага зборніка.

Рыгор Шырма вёў у гімназіі хор. Гімназісты празвалі яго «Бародка». Жыў ён у царкоўнай хаце Прэчысьценскай царквы. А рэпэтыцыі хору праводзіў у гімназічнай залі. Хор быў неабавязковым прадметам у гімназіі, таму ў ім сьпявалі ня ўсе гімназісты. У рэпэртуар гімназісцкага хору ўваходзілі ў асноўным фальклёрныя творы, сабраныя Шырмам і некаторымі вучнямі падчас вакацыяў.

У гэты час дырэктарам гімназіі быў С. Паўловіч. Гэта быў невялікага росту, акуратны, добры чалавек, якога гімназісты за невялікую лысінку на самай макушцы празвалі «Дзірачка». Паўловіч быў вельмі асьцярожнай асобай. Баяўся, каб чаго-небудзь ня выйшла і ня выклікала незадавальненьне польскіх уладаў. Выкладаў ён рэлігію (Стары і Новы запавет, гісторыю рэлігіі) для праваслаўных навучэнцаў малодшых клясаў.

У 1936 годзе ў Беларускай друкарне імя Фр. Скарыны выйшлі ягоныя кніжкі для дзяцей беларусаў, лямантар «Першыя зярняткі. Беларуская граматыка для хатняга навучаньня» і «Zasieuki,

Bielaruski lemantar dla chatniaha navucannia, Wyd. Bielpres." Лямантар быў друкаваны лацінкай, але былі ў ім прыклады, пададзеныя кірыліцай. Па гэтым кніжкам дзеці маглі навучыцца кірылічнай грамаце. Перад самай вайной польскія ўлады выдалі чытанку для дзяцей беларусаў. У яе стварэньні прынялі удзел Шырма, Ільляшэвіч, Ст.Станкевіч і інш. Палякам трэба было даказаць, што ў Польшчы зь беларусамі й беларускім навучаньнем няма ніякіх праблемаў, таму яны і расшчэдрыліся на выданьне. Але гэта была звычайная паказуха.

На самой справе, праблема з беларускім школьніцтвам стаяла вельмі востра, нават для адзінай у Вільні беларускай гімназіі не хапала беларускіх падручнікаў. Кнігі для матэматыкі, фізыкі й іншых прадметаў у польскай і расейскай мовах можна было набыць у кнігарне Завацкага. Таксама там можна было абмяняць мінулагоднія падручнікі на падручнікі для наступнага году навучаньня. (Завацкі прымаў старыя кнігі, даваў нейкія грошы, і вучні маглі набыць за іх падручнікі на новы год.) У гэтай-жа кнігарні пакупнікі маглі набыць і расейскія выданьні. Зь беларускімі-ж кнігамі былі складанасьці. Як толькі яны выходзілі ў сьвет, адразу раскупляліся. Таму гімназісты мусілі старанна весьці канспекты запісаў лекцыяў выкладчыкаў.

Рэлігію ў старэйшых клясах для гімназістаў-каталікоў выкладаў Адам Станкевіч. Гэта была вельмі паважаная асоба, ня толькі ў гімназіі, але, наогул сярод усіх беларусаў Вільні. Кс. Адам Станкевіч быў беларускім паслом у польскім сойме, правадыром Беларускай Хрысьціянскай Дэмакрацыі, ведамым публіцыстам і беларускім дзеячом. Ён паходзіў з Ашмяншчыны. У рэдкі вольны час ён ехаў на сваю радзіму, каб наведаць сваіх сваякоў. (Бацька ягоны быў забіты невядомымі асобамі ноччу каля сваёй хаты). Расказвалі, што любімым заняткам ксёндза Адама ў роднай хаце было шчапаньне дроваў.

Выкладаў Станкевіч на вельмі прыгожай беларускай мове, што выдзяляла яго ад многіх настаўнікаў, якія выкладалі ў гімназіі. У той час, калі ў лекцыях другіх настаўнікаў траплялiся русізмы, палянізмы, «калькі» зь іншых моваў, то ягоная мова вызначалася асобай літаратурнасьцю, характэрнай для нашаніўцаў. Лекцыі кс.Адама былі ня толькі пераказам Божых кніжах, а хутчэй размовамі аб духоўнасьці і нацыянальнай сьвядомасьці.

Маляваньне ў гімназіі выкладаў Язэп Драздовіч, але, нажаль, нядоўга, усяго два месяцы. Пасьля яго ў маім клясе асновам маляваньня вучыла сп-я Сасноўская (сваячніца мужа Надзі Кудасавай).

Лекцыі нашага выдатнага мастака запомніліся ня толькі тым, што ён навучыў як трэба маляваць прадметы на адлегласьці, каб стварыць адчуваньне пэрспэктывы, падкрэсьліць лінію небасхіла і г.д Драздовіч быў цікавым чалавекам. У яго была свая, вельмі арыгінальная канцэпцыя аб сусьвеце. Ён, напрыклад, верыў, што на Вэнеры, Месяцы, Марсе й іншых плянэтах жывуць людзі. Драздовіч нават выдаў невялічкую брашурку з уласнай тэорыяй.

Гэты сьветапогляд адлюстраваўся ў ягоных творах, якіх было багата ў Беларускім музэі імя Луцкевіча. Мажліва, Драздовіч зьберагаў там усе свае творы, бо іншага месца, дзе іх можна было захоўваць, проста не існавала. Творы трымаліся ў альбомах, віселі на сьценах, а то і проста, ляжалі без рамак недзе збоку. Відаць, у мастака не было надзеі, што хто небудзь купіць іх. Яго працы лічыліся

вельмі мадэрнымі ў параўнаньні з творамі іншых мастакоў. Багата незразумелага, нязвыклага было ў іх для тагачаснага гледача. Фантастычныя краявіды зь жыцьця іншапланяцянаў межаваліся з краявідамі Бацькаўшчыны, замалёўкі зьбяднелых беларускіх вёсак, сельскагаспадарчых прыладаў, з яркамаляванымі дыванамі, якія былі расьпісаныя нейкімі незямной прыгажосьці кветкамі. Дыяпазон творчай фантазіі Драздовіча быў даволі шырокі. Колькі замалёвак беларускай прыроды, з жыцьця вёскі, сялянаў зрабіў ён у час сваіх падарожжаў! А колькі мастак павандраваў па Беларусі, зьбіраючы матэрыялы для сваіх твораў. У гэтым я пераканаўся, калі пабываў на Паўночным кірмашы, які праводзіўся ў Вільні, недзе ў 1927 годзе. Гэта была велізарная выстаўка-продаж прамысловых і сельскагаспадарчых тавараў, выстаўляліся там і творы мастакоў, вырабы народных майстраў. Я ўжо не памятаю дакладна, дзе экспанавалася выстаўка Драздовіча, у нейкім павільёне або проста пад адкрытым небам, але яна запомнілася. Ягоныя замалёўкі беларускіх вёсачак, выкананыя алоўкам, каляровыя арнамэнты дываноў зачароўвалі сваёй шчырасьцю, багацьцем колераў.

А яшчэ мне ўзгадваецца адзін партрэт Скарыны, які вісеў у Беларускім музэі імя Луцкевіча. Партрэт гэты моцна адрозьніваўся ад таго, што быў змешчаны ў «Гісторыі беларускай літаратуры» М. Гарэцкага, (Вільня 1920, б. 21). Быў ён датаваны 1928 годам і Скарына быў на ім занадтва мадэрнізаваны, і я-б сказаў, нейкі грубаваты, партрэт быў выкананы ў стылі прымітывізму. Гэта быў першы алейны партрэт Скарыны, які мне давялося пабачыць.

(Працяг будзе)

Ад рэдакцыі: *Сярод першых партрэтаў Скарыны ёсьць гравюра невядомага мастака, рэпрэдуктаваня ў бэрлінскім выданьні 1919 г., а таксама марка з выявай Скарыны, прысьвечаная 400-годзьдзю беларускага кнігадрукаваньня. Доўгі час лічылася, што гэтыя партрэты Скарыны належаць мастку П.Гуткоўскаму.*

*Нядаўна А.Каўко выказаў меркаваньне, што гэтыя партрэты Скарыны мог зрабіць мастак Я.Драздовіч, бо да яго 30 травеня 1915 г. зьвяртаўся сакратар газэты «Наша Ніва» і прыслаў яму паштоўку суполкі «Загляне сонца...» з выявай Скарыны.*

*Сярод першых вядомых савецкім мастацтвазнаўцам партрэтаў Скарыны ёсьць партрэт «Францыск Скарына», створаны ў 1927 г. ў Радашковічах, які адносіцца да больш раньняй творчасьці мастака. Ён зроблены ў манерах іканапісі й іканапісным матэрыялам для напісаньня партрэта паслужыла гравюра, зьмешчаная ў Бібліі Скарыны. Гэты партрэт лічыцца запевам да сюжэтнага цыклу, да якога мастак прыступіў аж у 40-я гады. У гэты цыкл уваходзяць таксама карціны «У сьвет па навуку», «Са сьвету з навукай», «У друкарні Францыска Скарыны ў Вільні ў 1525 г.», «Кніганабыўцы ў друкарні Францыска Скарыны ў Вільні».*

*Паводля апісаньня В. Тумаша, выглядае, што партрэт Ф.Скарыны, які вісеў у Беларускім музэі імя І.Луцкевіча, быў асобным творам, які, мажліва, пазьней згубіўся у запасьніках музэяў.*





# Мая няволя

Лявон Шыман



Выйшаў я ад начальніка, а каля дзьвярэй стаяць мае хлопцы, больш палавіны вучастка лягера. Мяне падхапілі на рукі і панеслі ў барак. Радасьць аб вызваленьні хацелі разьдзяліць са мной ўсе мае сябры па зьняволеньню. Яны сабралі мне 25 тысяч рублёў грошаў і зашылі іх мне ў бушлат. Мы ведалі, што вельмі часта здараліся выпадкі, калі арганізаваныя банды зь ліку аховы сустракалі такіх вызваленых у Сухабязводным і забівалі іх. Пэўна, з-за грошаў.

Усю ноч у бараку ня спалі: зьбіралі мяне ў дарогу. Кожны цалаваў мяне і даваў наказ наведаць родных. Людзі ведалі, што калі я асабіста наведаю іх сваякоў, гэта прынясе ім вялікае палягчэньне, і яны пачнуць спадзявацца на зварот сваіх сыноў і мужоў. Тэрміны ў большасьці зь іх былі па 25 гадоў. Раніцою ў 5 гадзін амаль увесь лягер выйшаў мяне праводзіць. А мае брыгаднікі несьлі мяне на руках да самай прахадной. Так я разьвітаўся з сваімі сябрамі па зьняволеньню.

Да чыгуначнай станцыі трэба было ісьці 5 км праз лес. Нас сабралася 7 чалавек. Узброіліся палкамі і павольна рушылі ў бок станцыі. Кожную хвіліну былі гатовыя даць адпор бандытам. Але, дзякуй Богу, усё абыйшлося добра. Трэба сказаць, што ўлады не імкнуліся спыніць бандытызм. І таму часта чалавек, які адбыў тэрмін зьняволеньня, гінуў за нейкую сотню рублёў.

Першы цягнік Сьвярдлоўск-Масква павінен быў прыйсьці ў 19 гадзін. На дварэ было ўжо цёмна. На станцыі заставацца на ноч было небясьпечна, бо менавіта тут бандыты даставалі сваю здабычу. За гадзіну да прыходу цягніка дзяжурны аб'явіў, што білетаў няма, ёсьць толькі мяккія, купэйныя. З грашыма я не лічыўся і з радасьцю ўзяў білет ў мяккім вагоне.

На станцыі цягнік рабіў прыпынак толькі на адну хвіліну, і я вельмі баяўся, каб хаця-б пасьпець залезьці ў вагон. Як знарок, мяккі вагон правадніца не адчыніла, і я ледзь угаварыў правадніцу з другога вагона пусьціць мяне ў цягнік. Садзіўся ўжо амаль на хаду. Калі прыйшоў у свой вагон, правадніца абвяла мяне вачыма і, разглядаючы маю вопратку, запытала, хто гэта мне даў білет ў мяккі вагон. Я адказаў, што я такі самы самы чалавек, як і ўсе, і білет у мяккім вагоне купіў за свае грошы. Папрасіў яе, каб яна паказала маё месца, бо я моцна змарыўся і хачу спаць. Яна завяла мяне ў самы канец вагона і ўказала на бакавое месца. Папярэдзіла, каб я ў вагона паводзіў сябе культурна, а то пакліча міліцыянера. Я падумаў, што і тут без лягавых не абыходзяцца. Паслаў пасьцель, скінуў боты, бушлат паклаў пад галаву, бо ў ім было зашыта 25 тысяч рублёў. Але ніяк ня мог заснуць. Пра што толькі ні думаў. Мне ня верылася, што я на волі. Здавалася, што ў тамбуры стаіць салдат унутранай аховы, і калі я буду выходзіць, зноў забярэ мяне ў лягер. Праязджаючы праз Горкі (гэта было ноччу), паглядзеў на агні чырвоных казармаў, дзе я апошні год служыў у артылерыйскім палку. Потым мяне ўсё-такі змарыў сон. Пасьля 11 гадоў зьняволеньня я ўпершыню заснуў вольным чалавекам.

У Маскву цягнік прыйшоў раніцай на Курскі вакзал. З Курскага электрычкай пераехаў на Беларускі вакзал. Адно толькі слова «Беларускі» ўжо мяне радавала.

(Заканчэньне. Пачатак у №№ 1(11)-4(14))

Яно нагадвала маё дзяцінства, родную вёску, маіх родных і блізкіх, сяброў і суседзяў. Але я тры дні хадзіў па роднаму Беларускаму і ніяк ня мог атрымаць білет да Маладэчна. На трэці дзень я вырашыў зайсьці да ваеннага камэнданта.

Камэндант, малады лейтэнант, запытаўся: «Чаго ты сюды прыйшоў? Ты-ж не ваенны». Я яму сказаў, што я не вінаваты ў тым што мая слубжа так доўга зацягнулася. А прызываўся я ў армію 14 лютага 1945 г. і да сёньняшняга дня дамоў яшчэ ня езьдзіў. Паказаў свае дакумэнты аб рэабілітацыі. Камэндант засьмяяўся: «Ну, чорт з табой, дам я табе білет», —сказаў ён і адвёў мяне ў ваенную касу, дзе мне выпісалі білет. Да адходу цягніка заставалася яшчэ дзьве гадзіны, я пасьпеў пастрыгчыся і пагаліцца, даць дамоў тэлеграму.

У вагоне пасажыры глядзелі на мяне вельмі насьцярожана. Яны адразу зразумелі, адкуль я еду. Пачалі дапытвацца, за што я туды трапіў, і які быў у мяне тэрмін зьняволеньня. Я гаварыў, што судзілі мяне за непачытаньне бацькоў, і тэрмін быў невялікі. Вызваляючыся зь лягера, я даў падпіску аб неразгалошаньні лягерных тайнаў. Людзі цікавіліся мной таму, што ў той час у засьценкі НКУС трапляла багата людзей і надта мала вярталася. Лягер—гэта такая дрыгва, якая зацягвае чалавека так, што выбрацца адтуль няма ніякай надзеі. Выходзілі з гэтага пекла вельмі рэдка. Там можна было, і на гэта схіляла само лягернае жыцьцё, цераз кожныя два тры ґады атрымаць новыя тэрміны пакараньня.

Некаторыя суседзі па купэ заводзілі размовы на розныя тэмы, але ў канечным выпадку ўсе размовы канчалася тым, які будзе мой далейшы лёс.

У Маладэчна цягнік прыйшоў вечарам На пэроне мяне сустракалі бацька і маці, брат Веня з жонкаю і чатырохгадовая сястрычка Клава. На легкавой машыне, якую ўзялі напракат у дырэктара школы, спэцыяльна, каб сустрэць мяне, мы паехалі на кватэру брата. Цэлую ноч прасядзела за сталом з нагоды майго вяртаньня. Заснулі толькі раніцай, і я праспаў цэлы дзень, бо ніхто не адважыўся мяне будзіць. А вечарам селі ў рабочы цягнік, якім я езьдзіў у Маладэчна на вучобу ячшэ ў 1939 годзе, і паехалі на радзіму, у вёску Запалякі.

У вёсцы ўжо ўсе ведалі, што я прыеду. На станцыі сабраліся радня, суседзі, амаль палова вёскі. А калі прыйшлі ў хату да бацькі, там набілася столькі народу, што людзі стаялі адзін каля аднаго.

Бацька пасадіў мяне за стол, побач села самая бліжэйшая радня. Прынёс бацька бочачку гарэлкі, наліў па чарцы тым, хто сядзеў за сталом. Нарэзалі сала і хлеба і ў дзьве кружкі маці кожнаму налівала, хто прыйшоў сустрэць мяне. Не прыйшлі толькі тыя, хто абгаварыў мяне, але іхнія жонкі прыйшлі і таксама выпілі за маё здароўе. (Пасьля я зь імі сустракаўся, яны моцна прасіліся, каб я ім прабачыў, і гаварылі, што яны, абгаворваючы мяне, ратавалі свой жывот і скуру. Калі выпілі бацькаву бочачку, суседзі пачалі прыносіць з дому сваю гарэлку і закуску. Усе пыталіся, як мне там было. Я расказваў, але толькo добрае, тое, што мне дазволілі расказваць. Хоць Сталін і памёр, але бэрыеўшчына й яжоўшчына былі ўва ўсіх у памяці. Кожны баяўся, каб ня трапіць туды, адкуль я вярнуўся.

У гэты дзень я атрымаў вельмі шмат запрашэньняў у госьці. Радня ў мяне вялікая, і было-б вялікай крыўдай, каб я каго абмінуў. Цэлы месяц я хадзіў па гасьцях. Аб'еха ўшы ўсю радню, прыехаў у Маладэчна, да брата. Брат узяў мяне да сябе і пачаў уладкоўваць на працу.

Веня працаваў на будоўлі горада электраманцёрам, але заадно выконваў абавязкі галоўнага энэргетыка будаўнічага управуленьня №1. Мяне ён уладкаваў нарміроўшчыкам у будаўнічым ўпраўленьні №2. Прабыў я там толькі адзін месяц, пасьля месяц працаваў на фабрыцы музычных інструмэнтаў.

Прыехаўшы, я пайшоў прыпісвацца ў пашпартны стол. Аднак, мяне не прыпісалі. Заставілі пайсьці ў ваенны камісарыят і стаць на ваенны ўлік. У ваенным камісарыяце адразу дасталі з сейфа маю чырвонаармейскую кніжку, выпісалі ваенны білет, указаўшы маё праходжаньне ваеннай службы. Пасьля гэтага мяне прымусілі пайсьці ў гарадзкі выканаўчы камітэт, дзе паставілі на ўлік як былога ворага народу. І гэта нягледзячы на тое, што я ім паказваў свае дакумэнты аб рэабілітацыі.

Параіўшыся з бацькамі і братам, вырашыў, што калі я па-ранейшаму пад ганеньнем, дык лепш працаваць мне рабочым. І пайшоў я разнарабочым у будаўнічую брыгаду Пятра Чыстабаева. Месяц я парабіў чорнарабочым, пакуль брыгадзір не сказаў мне: «Бяры кельму і вучыся на муляра». Работа гэта мне спадабалася й ужо на наступны месяц мне прысвоілі 3 разрад муляра. Па 3 разраду я прарабіў тры месяцы і мне прапанавалі здаваць на 4 разрад.

Пасьля здачы на 4 разрад мой брыгадзір у час працы, паклікаў мяне, дастаў з кішэні 5 рублёў на старыя грошы і сказаў: «Схадзі ў магазін і купі мне пачак «Беламору», кілаграм ліевернай каўбасы, буханку хлеба і бутэльку гарэлкі. Будзем замочваць тваю кваліфікацыю». Я доўга трымаў гэтыя грошы і ня ведаў, як мне быць далей. «Беламор» каштаваў 2 рублі 20 кап., ліверка —5 руб., бутэлька гарэлкі 28. Мала таго, брыгадзір сказаў мне, каб я прынёс яму яшчэ два рублі рэшты. Нарэшце, я зразумеў, што ён меў наўвеце. Пазычыў у адной дзяўчыны з нашай брыгады 50 рублёў, купіў усё, што загадаў брыгадзір і аддаў яму. Той спыніў працу. Паклікаў яшчэ трох муляроў з вышэйшымі разрадамі, разліў гарэлку на пяць частак. Так мы замачылі маю кваліфікацыю.

Роўна праз тры гады, калі я стаў майстрам, а мой колішні брыгадзір далей быў брыгадзірам ў мяне на вучастку, я паклікаў яго, дастаў зь кішэні 50 капеек новых грошаў і сказаў: «Вазьмі 50 кап., схадзі ў магазін, прынясі мне пачку сігарэт, смажаную курыцу, бутэльку «Сталічнай» і яшчэ дваццаць капеек рэшты». Той доўга стаяў і думаў, а пасьля ўзгадаў пра ранейшы выпадак і зрабіў тое, што рабіў калісьці я.

Нашая брыгада была самай лепшай у будаўнічым упраўленьні. Але доўга ў гэтай брыгадзе я не працаваў. За год я дайшоў да 6 разраду, і брыгадзір сказаў, што ў брыгадзе ўжо ёсьць два муляры з 6 разрадам, а трэцяму няма месца. Кіраўніцтва, ведаючы мае здольнасьці, прызначала мяне брыгадзірам у новую комплексную брыгаду.

У лістападзе я прыняў брыгаду ў колькасьці 18 чалавек і пачаў самастойна працаваць на будоўлях горада Маладэчна. Паколькі ў мяне не было сярэдняй адукацыі, у 1964 годзе я паступіў у 10 кляс вячэрняй школы рабочай моладзі. Закончыў 11 клясаў ў 1966 годзе. Атэстат сталасьці атрымаў, калі мне споўнілася сорак гадоў. Падаў дакумэнты ў Менскі палітэхнічны інстытут на факультэт прамысловага і грамадзкага будаўніцтва. Але да экзамена ў мяне не дапусьцілі як былога ворага народу.

2 лютага 1956 года я ажаніўся. Радня і аднавяскоўцы сасваталі мне малаую і вельмі прыгожую дзяўчыну Вольгу з нашай вёскі. Вянчаліся мы ў царкве, а вясельле адбывалася з усімі беларускімі абрадамі.

Першы год жылі ў цесьня. Кожны дзень я езьдзіў у горад на працу цягніком, бо атрымаць кватэру у горадзе было вельмі цяжка. Нам, будаўнікам з кожнага збудаванага і здадзенага дома выдзялялі 10% жылой плошчы. Памятаю, мы збудавалі 12-кватэрны жылы дом. Але не зусім закончылі, ён яшчэ стаяў цэлыя тры гады. У доме гэтым ужо былі сьцены, падлога, вокны і дзьверы. Не зроблены былі толькі дробныя работы і не падведзена цяпло. Зьвярнуўся я да начальства з просьбай аб дазволе пасяліцца ў адной з кватэр. Што тычылася недаробак, абяцаў зрабіць у нерабочы час. Начальства і прафсаюз далі мне згоду і гарантыйную паперу, што, калі будзе здавацца дом, кватэра застанецца за мной.

Вечарам, 21 студзеня 1957 году я выпрасіў самасвал і ў дзень свайго нараджэньня пераехаў у сваю будучую кватэру. Вокны мы завесілі посьцілкамі, паставілі стол і ложак, накрыліся вопраткай і так праспалі да раніцы. Гэта было ў суботу. Мароз у той дзень быў каля 20 градусаў. Прачнуўся я а 6 раніцы, абыйшоў усіх сваіх брыгаднікаў, папрасіў, каб яны дапамаглі дарабіць адзін пакой. Прыйшла ўся мая брыгада. За адзін дзень зашклілі вокны, наслалі драўляную падлогу, зрабілі драбіну, каб можна было лазіць на другі паверх, бо дом быў двухпавярховы, а кватэру я выбраў сабе на другім паверсе. Паставілі мы жалезную печку-буржуйку і ўжо на наступную ноч спалі ў цяпле. Пасьля паціху вечарамі ў выхадныя дні прыходзілі й з дапамогай сяброў дароблялі ўсё астатняе. У гэтай кватэры я пражыў тры гады. Тут 12 верасьня 1957 году, і нарадзіўся мой першы сын Аляксандр. Здаецца, чаго больш трэба. Жыві сабе на кватэры, зарабляй грошы і гадуй сына. Але чалавеку ўсё хочацца больш. У 1958 годзе мае сябры па працы Пятро Чыстабаеў Пятро, Казімір Занеўскі і я згаварыліся пабудаваць сабе індывідуальныя дамы з прысадзібнымі вучасткамі, каб ня жыць у шпакоўні, а мець свае хаты. У гэты час мы засвоілі ўсе будаўнічыя спэцыяльнасьці. Справа была толькі за будаўнічымі матэрыяламі і транспартам, але й гэтае палагодзілі. Удзень мы працавалі на будаўнічай пляцоўцы, а вечарамі на сваіх хатах. Бывалі дні, што спаць даводзілася па чатыры, а то і па дзьве гадзіны. За адзін год мы перайшлі жыць у свае хаты, хаця было яшчэ шмат недаробак, але за тры наступныя гады ўсё было даведзена да ладу.

У новай хаце 23 сакавіка 1961 г. ў мяне нарадзіўся другі сын Сяргей.

На працы мяне дужа паважалі, быў я пераведзены ў майстры на будаўніцтва завода металаканструкцый. Там я прарабіў 4 гады. А ў далейшым будаваў дамы, дзіцячыя сады і школы. Усяго з маім удзелам збудавана 84 аб'екты. Часта мяне ўзнагароджвалі пахвальнымі граматамі, але медалёў не давалі, бо я быў у зьняволеньні.



1957 г. Пасьля нараджэньня першага сына

Увесь гэты час ворганы дзяржаўнай бясьпекі клапатліва вялі за мной нягласны нагляд. Кругом я быў акружаны сакрэтнымі паведамляльнікамі, якія выдумлялі і страчылі на мяне паклёпніцкія даносы. Куды-б я ні прыехаў, за мной, як цень, хадзілі афіцэры КДБ. Еду я ў санаторый лячыцца, са мной едзе пэўны чалавек. Яму даюць пуцёўку, пасяляюць са мной у адну палату. Ён прыкідваецца маім сябрам і правацыруе на розныя размовы, каб чым-небудзь мяне скампраметаваць. Еду я ў Архангельск у камандзіроўку, са мной едзе ў адным купэ старшы лейтэнант КДБ. Паехаў на Каўказ будаваць у горадзе Геленджык пансіянат для Маладэчанскага завода, спадарожнік і тут за мной сочыць. Іду раніцой купацца ў моры—ззаду чалавек. Нібыта купацца, а сам, пэўна сочыць, каб хаця-б я не ўцёк у Турцыю.

Пражыў я з адным сябрам трыццаць гадоў, так, што ні ён бяз мяне, ні я без яго ніколі не выпілі чарку. Я не прыпушчаў, што ён няштатны супрацоўнік КДБ. А завербавалі яго тады, калі ён па амністыі выйшаў зь лягеру. З гэтым сябрам мы часта размаўлялі пра Сталіна, Хрушчова і Брэжнева на розныя лады. Ён аб усім гэтым пісаў у сваіх даносах на мяне. Аднойчы мы зь ім не паладзілі, і ён сказаў, што, як супрацоўнік КДБ, можа саслаць мяне на Салавецкія астравы. Сказана было гэта ў прысутнасьці суседзяў.

Мяне прасьледавалі, але ў чым вінаваты мае дзеці, якім закрылі дарогу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы? А вось на ліквідацыю Чарнобыльскай трагедыі меншага сына Сяргея мабілізавалі адразу й адправілі на шэсьць месяцаў тушыць рэактар. Там ён атрымаў апраменьваньне ў 7,5 рэнгенаў. Старэйшы сын служыў у арміі ў войсках сувязі, вучыўся на начальніка радыёстанцыі і таксама захварэў праменевай хваробай. Лечыцца, але ніякія лекі яму не дапамагаюць. Армія зь яе дзедаўшчынай давялі яго да моцнага нервовага расстройства, ён згубіў надзею на праўду, пакінуў горад, выехаў у глухую вёску Пёраходы на Смаргоршчыне, дзе жыве ў адзіноце. Гэта для мяне самае вялікае гора.

Якія цяжкасьці я ў жыцьці не сустракаў, усё пераҗыў, дажыў да пэнсыі. Толькі крыўдна, што адыходзячы на адпачынак, мне не прысвоілі нават званьне вэтэрана працы. Сказалі, што былым зьняволеным званьне не прысвойваецца.

І яшчэ аб адным парушэньні правоў чалавека хочацца расказаць.

17 чэрвеня 1988 году ў 21 гадзіну 30 хвілінаў да майго дому пад'ехала «Волга». Я ў гэты час адпачываў у пакоі, а жонка мыла посуд. З машыны выйшлі тры афіцэры ў міліцэйскай форме —капітан й два лейтэнанты. Яны, узламаўшы дзьверы, уварваліся ў дом. Жонка перагарадзіла ім дарогу, але яны адштурхнілі яе і пачалі шарыць па шкафах. Пачуўшчы шум, я выйшаў з спальні. Убачыў няпрошаных гасьцей, запытаўся, чаму яны робяць у маёй хаце вобыск, чаму яны самавольна ўварваліся ў маё жытло? Лейтэнант сказаў, што яны шукаюць самагон і самагонны апарат. (А можа яны шукалі рукапіс вось гэтага аповяду?)

Я патрабаваў у іх дазвол пракурора, спытаўся, чаму яны без панятых і прадстаўнікоў грамадзкасьці? Лейтэнант адказаў, што дазволу ў іх няма. Тады я патрабаваў, каб яны вызвалілі маё жытло, але яны нязьярталі ўвагі і працягвалі сваю справу. Калі я пачаў клікаць на дапамогу, адзін зь іх закрычаў, што прыстрэліць мяне, як сабаку. Я не спалохаўся, працягваў выганяць іх з дому. Калі выгнаў, дзьверы зачыніў на ключ. Машына доўга стаяла каля майго

дома, і лейтэнант некалькі разоў рваўся ў дзьверы, але мы з жонкай яго не пусьцілі. Ад'езджаючы, ён усунуў у дзьверы павестку, каб я назаўтра прыйшоў у міліцыю. Жонка мая моцна перахвалявалася, а ў мяне падскочыў ціск крыві. Цэлую ноч мы ня спалі, чакалі, калі яны прыедуць страляць. Назаўтра аб гэтым выпадку ведала ўся вуліца. Суседзі ў адзін голас сказалі, каб у міліцыю я не хадзіў, бо там паламаюць рабрыны, ды яшчэ пасадзяць на 15 сутак. Усе парадзілі ўсё апісаць пракурору, што я і зрабіў. Цэлы месяц ніхто мне не адказваў. Затым дзяржаўны абвінаваўца выклікаў па чарзе маю жонку, суседак. І толькі 20 ліпеня 1988 г. на маё імя прыйшоў адказ ад пракурора наступнага зьместу:

*«Ваше заявление, в котором Вы указываете, что 17.06. 1988 г. в 22 часу к Вам в дом ворвались без разрешения трое работников милиции, проверено прокуратурой.*

*В процессе проверки факт нетактичного поведения работников милиции нашел свое подтверждение, а именно, зашли без всякого на то разрешения, не представились как это положено и без представителей общественности.*

*Что касается проверки пожарной безопасности, то работникам милиции такое право разрешается.*

*Прокуратурай направлено начальнику ОВД Суману В.И. письмо с указанием о необходимости разобраться о нетактичном поведении работников и в первую очередь участкового Семченко и решения вопроса о наказании.*

*Мижрайпрокурор Н.С. Веревкин.*

24 жніўня 1988 г. я атрымаў яшчэ адну паперу:

*«На вашае заявление в прокуратуру, в которум Вы указывали о противоправном поведении работников Молодеченского ГРОВД, допольнительно сообщаю.*

*Действия участковых инскпекторов к-на милиции Круглика В.В. и л-та Семченко Н.Н. обсуждены в ОВД на служебном совещании участковых инспекторов. Оба строго предупреждены о недопущении подобных фактов в дальнейшей работе.*

*Межрайпрокурор Н.С.Веревкин.»*

Хочацца спадзявацца, што гэтым прыкрым выпадкам і закончылася мая няволя, што беларускі народ, нарэшце, будзе вольным, а ў праменьнях яснага сонца расквітнее сінявокая Рэспубліка Беларусь.



На здымку: Лявон Шыман , сын Алесь, жонка Вольга, сын Сяргей

# Лісты з Бацькаўшчыны

## Як друкаваў Францішак Скарына

Тацьцяна Рудава

Два гады назад, у час свьяткаваньня 500-годзьдзя з часу нараджэньня вялікага Францішка Скарыны, у Полацку, у памяшканьні былой брацкай школы ўрачыста адкрыўся Музэй беларускага кнігадрукаваньня. Гэты музэй па-свойму ўнікальны. Ён мае рысы гістарычнага, мастацкага і тэхнічнага музэяў і прызваны паказаць кнігу як неад'емную частку гісторыка-культурнага працэсу, як складаную зьяву, якая адначасова належыць духоўнай і матэрыяльнай сфэрам дзейнасьці чалавека.

Экспазыцыя музэя займае плошчу 750 квадратных метраў. У 15 экспазыцыйных залях зьмешчана 1400 экспанатаў, якія паказваюць разьвіцьцё пісьменства, эвалюцыю формаў і матэрыялаў кнігі; вытворчасьць паперы ў Беларусі.

Вялікую цікавасьць выклікаюць разьдзелы рукапісных кніг на беларускіх землях (XI—XIX стагодзьдзяў), а таксама экспазыцыя, прысьвечаная кнігадрукаваньню ў другой палове ХУІ—ХУІІ стст.Музэй знаёміць з навуковай імастацкай Скарыніянай. З гісторыяй тэхнікі ілюстраваньня беларускай кнігі, тыпамі друкарскай прадукцыі.

На жаль, сёньня музэй пад пагрозай закрыцьця. Прычына—патрабаваньні япіскапату перадаць будынак былой Брацкай школы ў ягонае ведзяньне. Ці змогуць нашчадкі пабачыць, як друкаваў вялікі Скарына? Гэтае пытаньне пакуль без адказу.

**Ад рэдакцыі: Часопіс «Полацак» падзяляе трывогу дырэктара Музэя беларускага кнігадрукаваньня Тацьцяны Рудавай і зьвяртаецца да Беларускага япіскапату з просьбай пакінуць будынак былой Брацкай школы за музэям.**



У Музэі беларускага кнігадрукаваньня.

# ВОБРАЗЫ БАЦЬКАЎШЧЫНЬ

## Палац у Ружанах

 Васіль Супрун 

Увагу кожнага, хто прыязджае ў Ружаны, спыняюць руіны вялікага архітэктурнага комплексу на пагорку побач з рачулкай. Гэта рэшткі былога палаца Сапегаў, помніка ХУІ—ХУііі стст.

Гісторыя гэтых збудаваньняў непадзельна зьвязана з радаслоўнай вядомага магнацкага роду Сапегаў, якія ў мінулыя стагодзьдзі ўпарта сапернічалі з Радзівіламі й Агінскімі за дзяржаўныя рытуалы, палітычны ўплыў і ўладу ў Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай. Сапегі мелі свае палацы ня толькі ў Ружанах, але й у Дзятлаве, Дзярэчыне й іншых месцах Беларусі.

Ружанскі палацавы комплеск — збудаваньне не аднаго пакаленьня майстроў й архітэктараў. Ён узводзіўся й перабудоўваўся на працягу ХУІ—ХУІІІ стст.

У гістарычнай літаратуры ёсьць весткі, што ўжо ў пачатку ХУІ ст. Сапегі мелі ў Ружанах (Ражаной) бататыя ўладаньні. Сюды ў госьці да Яна Сапегі (1450-1517) ваяводы Падляшскага, прыязджаў польскі кароль Жыгімонт Стары[1]. А ў 1617 і 1644 гадах гасьцяваў кароль Уладзіслаў ІУ, якога прымалі канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега (1557-1633) і яго сын Казімір (1609-1656).[2]

Галоўным двухпавярховы крыжападобны корпус палаца ў асноўным быў узьведзены ў ХУІ ст., хоць будаўнічыя работы працягваліся яшчэ і ў пачатку ХУІІ ст. Стараста слонімскі Леў Сапега (Ружаны належалі да Слонімскага старavства) адначасова з будаўніцтвам і добраўпарадкаваньнем палаца, вёў і шырокія работы па добраўпарадкаваньню мястэчка. У гэты час узьведзены мураваны Троіцкі касьцёл (які існуе і цяпер) і некалькі збудаваньняў на тагачасным рынку, выбрукаваны вуліцы і пад'езды да палаца, насаджаны бульвары.

Пачаткова будынак палаца меў тры вежы, якія надавалі яму выгляд замка. У цэнтры будынка разьмяшчаліся парадныя залі і вэстыбюль зь лесьвіцай на другі паверх. Кожны каралеўскі візыт прыносіў уладальнікам палаца новыя дараваныя граматы і пашыраў багацьці. У гонар і памяць аб гэтым у вялікай парадней залі ўстанаўліваліся марніровыя дошкі з адпаведнымі надпісамі. У бакавых частках гэтага корпуса разьмяшчаліся жылыя пакоі і рабочыя кабінэты, архіў і бібліятэка. Перакрыцьці над двухпавярховымі сутарэньнямі былі скляпеністыя, мураваныя, а над другім паверхам —бэлечныя драўляныя.

У 1698 г. войскамі шляхецкіх канфэдэратаў Ружаны былі разбураны і моцна пашкоджаны збудаваньні палаца.[3] Шведзкі кароль Карл ХІІ ў час Паўночнай вайны, захапіўшы Ружаны 14 красавіка 1706 г., убачыў горад разбураным і зусім апусьцелым. [4]

Ня хутка вярнуліся ў палац раскоша і бляск. Хоць рамонтныя працы былі праведзеныя ўжо ў першай палове ХУІІ ст. грунтоўную перабудову ажыцьцявіў канцлер Аляксандр Сапега ў 70-80 гг. гэтага стагодзьдзя. У выніку гэтага былі разабраны пашкоджаныя вежы, а да галоўнага параднага фасада прыбудаваны накладны порцік са спаранымі кронамі і вуглавымі пілястрамі, завершаны высокім трох-

вугольным франтонам са скульптурным афармленьнем, што надавала палацу большую велічнасьць і прыгажосьць.

Адначасова комплекс быў расшыраны новымі збудаваньнямі. Абапал параднага двара выраслі двухпавярховыя мураваныя карпусы, разьмешчаныя пэрпэндыкулярна палацу, якія залучаліся зь ім паўцыркульнымі ў пляне аркадамі. Ва ўсходнім корпусе разьмясьціўся прыдворны тэатр, у заходнім—карцінная галерэя. Уезд на парадны двор вёў цераз трохпралётную трыумфальную браму, упрыгожаную рознымі геральдычнымі картушамі з моранага дубу. Брама злучалася з двума двухпавярховымі мураванымі жылымі флігелямі. Такім чынам, утвараўся вакол двара замкнуты ланцуг збудаваньняў.

Тут-жа былі разьбіты аранжарэі і дэкаратыўныя алеі сквера. Усе гаспадарчыя й дапаможныя збудаваньні вынесены за межы ансамбля, куды вялі бакавыя брамы. На стылі архітэктурнага комплексу адбіліся рысы позьняга барока і клясыцызму. У аднаўленьні палаца прымаў удзел прыдворны архітэктар Сапегаў Ян Самэль Бекер.[5]

У гэтым вялікім аднаўленым палацы 12 верасьня 1784 г. Аляксандр Сапега прымаў апошняга польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які накіроўваўся на сейм ў Гародню. [6] З найбольш важных культурных каштоўнасьцей варта адзначыць вялікую бібліятэку, багаты рукапісны архіў і, галоўнае, вядомы тэатр пры Ружанскім палацы Сапегаў. Пісьменьнік Юльян Нямцэвіч, які па запрашэньню канцлера Аляксандра Сапегі прысутнічаў на опэрнай пастаноўцы ў гэтым тэатры, вельмі станоўча ацаніў і абсталяваньне, і дэкарацыі, і ігру акцёраў— сялянскіх дзяцей, выхаваных пры мясцовай прыдворнай школе.[7]

З 1786 году пры палацы працавалі невялікая фабрыка шаўковых паясоў, шпалераў, абрусаў з гербамі і суконная фабрыка. Апошняя праіснавала амаль да паловы XX ст.

Аднак ўжо ў канцы 80-х гадоў палац у Ружанах пачаў траціць сваё значэньне, а яго гаспадары перабраліся ў Дзярэчын. Пасьля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795), калі Ружаны і Дзярэчын адыйшлі да Расейскай імпэрыі, Сапегі ўцяклі ў Францыю, кінуўшы маёнткі і палацы. У 1810 годзе яны за 1000 рублёў прадалі палац і фабрыкі ў Ружанах нейкаму яўрэю Пінасу.

Цудоўныя будынкі архітэктурнага комплексу няўдалымі фабрыкантамі выкарыстоўваліся пад жытло і цэхавыя памяшканьні суконнай фабрыкі. Унутраная планіроўка, а часткова і фасады, увесь час зьмяняліся, гэтага вымагала вытворчасьць. Для фабрычнай каналізацыі была выкарыстана частка склепаў, а ў другой частцы сушыліся сыравіна і прадуцыя. На першым паверсе галоўнага корпуса жылі гаспадары фабрыкі, а на другім мясьціліся склады. Будынкі ніколі капітальна не рамантаваліся.

На фабрыцы Пінасаў у канцы мінулага стагодзьдзя працавала каля 200 рабочых, якія з 1903 г. вялі барацьбу за паляпшэньне умоваў працы і эканамічанга становішча.

У жніўні 1914 г. ад пажару, які пачаўся ў драўлянай прыбудоўцы, дзе быў памывачны цэх, згарэў галоўны корпус былога палаца. Але невялічкая ткацкая фабрыка існавала тут да 1944 г. і была спалена немцамі, калі яны адступалі з горада. У мураваных флігелях, прыараднай браме, да 1965 г. разьмешчаўся кафельны цэх. Затым усе будынкі гэтага архітэктурнага помніка былі закінуты і час тварыў свой рабуральны прысуд. Гэта агульны лёс усёй нашай спадчыны, культуры ў страшны гістарычны перыяд «будаўніцтва сьветлай будучыні».

## Бібляграфія

1.Balinski M., Lipinski T.Slarozytna Polska..t.III, W., 1846, s,691.

2.Lorentz Stanislaw, Wycieczki Slonimskie. Slonim, 1933. s.26-27,

3.Valinski M.,Lipnski T. Starozytna Polska... s. 692.

4.Там-жа, с. 692.

5.Чантурыя В.А. История архитектуры Белоруссии. Мн., 1969. с. 125.

6.Valinski M., Lipinski T. Starozytna Polska. s.693.

7.Барышев Г.И. Частновладельческий музыкальный театр второй половины XУIII в. Музыкальный театр Белоруссии. Дооктябрьский период. Мн., 1990. с.191.




Рэшткі былога Ружанскага палаца.

# ЗЬ ЖЫЦЬЦЯ ЭМІГРАЦЫІ

## Дзень бацькі

ўрачыста адбыўся ў царкве Жыровіцкае Божае Маці 21 ліпеня. У час сьв. Літургіі а.Міхась Страпко прачытаў малітву за ўсіх бацькоў і сказаў прыгожую пропаведзь. Зьвяртаючыся да прыхажанаў парафіі Жыровіцкае божае Маці ён нагадаў, што бацькі мусяць зь дзяцінства выхоўваць у сваіх дзецях пашану да старэйшых, пачуцьцё павагі да сваіх дзядоў і бабуль, інакш востра паўстане адвечная праблема бацькоў і дзяцей. Пасьля Богаслужэньня, у падцаркоўнай залі адбыўся пачастунак, які прыгатавалі для бацькоў іх жонкі й дочкі. Яны-ж прыкалолі на лацкаты пінжакоў прыгожыя кветкі, якія дапасоўвалі да вясёлага настрою, што спадарожнічаў гэтаму цудоўнаму сьвяту бацькоў.



## Дзень незалежнасьці

адчыніў ў Нью Ёрку парад прыгожых ветразьнікоў, а ў Кліўлендзе, на беларускім «Полацку» пачаўся летні сэзон. Кіраўніцтва грамадзка-асьветніцкага цэнтру «Полацак» запрасіла ўсіх беларусаў і іх сяброў на пікнік, каб разам адзначыць традыцыйнае амэрыканскае сьвята. Пасьля сумеснага абеду, шматлікіх гутарак і жартаў, пасьля захаду сонца адбыўся фэерверк, які прывёў у захапленьне дзяцей і даставіў нямала прыемных хвілінаў іх бацькам.



## Лісты ад Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкага і Беларускай Праваслаўнй Парафіі сьвятога Юрыя

да амбасадара Беларускай місіі пры ААН Генадзя Бураўкіна і консуля Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Сакалоўскага даслаў у рэдакцыю часопіса Полацак» сакратар царкоўнай рады парафіі сьв.Юрыя Мікалай Латушкін. У іх гаворыцца:



# *St. George Byelorussian Orthodox Church*

**1500 NORTH MAPLEWOOD AVENUE**
**CHICAGO, ILLINOIS, 60622**

28 травеня 1992 г.

Высокадастойны Амбасадар!

Управа Беларускай Праваслаўнай Парафіі «Сьвятога Юрыя» ў Чыкага перасылаюць Вам і Вашай жонцы Юліяне нашу шчырую падзяку за тое, што Вы наведалі нас і прынялі ўдзел у сьвяткаваньні залатога юбелея пяцідзесяцігадовай дзейнасьці Беларускай Нацыянальнай Рады ў Чыкага, адной найбольш доўгавечнай беларускай арганізацыі на Амэрыканскім кантыненьце.

Ваш безгранічна глыбокі беларускі патрыятызм ускалыхнуў душы прысутных на сьвяточнай урачыстасьці і пастаўленае пытаньне «быць ці ня быць» беларускай нацыі пры паўнавартасным жыцьці як народу — стала на парадку дня. І гэта пытаньне мы, беларусы, павінны вырашыць, ці мы і надалей будзем заставацца народам як цяпер «для розных эканамічных ці мэдыцынскіх эксперыментаў» мацьнейшымі народамі, ці выйдзем роўнапраўнымі і, як народ, зоймем нам належнае «пачэснае месца між народамі»?

Шчыра Вам удзячныя за пераданыя нам сувэніры з Бацькаўшчыны, за цеплыню Вашых душаў да нас — эмігрантаў, якія пад напорам брутальных сілаў пакідалі ўсё сваё роднае і пайшлі ў няведамы сьвет неназванымі «амбасадарамі» паняволенага народу, каб перахаваць народныя скарбы.

Адначасова на Ваша імя Парафіяльная Управа перасылае чэк сумай 500.00 даляраў на патрэбы Амбасады Рэспублікі Беларусь. Наш абаюдны давер і зразуменьне зьяўляецца запарукай перамогі дабра над злом, любові над нянавісьцю.




Старшыня Царкоўнай Управы — /Александар Яшко/

Сакратар Царкоўнай Управы — /Мікалай Латушкін/



# Byelorussian American National Council

1500 N. MAPLEWOOD AVENUE

Founded, 1941 CHICAGO, ILLINOIS 60622

28 травеня 1992 г.

Высокадастойны Амбасадар!

Управа Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкага і сябры арганізацыі перасылаюць Вам і Вашай жонцы Юліяне наша шчырае дзякуй за Ваш актыўны удзел у сьвяткаваньні залатога юбелея пяцідзесяцігадовай арганізацыі ў Чыкага.

Ваша прыстунасьць на ўрачыстасьці і Вашы прамовы й інфармацыі пра сапраўдную рэчаіснасьць на нашых бацькаўскіх землях паслужаць заклікам да кожнага беларускага сэрца падумаць пра тое, куды нас прывёў савецкі інтэрнацыяналізм і ў якім рабстве-няволі духовага жыцьця цяпер мы, як народ, знаходзімся.

Шчыра Вам дзякуем за пераданыя нам сувэніры, зробленыя на Бацькаўшныне, а найбольш за тое, што ў беларускіх сэрцах жыве любоў да бліжняга і не зьвялася справядівасьць у суадносінах паміж людзьмі.

Жадаем Вам найлепшага здароўя і посьпехаў у Вашай адказнай і нялёгкай працы і верым у перамогу дабра над злом. Застаёмся із шчырай пашанай да Вас.

Старшыня Управы БАНРады ў Чыкага

/Міхась Каленік/



Сакратар БАНРады ў Чыкага

/Анатолі Новік/

Лісты з аналягічным тэкстам, а таксама чэк у памеры 500,00 даляраў быў дасланы консулю Рэспублікі Беларусь Уладзіміру Сакалоўскаму.





Народная артыска Беларусі Стэфанія Станюта

